*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
15
МАЯ
1992 г.
№ 20 (3638)

ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.

КОШТ — 50 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)





**Калісьці Леў Іванавіч Талбузін, цяпер дацэнт кафедры дызайна Беларускай акадэміі мастацтваў, сам скончыў гэтую ВНУ. Праўда, тады яна называлася тэатральна-мастацкі інстытут, і быў гэта першы выпуск памянёнай кафедры. Леў Іванавіч выкладае з 1970 года. Майстар працуе ў медальерным мастацтве, малой скульптурнай пластыцы, графічным дызайне. Ён аўтар дэкаратыўна-фармальных кампазіцый, што аздабляюць станцыю метро «Плошча Якуба Коласа». Ім распрацаваны графічны эталон дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь (у сааўтарстве) і аб'ёмны эталон «Пагоні».**

**Але ягоны творчы рахунак — гэта не толькі матэрыяльныя аб'екты. Трэба прыгадаць яшчэ дзесяткі выхаванцаў Льва Іванавіча, выпускнікоў кафедры дызайна, якім ён дапамог знайсці ўласны шлях у мастацтве.**

**Леў Талбузін у свой час адмовіўся ад членства ў Саюзе дызайнераў і ў Саюзе мастакоў з прычыны катэгарычнай нязгоды з іх статутамі і ад нежадання падпарадкоўвацца ідэалагізаваным структурам. Але ў Беларускі народны фронт «Адраджэнне» ўвайшоў з першых дзён яго існавання. Ён адзін з аўтараў афармлення буйнейшых агульнанацыянальных акцый фронту — «Чарнобыльскі шлях-1990», «Дзяды-1990», канферэнцый, з'ездаў.**

**В. БОГУШ.**

Фота У. ПАНАДЫ.

# Кола Дзён

**7 МАЯ** У Мінску сустрэліся консульскія работнікі Беларусі, Украіны, Расіі, Малдовы, Азербайджана, Казахстана і Узбекістана. У ходзе двухдзённай нарады дэлегацыі гэтых краін абмяркоўвалі праблемы свабоднага перамяшчэння грамадзян СНД і ўзаемнага прызнання віз незалежных дзяржаў.

**8 МАЯ** Апублікаваны пакет пастаноў, якія Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў у выкананне рашэнняў Вярхоўнага Савета аб стварэнні Узброеных Сіл Беларусі. Наколькі можна меркаваць, вайсковае будаўніцтва ў рэспубліцы пачалося з перастановак у складзе камандавання. Былы камандуючы Беларускай вайсковай акругай генерал-палкоўнік А. Кастэнка (акруга цяпер скасавана) стаў першым намеснікам міністра абароны В. Казлоўскага, які быў да гэтага начальнікам штаба БВА. Адным з яго намеснікаў прызначаны П. Чавус, які яшчэ нядаўна выконваў абавязкі міністра абароны. В. Казлоўскі атрымаў у рангу міністра званне генерал-палкоўніка. Рашэннем Саўміна таксама павышаны ў званнях шэраг военачальнікаў. Дарэчы, задачу кіраўніцтва рэспублікі па стварэнні нацыянальнага войска зрабіў больш лёгкай сам прэзідэнт Расіі. Паколькі Б. Ельцын падпісаў указ аб стварэнні расійскіх узброеных сіл, Савецкая Армія спыніла сваё існаванне дэюрэ. Праўда, камандаванне аб'яднанымі стратэгічнымі сіламі СНД застаецца пакуль за маршалам Я. Шапашнікавым.

Упершыню было падпісана трохбаковае пагадненне паміж Саветам Міністраў Беларусі, аб'яднаннямі работадаўцаў рэспублікі і саветам Федэрацыі прафсаюзаў. Ад імя работадаўцаў выступілі Беларуская навукова-прамысловая асацыяцыя, Саюз прадпрымальнікаў і арандатараў, Саюз кааператараў і Саюз малых прадпрыемстваў. Пагадненне заключана на 1992 год.

**9 МАЯ** У гэты дзень, як і заўсёды, прайшлі сустрэчы былых аднапалчан, партызанаў і падпольшчыкаў, ляглі кветкі да помнікаў тых, хто загінуў у Вялікай Айчыннай. Напярэдадні з ветэранамі вайны сустрэўся Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі С. Шушкевіч. У азнаменаванне Дня Перамогі ў сталіцы рэспублікі і ў Брэсце адбыліся святочныя феерверкі.

У Мюнстэры (ФРГ) завяршылася сустрэча міністраў эканомікі, прамысловасці і гандлю краін «сямёркі», а таксама краін Цэнтральнай Еўропы, Беларусі, Расіі, Украіны і Казахстана. У сустрэчы прымалі ўдзел камісія Еўрапейскага супольніцтва, Арганізацыя эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця і Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця. Абмяркоўваліся пытанні, звязаныя з магчымасцю заходніх інвестыцый у эканоміку краін, якія крочаць шляхам рэформ і паскарэння інтэграцыі ў сусветную эканамічную супольнасць.

**10 МАЯ** Прадстаўнікі нацыянальна-дэмакратычных партый і рухаў з Закаўказзя, Прыбалтыйскіх краін, Украіны, Малдовы, Польшчы ўзялі ўдзел у міжнароднай канферэнцыі «Шляхі пабудовы дэмакратычнай дзяржавы», якая пачалася ў нядзелю ў маладзёжным цэнтры «Юнацтва» пад Мінскам. Беларусь прадстаўлена Нацыянальна-дэмакратычнай партыяй і Беларускім народным фронтам.

**11 МАЯ** Цэнтральная выбарчая камісія Беларусі вынесла станоўчае заключэнне па выніках праверкі падпісных лістоў, сабраных ініцыятыўнай групай БНФ па правядзенні рэферэндуму.

У Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь адбылася прэс-канферэнцыя прадстаўнікоў Міжнароднага валютнага фонду З. Мюрэя і Ф. Эрнанда. Было падкрэслена права кожнай дзяржавы мець сваю валюту. МВФ можа аказаць тэхнічную дапамогу рэспубліцы ў арганізацыі нармальнага грашовага ўжытку і фінансавай сістэмы.

**12 МАЯ** Міністр замежных спраў Беларусі П. Краўчанка сустрэўся са старшынёй міжнароднай канферэнцыі па ўрэгуляванні канфлікту ў Нагорным Карабаху М. Рафаэлі.

У сталіцы Узбекістана Ташкенце пачалася рабочая нарада прадстаўнікоў абаронных ведамстваў краін СНД, якая праводзіцца ў рамках падрыхтоўкі да сустрэчы кіраўнікоў незалежных дзяржаў. Перад гэтым у Ташкенце сабраліся міністры замежных спраў краін Садружнасці. Між тым, як стала вядома, у Ташкент не прыедзе прэзідэнт Украіны Л. Краўчук. Раней аб немагчымасці ўдзелу ў сустрэчы заявілі прэзідэнты Кыргызстана і Малдовы. Малаверагодны прыезд кіраўнікоў Азербайджана, Арменіі, Таджыкістана. Так што перспектывы «саміту» ў Ташкенце выглядаюць вельмі туманна.

# НА ШЛЯХУ ДА РАЗВЯЗКІ

### Вярхоўны Савет Беларусі абавязаны прызнаць дату рэферэндуму

Цяпер, калі рашэнне аб правядзенні рэферэндуму прынята, можна, канечне, гаварыць, што іншага і не магло быць, бо немагчыма ігнараваць волю амаль чатырохсот тысяч грамадзян Беларусі, што падпісаліся ў яго падтрымку. Але журналісты, запрошаныя на пасяджэнне Цэнтральнай выбарчай камісіі, былі сведкамі таго, з якой цяжкасцю і з якімі спрэчкамі прымалася гэтае рашэнне...

Мабыць, варта нагадаць, што ЦВК сабралася ў абноўленым складзе, паколькі нядаўна Вярхоўны Савет давыбраў новых членаў камісіі замест тых, што выбылі. (Дарэчы, як сказаў старшыня ЦВК А. Абрамовіч, некаторыя з раней выбраных членаў камісіі ўпарта ігнаруюць яе пасяджэнні, што магло заблакіраваць прыняцце любых рашэнняў). Апазіцыя БНФ заявіла прэтэнзіі з тае прычыны, што абраннікі Вярхоўнага Савета прадстаўляюць, за малым выключэннем, былую партыйную наменклатуру, і ў камісіі няма ніводнага прадстаўніка дэмакратычных партый і рухаў. Так што спадзявацца на непрадузятасць новых членаў ЦВК ініцыятыўнай групе БНФ па правядзенні рэферэндуму, відаць, не даводзілася. І сапраўды, з боку камісіі да яе было выстаўлена шмат прэтэнзій і абвінавачванняў у парушэнні літары закона.

Зноў, каторы раз, узнімалася пытанне аб правамоцнасці выкарыстання факсімільнага подпісу для зацвярджэння падпісных лістоў. Некалькі тысяч лістоў (і тым самым — дзесяткі тысяч подпісаў) былі прызнаны несапраўднымі, паколькі яны завераны не пячаткамі выканкомаў, а пячаткамі іх агульных аддзелаў (!). У ходзе праведзенай праверкі былі выяўлены некаторыя парушэнні, памылкі і пагрэшнасці, дапушчаныя грамадзянамі пры запаўненні лістоў. У выніку яшчэ некалькі дзесяткаў тысяч подпісаў таксама аб'яўлены несапраўднымі. Тым не менш, 384 тысячы подпісаў сумненню не выклікаюць. А для рэферэндуму хапіла б і 350 тысяч.

Практычна ніводнага факта фальсіфікацыі з боку ініцыятыўнай групы БНФ камісія не прывяла. Гэта падкрэсліў на прэс-канферэнцыі пасля пасяджэння ЦВК старшыня ініцыятыўнай групы У. Анцулевіч. На яго думку, выяўленыя парушэнні — або вынік чужых памылак і неахайнасці (як у выпадку з пячаткамі выканкомаў), або чыста тэхнічны брак.

Віну мясцовых выканкомаў, нізкую прававую культуру іх работнікаў фактычна вымушана была прызнаць і выбарчая камісія. Старшыня ЦВК А. Абрамовіч звязаў выяўленыя фармальныя парушэнні закона і недарэчнасці з адсутнасцю практыкі ў такой новай справе, як рэферэндум. Дух закона ў тым, сказаў ён, каб забяспечыць грамадзянам права на правядзенне плебісцыту. Дапамогу ж у яго правядзенні павінна аказваць дзяржава ў адпаведнасці з агульнапрынятымі дэмакратычнымі нормамі.

Розную рэакцыю членаў камісіі выклікала пытанне амерыканскай журналісткі з «Арызона-таймс» адносна магчымага ўдзелу міжнародных экспертаў у назіранні за ходам рэферэндуму. Але старшыня камісіі, у рэшце рэшт, выказаўся адназначна: прысутнасць міжнародных назіральнікаў пажадана.

Ніхто з прысутных не рызыкнуў прагназаваць рэакцыю парламента на прынятае рашэнне. Можна ўявіць, што дзень, калі ЦВК вынесла свой вердыкт, для многіх дэпутатаў стаў «чорным панядзелкам». Старшыня БНФ З. Пазняк нагадаў, што ў Вярхоўнага Савета няма, па сутнасці, альтэрнатывы: ён павінен толькі прызначыць дату правядзення рэферэндуму. Пры гэтым лідэр апазіцыі ў своеасаблівай манеры параіў дэпутатам на той выпадак, калі яны захочуць адцягваць рашэнне, задумацца над апошнімі падзеямі ў Таджыкістане...

Слушнай выглядае думка У. Анцулевіча аб тым, што збор подпісаў і сам рэферэндум — лепшы спосаб разрадзіць напружанасць у грамадстве, скіраваць незадаволенасць людзей цяперашнім становішчам у рэчышча законнага волевыяўлення.

Да развязкі, аднак, яшчэ далёка. І кульмінацыя палітычнай барацьбы таксама, можна меркаваць, яшчэ наперадзе.

**Віталь ТАРАС.**

# «Выратуем дзяцей!»

Тэлемарафон пад такім дэвізам адбудзецца ў прамым эфіры 16 мая па Беларускім тэлебачанні. З ініцыятывай правядзення марафона выступіў Беларускі дзіцячы фонд (прэзідэнт фонду — пісьменнік У. Ліпскі). Мэта яго правядзення — сабраць грошы на карысць дзяцей, якім патрэбна неадкладная дапамога.

Аргкамітэт марафона ўзначальвае член праўлення дзіцячага фонду, міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь А. Бутэвіч. Дапамогу ў арганізацыі аказалі міністэрствы, творчыя саюзы, прадпрыемствы і ўстановы рэспублікі, а таксама тысячы сяброў дзяцей.

У тэлемарафоне прымуць удзел народныя дэпутаты, вядомыя палітычныя і грамадскія дзеячы Беларусі, іншых незалежных дзяржаў.

Грашовыя ахвяраванні ў дапамогу дзецям прымаюцца на рахунак 707801 у Гарадской дырэкцыі МББ (Мінск) з адзнакай «Тэлемарафон». Валютны рахунак 0007901 у Знешэканомбанку Беларусі. Можна ўказаць канкрэтную праграму, на якую пераводзяцца грошы: «Чарнобыль і дзеці», «Цёплы дом», «Дзеці пад апекай», «Сям'я», «Хворыя дзеці», «Хуткая дапамога».

Удзел у марафоне можна прыняць, звярнуўшыся ў яго штаб у будынку тэатра оперы і балета ў Мінску 16 мая з 9 гадзін раніцы да 23-00. Прапановы і парады прымаюцца па тэлефонах 36-62-14, 36-62-67, 36-66-77.

**З ПОШТЫ ТЫДНЯ**

# НАША МАЛІТВА

Што тут казаць, парад суверэнітэтаў і дзяльба ўлады вярхамі, апантаныя пошукі абутку і адзення нізамі адсунулі пытанне нацыянальнага адраджэння. Можа, нехта і мае рацыю, гаворачы, што з мовай і культурай трэба крыху пачакаць, аднак я з гэтым ніколі не згаджуся. А пакуль нават у парламенце моўнае пытанне наводзіць кіслыя міны на твары народных выбраннікаў, калі не сказаць больш, і шчыра хваліце толькі асобных дэпутатаў, прынамсі, шаноўнага Ніла Гілевіча і няўрымслівага Яўгена Цумарава. А некаторыя перайшлі на сякую-такую беларускую мову і лічаць, што сваю задачу выканалі. Відаць, парашылі, што пугай абуха не пераб'еш. А з каго ж народ будзе браць прыклад? Якая ж мы незалежная дзяржава, калі раней нацыянальнае адраджэнне залежала ад нашай маскоўскай залежнасці, а цяпер ужо залежыць ад уласнай незалежнасці, даруйце за такі каламбур? Той закон аб мовах, што быў прыняты ў пакутлівых спрэчках, не працуе і наўрад ці запрацуе. Трэба прымаць новы. Бо то быў маскоўскі, пракамуністычны закон, а нам трэба беларускі, дэмакратычны. Той закон мы не выканаем і праз 50 год. Тым больш, што яго па-здрадніцку ігнаруюць людзі, адказныя за яго выкананне. Па такім сцэнарыі, прабачце, мы жылі не адно дзесяцігоддзе. Чамусьці ў гады камуністычнага праўлення неслухаў і няўгоднікаў гналі з працы, з пасады, з краіны. Я не заклікаю прыпадабняцца да застойных метадаў, але ж, калі загадчык аддзела народнай адукацыі раёна ці вобласці свядома пагарджае законам і не спрыяе яго выкананню, дык ці не справядліва было б папрасіць яго пашукаць іншае месца працы?

Самае, бадай, прыкрае і балючае, што ўелася ў душу апошнім часам, гэта тое, што людзі ці то баяцца, ці то саромеюцца загаварыць па-беларуску. Хутчэй за ўсё другое, а гэта жахліва. Сустракае мяне неяк адзін знаёмы — адукаваны, паважаны мной чалавек. Стаім, гутарым, а ён раптам: «Глянь, як ты добра па-беларуску шпарыш!». «А што цябе так здзіўляе?» — пытаюся. «Дык ты ж замежную мову выкладаеш! А я вось ніяк не асмелюся перайсці»,— таропка прызнаецца ён. Так заняволіць дух, так ачмурыць розум беларусаў, што яны баяцца і саромеюцца сваёй мовы! Не выпраўляць гэтую памылку — значыць заслужыць праклён Бога і нашчадкаў. Будзіць трэба людзей, будзіць ад летаргічнага сну. Царква разбудзіць веру, а хто ж разбудзіць гонар беларуса? Дакуль спацьме Беларускае тэлебачанне? Колькі ўжо можна глядзець посныя, на нейкай штучнай мове перадачы на адной праграме? Большасць вядучых думаюць і размаўляюць па-расейску, таму й мова ў іх ненатуральная, завучаная. Калі ўжо самі дыктары робяць памылкі, а каментатары ўвогуле часам пераходзяць на нейкі пскоўска-магілёўскі дыялект, дык з каго тады браць узор культуры мовы? Ды і ў тэат-

# Што пагражае Заслаўю

Як вядома, Мінскім гарвыканкомам прынята рашэнне аб пашырэнні гарадской зоны Мінска і далучэння да яе, у прыватнасці, Заслаўя з ваколіцамі. Гісторыка-культурны запаведнік «Заслаўе» лічыць неабходным выказаць сваю пазіцыю на гэты конт.

Заслаўе — адзін з найстаражытнейшых гарадоў Беларусі. Летапісы яго ўспамінаюць яшчэ ў 985 г., г. зн. на 122 гады раней, чым Мінск. Яго гістарычнае мінулае, авеянае легендамі, для кожнага беларуса мае і пэўную сімвалічную афарбоўку. Заслаўе стаяла ля вытокаў беларускай народнасці, адсюль пайшло хрысціянства на Беларусі. Вобраз гордай крывіцкай князёўны Рагнеды стаў вобразам нескаронасці, годнасці і хрысціянскай цярплівасці беларускага народа. На гэтай зямлі і па сёння жыве своеасаблівы культ продкаў, які мы павінны зберагчы для будучых пакаленняў беларусаў.

На тэрыторыі сучаснага Заслаўя засталіся шматлікія помнікі мінуўшчыны, у якіх, нібыта ў люстэрку, адбілася не толькі гісторыя маленькага беларускага гарадка, але і ўся гісторыя нашага шматпакутнага краю. Гэта і першая славянская каланізацыя былых балцкіх плямёнаў у выглядзе тысячы крывіцкіх курганоў, эпоха полацкай дзяржаўнасці, пакінуўшая нам у спадчыну «Замачак»; барацьба за самастойнасць Вялікага княства Літоўскага, рэфармацыя на Беларусі знайшлі сваё адлюстраванне ў адным з найпрыгажэйшых архітэктурных помнікаў — кальвінскім зборы. XVIII стагоддзе падарыла нам помнікі барочнага стылю — касцёл Св. Марыі, рэшткі панскай сядзібы, старажытныя ландшафты.

Гістарычная адметнасць Заслаўя была галоўнай падставай для стварэння ў 1986 годзе на яго тэрыторыі запаведніка, галоўнай задачай якога стала задача захавання гістарычнага і экалагічнага асяродка Заслаўя.

Далучэнне Заслаўя да гарадской зоны Мінска, уплыў гарадской сталічнай культуры парушыць мікраструктуру старажытнага Заслаўя, адмоўна адаб'ецца на менталітэце тутэйшага насельніцтва. Заслаўе страціць сваю адметнасць. Такія гарады, як Заслаўе, Нясвіж і іншыя, ва ўсім свеце адносяць да унікальных гістарычных тэрыторый і аб'яўляюцца нацыянальнай каштоўнасцю. Прыклад — Загорск, Суздаль — у Расіі, Ле-Крэзо — у Францыі, От Бос — у Канадзе і г. д.

На нашу думку, уключэнне Заслаўя ў мегаполіс «Вялікі Мінск» нанясе непапраўныя гістарычныя, экалагічныя, эканамічныя і маральныя страты. Урбанізацыя, забудова маляўнічых краявідаў, размяшчэнне прамысловых базаў у ваколіцах Заслаўя — вось што стаіць за перспектываю стварэння рэзервовай зоны сталіцы.

15 красавіка на сесіі гарадскога Савета пераважная большасць дэпутатаў выказала нязгоду з рашэннем Мінгарвыканкома. Прыняты зварот у адрас урада Рэспублікі Беларусь. Спадзяёмся, што наш ліст не застанецца па-за ўвагаю інтэлігенцыі Беларусі.

**По даручэнні калектыву запаведніка «Заслаўе» —**
**А. КАЛБАСКА, дырэктар запаведніка, дэпутат гарадскога Савета;**
**А. СТАШКЕВІЧ, намеснік дырэктара па навуцы.**

# Хроніка Адраджэння

Упершыню на Беларусі ў Віцебску выйшаў пераклад рэлігійнай кнігі «То казаў Буда», які зрабіў Юрась Карпаў. Выданне надрукавана лацінкаю.

●

На Віцебшчыне заснавана першая беларускамоўная праваслаўная газета «Наша праваслаўе». Арфаграфія ў ёй — без уліку сумнавядомай рэформы 1933 года.

●

На Беласточчыне выйшаў першы нумар «Рацыі» — інфарматара Галоўнай рады Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднання. Гэтае польскамоўнае выданне мяркуе «прысвяціць найболей увагі менавіта беларускаму разуменню дзяржаўнага парадку».

●

З поспехам прайшла персанальная выстава выкладчыка Віцебскага педінстытута мастака і даследчыка Юрыя Якімовіча. На ёй былі прадстаўлены жывапісныя працы і рэканструкцыі, якія ўяўляюць сабой галерэю помнікаў беларускага дойлідства розных эпох і стыляў.

**Падрыхтаваў Юрась СЦЯПАНАЎ.**

ПРЭМ'ЕРЫ

# «Фаўст» зноў памаладзеў

Мефістофеля ў гэтым спектаклі, воляю рэжысёра, суправаджае «каманда» — безназоўныя персанажы, якія сімвалізуюць д'ябальскія сілы. Іх прысутнасць падрыхтоўвае і цалкам апраўдвае з'яўленне на сцэне «Вальпургіевай ночы» — карціны, якая ва ўсіх пастаноўках успрымаецца бліскучым, але ўстаўным нумарам. А ў фінале пачвары курчацца ў пякельным полымі, якому супрацьстаіць святло выратавання душы чалавечай, перамога вышэйшай маральнасці. Гучыць хрысціянская малітва, якая доўгія гады выкрэслівалася савецкай цэнзурай з партытуры оперы... Наогул, у прэм'еры «Фаўста» ёсць на што падзівіцца. Дэкарацыі Ю. Усцінава, дырыжорская канцэпцыя прафесара Ю. Кочнева, які ставіў на мінскай сцэне «Тоску». Салісты, пераважна ўчарашнія дэбютанты. Славутая харэаграфія Л. Лаўроўскага ў «Вальпургіевай...», узноўленая сынам балетмайстра М. Лаўроўскім; танцы ў пастаноўцы Л. Трамбавельскай, якая распрацоўвала харэаграфію шэрагу спектакляў нашага ДАВТа.



Маргарыта — І. БІКУЛАВА, Фаўст — А. КУЛЬКО.



Страсці «Вальпургіевай ночы».

Але папулярная опера Ш. Гуно перажывае сваю маладосць... не ў Мінску. Прэм'ера адбылася ў Вялікім тэатры ў Маскве, і група энтузіястаў з Беларусі наведалася туды — падтрымаць свайго земляка, народнага артыста рэспублікі С. Штэйна, запрошанага на пастаноўку. Гэта пятая работа рэжысёра ў «Большом». Асаблівых цяжкасцяў у яе падрыхтоўцы, нягледзячы на нестабільнасць цяперашняй сітуацыі, не адчувалася, калі не лічыць частых ад'ездаў салістаў, у тым ліку моладзі, для працы па замежных кантрактах (раней ездзілі 2—3 «зоркі»). Ды несвоечасовасць вырабу мастацкага афармлення, касцюмаў: з-за таго прэм'еру сыгралі на пару тыдняў пазней і без славутага баса Я. Несцярэнкі, які з'ехаў на замежныя гастролі. А ён жа — галоўны «віноўнік» пастаноўкі: маючы ў рэпертуары партыю Мефістофеля, спявае яе па ўсіх сцэнах свету, апроч роднай маскоўскай. Вось для яго і паставілі «Фаўста». Славуты артыст спяе спектакль у чэрвені. А пакуль поспех прэм'еры забяспечвае моладзь: І. Бікулава (Маргарыта), А. Кулько (Фаўст), Г. Селезнеў (Мефістофель), іншыя салісты.

Ці дачакаемся мы абнаўлення несмяротнага «Фаўста» ў Мінску? З гэтай операй звязаны пачатак гісторыі нашага ДАВТа, ёсць яна ў рэпертуары і сёння, але спектакль даўно састарэў...

**С. Б.**

рах — здавалася б, моўных храмах — усяго наслухаешся.

Расейскі тэлевізійны канал неўзабаве запалоніць увесь тэлеэфір, а беларусы дадумаліся толькі да камерцыйнага кабельнага тэлебачання. Нам жа патрэбна мець не менш як тры нацыянальныя каналы, інакш у нас праз дзесяць год пачуеш якую хочаш мову, толькі не беларускую. А пакуль што нават «Крок» не шкадуе эфірнага часу такім асобам, як Жырыноўскі, які хоча зноў аб'яднаць нас пад адзіным чырвоным сцягам і, відавочна, зноў усіх нас вучыць «единому для всей российской империи могучему русскому языку».

Абыякава, проста здрадліва, інакш выказацца я не магу, аднесліся кіраўнікі беларускай дзяржавы да народнай адукацыі ў плане выканання Закона аб мовах. Мажліва, таму ён не выконваецца? Школы і дзіцячыя садкі — гэта Мекка для беларускай мовы. І не трэба шкадаваць грошай дзецям (колькі прапілі і прагулялі іх нашы кіраўнікі за гады савецкай улады!). Бацькоўскі сход з заняткамі выхавацелька маёй малодшай дачкі праводзіла пабеларуску. У канцы, калі ўсе бацькі выказвалі свае пажаданні, я папрасіў адно: вучыць дзетак правільнай, прыгожай роднай мове. Жанчына збянтэжылася, адказаўшы, што яна сама яе добра не ведае. А колькі такіх спецыялістаў у народнай адукацыі? Я ўжо даўно не быў на курсах павышэння кваліфікацыі ў інстытуце ўдасканалення настаўнікаў, аднак мне здаецца, што кіраўнікам гэтых устаноў трэба шмат папрацаваць, каб перабудаваць сваю работу. Трэба запрашаць больш нашых славутых гісторыкаў, этнографаў, фалькларыстаў, пісьменнікаў, мовазнаўцаў, не баяцца заплаціць ім лішнюю сотню, затое карысці будзе куды больш, чым ад нудных лекцый невядома аб чым. Ды ўвогуле ўсю школьную праграму трэба неадкладна перапрацаваць, ачысціць яе ад напышлівага камуністычнага пафасу, даць настаўнікам магчымасць выхоўваць не двурушных сяброў-інтэрнацыяналістаў, а высокадухоўных партнёраў свайго народа і краю. Асабліва гэта тычыцца прадметаў гуманітарнага цыкла.

Трэба абавязкова ўвесці ў школе такія прадметы, як «Нацыянальная культура Беларусі», «Гісторыя вуснай народнай творчасці» і іншыя. Прывабіць у школу як мага больш здольных спецыялістаў. Ды і саміх настаўнікаў заахвоціць працаваць над сабой, а то ж некаторыя, апроч праграмнага матэрыялу, мала што чытаюць. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, настаўнік ні ў якім разе не павінен апускацца да ўзроўню абывацеля.

Вядома ж, і ўраду трэба паклапаціцца, каб мы не калаціліся над кожным рублём. Ды за адно толькі званне «Настаўнік Рэспублікі Беларусь», шаноўныя спадары заканадаўцы, варта плаціць 1000 рублёў. У нас жа і так не педагагічныя калектывы, а жаноцкія манастыры. Неўзабаве апошнія мужчыны паўцякаюць у сумесныя прадпрыемствы, і ў школе не будзе каму нават цвік забіць. Ці задумваліся вы над гэтым? Баюся, што большасць нашых дэпутатаў былі ў школе толькі тады, калі яшчэ самі вучыліся. Так што, не чытайце на сесіях газеты і не расказвайце адзін аднаму старыя анекдоты (бо ўсё бачна на тэлеэкране), калі на трыбуну прарываецца прадстаўнік настаўніцтва і змагаецца за наша існаванне. Дый за ваша таксама, бо мы ж і вашых дзяцей вучым і выхоўваем.

Вельмі памыляюцца тыя нашы палітыкі, што спадзяюцца спярша вырашыць эканамічныя праблемы, а пасля ўзяцца за мову і культуру. А людзі менавіта так і зразумелі цяперашнюю стратэгію нашага парламента. Вось і паспрабуй пераканаць іх, што беларускай мове наканавана адрадзіцца і жыць вякамі. І не трэба паддавацца палітычнаму вэрхалу ў нацыянальным адраджэнні. Сёння нехта прапануе падпарадкаваць Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны і штотыднёвік «Наша слова» згуртаванню «Бацькаўшчына», заўтра некаму ўздумаецца адраджаць нацыянальную культуру і мову Беларусі разам з агульнаславянскай, бо створаны саюз незалежных славянскіх дзяржаў. Не трэба кідацца ва ўсялякія авантуры, не трэба нам беларускіх жырыноўскіх. ТБМ імя Ф. Скарыны лічыцца прапагандысцка-асветніцкай арганізацыяй. Дзейнасць яго трэба паставіць на дзяржаўную аснову ва ўсёй беларускай дзяржаве, тады ад яго будзе карысць.

Выхаванне нацыянальнай свядомасці — справа няпростая і справіцца з ёй будзе нялёгка. Вера ў родную мову — гэта вера ў Бога, вера ў самога сябе, у сваю нацыю, усведамленне свайго неабходнага існавання на гэтай зямлі. «Божа літасцівы! Калі ты сапраўды ёсць, не давай мне ні раскошы, ні сытай долі, а дай сілы і розуму абудзіць няшчасных, для каго родная мова стала сорамам, для каго матчына мова па-ранейшаму лічыцца знакам ніжэйшай расы людзей «северо-западного края». Хай гэта будзе кароткай малітвай для ўсіх, хто верыць у нацыянальны ўзлёт беларусаў, і праклёнам для тых, хто наканоўвае фатальны зыход для нашай няшчаснай нацыі.

**Мікола ЛЯШЧУН, старшыня Лагойскай рады ТБМ імя Ф. Скарыны, член Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.**

г. п. Лагойск.

**ПРЫРОДА І МЫ**

# Толькі песня душу цешыць, а сама Пушча—канае...

У ВЕРАСНІ мінулага года амаль незаўважна для шырокай грамадскасці прайшла пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь «Аб рэарганізацыі дзяржаўнай запаведна-паляўнічай гаспадаркі «Белавежская пушча». А між тым, за кароценькай пастановай стаіць вялікая і балючая праблема нашай нацыянальнай святыні, якой, бадай што, няма роўнай у свеце.

...Гады два-тры назад у Белавежскай пушчы ва ўсю грукалі сякеры: брыгады цесляроў секлі запаведны лес і ставілі з яго... зрубы для дач. Для каго прызначаліся тыя дачы, можна толькі здагадвацца. Мала ўжо было цешыць сябе «царскімі» паляваннямі. Апетыт прыходзіць у час яды. Чаму ж для ўласнай двухпавярховай дачкі не замахнуцца на елку ды сасну ў славутай на ўвесь свет пушчы, прытым экалагічна чыстай у радыяцыйных адносінах? А на тое, што Белавежская пушча — нацыянальная гордасць беларускага народа, што гэта унікальны прыродны комплекс, якіх не так і шмат на Зямлі, чынадралам было начхаць.

Спіраль дэградацыі Белавежскай пушчы як запаведніка пачала раскручвацца яшчэ некалькі дзесяцігоддзяў назад. Тады яшчэ, насуперак здароваму сэнсу і элементарнай прыстойнасці, нарадзіліся на свет божы стварэнні, якіх не ведаў цывілізаваны свет. У 1957 годзе па ініцыятыве былога міністра сельскай гаспадаркі СССР В. Мацкевіча некалькі лепшых запаведнікаў краіны, у тым ліку і Белавежская пушча, былі пераўтвораны ў так званыя «запаведна-паляўнічыя гаспадаркі», і ў іх паявіліся не вучоныя, а людзі са зброяй.

Супраць гэтага паўсталі вядомыя савецкія вучоныя, пярэчыла камісія па ахове прыроды АН СССР, Усерасійскае таварыства аховы прыроды, але ўладу маючыя засталіся глухія і нямыя. Інтарэсы саноўных асоб былі пастаўлены вышэй за інтарэсы народа і навукі. Своеасаблівыя прыродныя спецразмеркавальнікі амаль адкрыта дзейнічалі ў самых славутых прыродных кутках краіны — пад шумлівыя вадаспады слоў аб клопатах пра захаванне унікальных мясцін, іх жывёльнага і расліннага свету.

**Якое ж багацце Пушчы прыбрала да сябе адміністрацыйна-камандная сістэма і як яна ім распарадзілася?**

На яе тэрыторыі налічваецца 59 відаў млекакормячых, 227—птушак, 27—рыб, шмат відаў насякомых і іншых беспазваночных, а таксама раслін. Бадай што нідзе не знойдзеш стольні рэдкіх жывёл і раслін, занесеных у Чырвоную кнігу, як у пушчанскіх лясах: 31 від жывёл і 39—раслін. Здавалася б, да ўсяго гэтага багацця, якое дала нам прырода, трэба падступацца экалагічна пісьменна, беражліва, каб захаваць яго, зрабіць пушчу буйной навуковай прыроднай лабараторыяй. Так напачатку і было, калі яна ў 1939 годзе была аб'яўлена запаведнікам.

На жаль, статус Белавежскай пушчы, як эталона і рэзервуара прыроды, усё больш і больш уступаў у супярэчнасць з дзейнасцю некантралюемай (ці кантралюемай зверху некампетэнтнымі ў навуковых адносінах асобамі) запаведна-паляўнічай гаспадаркі. Арганізаваныя на шырокую нагу паляванні і звязаныя з імі захады па штучным павелічэнні колькасці жывёл прывялі да яўнай дэградацыі славутага прыроднага комплексу. Дастаткова сказаць, што, паводле сведчання вучоных, на тэрыторыі пушчы за кошт падкормкі падтрымліваўся завышаны ў 1,5—2 разы ўзровень паляўніча-промыславых відаў жывёл, а гэта, у сваю чаргу, вычэрпвала натуральную кармавую базу, знішчала падрост і падлесак, змяняла структуру дрэвастою. Звяры пачалі залежаць ад кармушак, якія ставіў ім чалавек. Усё гэта за некалькі дзесяцігоддзяў прывяло да пагаршэння стану папуляцый, да зніжэння трафейнай каштоўнасці жывёл.

Пушчанская запаведная тэрыторыя спазнала нажы бульдозераў і каўшы экскаватараў меліяратараў, шчодра пасыпалася мінеральнымі ўгнаеннямі і ядахімікатамі, тут звінелі пілы і гахалі сякеры. У выніку рэчкі і рачулкі пушчы забруджаны, у многіх мясцінах пашкоджаны дрэвы і кусты, усыхаюць ельнікі, іншыя дрэвастоі.

Высокая шчыльнасць жывёл спрыяла ўзнікненню сярод іх хвароб. Нашто ўжо магутныя зубры, але і яны не вытрымалі антрапагеннага прэсу: з 1982 года па 1987 ад хвароб загінула 27 зуброў.

У 1982 годзе па нечай камандзе, каб мець больш вольнай прасторы для паляўнічых забаў, абсалютна запаведная зона перанесена з цэнтральнай часткі пушчы на ўскраіну, дзе вакол ляжаць меліяраваныя землі. Цяпер гэтая зона мае тры ізаляваныя адзін ад аднаго ўчасткі, плошча якіх усяго 4592 гектары. Гэта толькі пяць працэнтаў пушчанскай плошчы.

Лес—зялёнае пушчанскае багацце — таксама не асабліва шанаваўся. Тут не адзін і не два дзесяткі гадоў секлі лес для сваіх патрэб, прытым, з размахам. Вось лічбы: памер лесакарыстання (лесакарыстання?!) складаў штогод каля 60—100 тысяч кубаметраў. Быццам, гэта леспрамгас!

Відавочна, што ў наш час, калі падзьмулі ветры перамен, статус Белавежскай пушчы, практычна, месца для шумлівых паляванняў наменклатуры, не мог не ўстрывожыць шырокую грамадскасць. Спачатку нясмела, а потым усё больш смялей пачалі гучаць галасы вучоных, журналістаў, прадстаўнікоў прыродаахоўных органаў, якія выказвалі сваю нязгоду як з закрытасцю пушчы, так і з тым, што там робіцца.

Трэба нагадаць, што яшчэ ў 1986 годзе камісія прэзідыума СМ БССР па пытаннях навукова-тэхнічнага прагрэсу на сваім пасяджэнні разгледзела пытанне аб навуковай дзейнасці ДЗПГ «Белавежская пушча» і прыйшла да несуцяшальных высноў. У запаведна-паляўнічай гаспадарцы галоўная ўвага надавалася прамысловай вытворчасці і інтэнсіўнаму вядзенню сельскай гаспадаркі, што прывяло да парушэння экалагічнай раўнавагі ў многіх біягеацэнозах, даследаванні навуковага аддзела ДЗПГ вядуцца аўтаномна, у адрыве ад практычнай работы лясной і паляўнічай гаспадарак.

Тое, што статус Белавежскай пушчы павінен быць зменены, нарэшце, зразумелі і «наверсе». Прэзідыум Савета Міністраў БССР 16 чэрвеня 1988 года прыняў рашэнне пагадзіцца з прапановамі Дзяржкампрыроды БССР, Акадэміі навук БССР, групы работнікаў навуковага аддзела ДЗПГ «Белавежская пушча» аб арганізацыі дзяржаўнага запаведніка «Белавежская пушча» і дзяржаўнай паляўнічай гаспадаркі на частцы тэрыторыі пушчы. У Камітэце па ахове прыроды была створана камісія па падрыхтоўцы навукова-абгрунтаваных рэкамендацый па іх арганізацыі. Камісія выязджала ў Камянюкі, вывучала на месцы абстаноўку, выслухоўвала розныя погляды. Большасць, у іх ліку вядомыя вучоныя рэспублікі, цвёрда выказваліся за арганізацыю на тэрыторыі ДЗПГ «Белавежская пушча» запаведніка. Але разумення яны не знайшлі. Сёй-той з прадстаўнікоў рэспубліканскіх органаў, нават з навуковых работнікаў пушчы імкнуўся не дапусціць рэарганізацыі запаведна-паляўнічай гаспадаркі, кіруючыся «аргументамі», што трэба захаваць існуючы статус пушчы (гэта значыць, і надалей весці яе да дэградацыі). Яны даводзілі, што высечкі лесу зменшыліся (да 70 тыс. куб.), даказвалі, што лес трэба высякаць, бо загніецца, папярэджвалі, што ніхто не дасць пушчы грошай больш, чым кіраўніцтва справамі СМ Беларусі, і г. д.

3 снежня 1990 года сабралася калегія Дзяржкамітэта БССР па экалогіі, на якой было разгледжана пытанне аб рэарганізацыі ДЗПГ «Белавежская пушча». У пасяджэнні прынялі ўдзел вядомыя вучоныя рэспублікі, работнікі кіраўніцтва справамі СМ БССР, навуковыя супрацоўнікі ДЗПГ «Белавежская пушча», прадстаўнікі Міністэрства лясной гаспадаркі БССР, работнікі Камітэта па экалогіі. Было адзначана, што камісія падрыхтавала навукова-абгрунтаваныя прапановы па арганізацыі запаведніка і паляўнічай гаспадаркі, паляпшэнні захавання і рацыянальнага выкарыстання прыроднага комплексу Белавежскай пушчы. Вывады камісіі ўзгоднены з зацікаўленымі міністэрствамі, ведамствамі і аблвыканкомамі.

Але на тым пасяджэнні калегіі ўзнік і новы падыход да лёсу пушчы. Прадстаўнік кіраўніцтва справамі СМ БССР нечакана прапанаваў распачаць падрыхтоўку да стварэння на тэрыторыі Белавежскай пушчы нацыянальнага парку.

Вось так: паўтара года працавала кампетэнтная камісія, якая выпрацавала навукова-абгрунтаваныя прапановы па рэарганізацыі ДЗПГ у запаведнік, ідэю стварэння запаведніка падтрымалі і абгрунтавалі акадэмік Л. Сушчэня, віцэ-прэзідэнт АН БССР І. Ліштван, акадэмік АН БССР, старшыня навуковага савета АН БССР па праблемах біясферы В. Парфёнаў, намеснік дырэктара па навуковай рабоце Інстытута заалогіі АН БССР М. Пікулік, доктар біялагічных навук, прафесар П. Жукаў, іншыя вядомыя вучоныя, спецыялісты Дзяржкамітэта БССР па экалогіі, і адным махам ідэя арганізацыі запаведніка замяняецца на ідэю нацыянальнага парку.

Дык ўсё-такі: запаведнік ці нацыянальны парк?

Вырашана было: нацыянальны парк. Вырашана не ў вучоных акадэмічных колах, а ў нетрах кіраўніцтва спраў СМ, у некаторых кабінетах работнікаў Міністэрства лясной гаспадаркі рэспублікі, у кіраўніцтве самой ДЗПГ «Белавежская пушча». Іх аргументы: няхай будзе нацыянальны парк, пакуль не паменшае колькасць паляўніча-прамысловых жывёл (іх сапраўды больш, чым трэба), пакуль на змену адміраючым старым дрэвастоям не падымецца маладняк. На іх думку, у лес павінен прыйсці і замежны паляўнічы (вядома, за валюту).

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прымае пастанову № 352 «Аб рэарганізацыі дзяржаўнай запаведна-паляўнічай гаспадаркі «Белавежская пушча», пра якую мы згадвалі ў пачатку артыкула. Дакумент даволі цікавы, на ім варта спыніцца, хоць і разумееш, што гэта ўзор нашага канцылярска-бюракратычнага стылю.

У пункце першым пастановы чытаем: «Прыняць прапанову камісіі, утворанай распараджэннем Савета Міністраў БССР ад 10 ліпеня 1990 г. № 310 для вырашэння далейшага выкарыстання Дзяржаўнай запаведна-паляўнічай гаспадаркі «Белавежская пушча», узгодненую з Дзяржэканомпланам БССР, Міністэрствам фінансаў БССР, Дзяржаўным камітэтам БССР па экалогіі, кіраўніцтвам спраў Савета Міністраў БССР, Брэсцкім і Гродзенскім аблвыканкомамі, аб пераўтварэнні Дзяржаўнай запаведна-паляўнічай гаспадаркі «Белавежская пушча» ў Дзяржаўны нацыянальны парк «Белавежская пушча» з падпарадкаваннем яго Савету Міністраў БССР».

Заўважым—арганізацыя нацыянальнага парку ўзгоднена з усімі, апрача Акадэміі навук рэспублікі.

У пункце другім пастановы дадзена ўказанне «Кіраўніцтву спраў Савета Міністраў БССР з удзелам Міністэрства лясной гаспадаркі БССР, Акадэміі навук БССР, Брэсцкаму і Гродзенскаму аблвыканкому... па ўзгадненні з Дзяржаўным камітэтам БССР па экалогіі ажыццявіць на працягу 1991—1992 гадоў неабходныя арганізацыйна-тэхнічныя мерапрыемствы, звязаныя з пераўтварэннем Дзяржаўнай запаведна-паляўнічай гаспадаркі «Белавежская пушча» ў Дзяржаўны нацыянальны парк «Белавежская пушча».



Фота А. МАЦЮША.

Вось так: пры прыняцці рашэння аб нацыянальным парку пазіцыя Акадэміі навук не была ўлічана, а цяпер жа ёй, у ліку іншых ведамстваў, даецца ўказанне заняцца пераўтварэннем Белавежскай пушчы ў Нацыянальны парк.

У той жа пастанове кіраўніцтва спраў СМ ідзе гаворка аб узмацненні ў Белавежскай пушчы прыродаахоўнага рэжыму і зніжэнні антрапагеннай нагрузкі «ў прымяненні да патрабаванняў статуса нацыянальнага парку».

Нагадаем, чым запаведнік адрозніваецца ад нацыянальнага парку.

Запаведнік — гэта ўчастак тэрыторыі, у межах якога зберагаецца ў натуральным выглядзе **ўвесь** прыродны комплекс. У яго задачы ўваходзіць і прапаганда навуковых ведаў, і падрыхтоўка навуковых кадраў, і вядзенне летапісу прыроды. Па сутнасці, гэта прыродаахоўная і навукова-даследчая ўстанова, якая мае на мэце захаванне і вывучэнне генафонду раслін, жывёл, тыповых і унікальных экасістэм, кантроль за іх станам, забеспячэнне натуральнага ходу прыродных працэсаў.

Значыць, так: калі галоўная мэта запаведніка — захаваць у натуральным стане ўвесь прыродны комплекс запаведнай тэрыторыі, то нацыянальны парк ставіць задачу захаваць прыродныя комплексы **толькі** эталонных і унікальных участкаў і аб'ектаў прыроды. Нацыянальны парк, урэшце, — гэта новыя дарогі, якія прарэжуць запаведныя пушчанскія лясы ў розных кірунках, гэта тысячы аўтамашын з іх шкоднымі выкідамі.

Адна з задач нацыянальнага парку — арганізацыя адпачынку насельніцтва ў прыродных умовах. Такім чынам, з наданнем пушчы статуса нацыянальнага парку ў запаведныя, славутыя мясціны прыедуць «загараць» тысячы і тысячы турыстаў. Што пакінуць пасля сябе гэтыя адпачыванцы? Як яны ўмеюць берагчы прыроду, мы добра ведаем на прыкладзе эксплуатацыі Мінскага мора, Нарачы, рэк і рачулак Беларусі.

Да таго ж, у Белавежскай пушчы няма ні археалагічных, ні геаграфічных, архітэктурных ці якіх іншых помнікаў, якія б маглі прывабіць турыстаў. На тэрыторыі пушчы адсутнічаюць вялікія вадаёмы, горныя схілы, пляжы, іншыя прывабныя для турызму мясціны, якія маглі б выкарыстоўвацца для рэкрэацыйных мэт. Ды і запаведны рэжым у нацыянальных парках, як сведчыць сусветны вопыт, устанаўліваецца не на ўсёй тэрыторыі, а на невялікіх участках. А астатнія? Відаць, будуць асуджаны на далейшую дэградацыю, знішчэнне і маруднае паміранне.

Такім чынам, першы нацыянальны парк Рэспублікі Беларусь павінен быць на тэрыторыі Белавежскай пушчы. Паўтараю: першы! Не на Браслаўшчыне, не на Нарачы, не на Лагойшчыне і нават не на Палессі, а менавіта на запаведнай зямлі Белавежы. Першы — гэта не значыць лепшы, узорны, бо няма ў нас ніякага вопыту арганізацыі і ўтрымання нацыянальных паркаў.

Не паспела высахнуць чарніла на подпісу пад пастановай, як у Белавежу былі запрошаны замежныя паляўнічыя са стрэльбамі. Вядома, з тугімі валютнымі кашалькамі, і белавежскія дзікі ды алені сталі першымі ахвярамі недальнабачнай палітыкі...

Белавежская пушча належыць усяму беларускаму народу. Унікальнаму прыроднаму комплексу, нашай нацыянальнай святыні павінен быць нададзены статус запаведніка. Пакуль не позна, трэба ратаваць тое, што яшчэ ацалела пад рулямі стрэльбаў, уратавалася ад сякеры. Белавежская пушча павінна быць запаведнікам, навуковай зялёнай лабараторыяй, падпарадкаваўшы яе Дзяржкамітэту па экалогіі разам з Акадэміяй навук Беларусі.

**Алесь ДЗЯТЛАЎ.**

# Марудны скон стэрэатыпаў

## Беларуская ваенная проза

Людміла КОРАНЬ

БЕЛАРУСКАЯ ваенная проза славутая. Поруч з лепшай савецкай прозай 60-х і пазнейшых гадоў (і найперш поруч з прозай вясковай) яна адлюстравала выпрамленне чалавека сталінскай і пасляcталінскай эпохі. Яна паказала ўваскрэсенне чалавечай годнасці і маралі.

Беларуская ваенная проза антыфашысцкая. Хаця такое паняцце, як «вайна Айчынная», можа быць пераасэнсавана, і яно ўжо ўдакладняецца спадчыннікамі былой дзяржавы СССР. Антыфашысцкі ж пафас нашай прозы, тым не менш, робіць яе з'яваю ў агульным гісторыка-літаратурным працэсе, — праз салідарнасць з культурнай Еўропай і светам у стаўленні да Гітлера, да многіх звязаных з ім падзей 30—40-х гадоў.

Беларуская ваенная проза і кансерватыўная. Да апошняга часу яна больш замацоўвала, ахоўвала, сцвярджала нацыянальную празаічную традыцыю, чым абнаўляла, рэфармавала яе. Тлумачыцца гэта не толькі пільнасцю савецкай эстэтычнай цэнзуры. Важна і тое, што гісторыя ўсёй беларускай сучаснай культуры — гэта найперш гісторыя адчайнага супроцьстаяння магутным разбуральным уплывам. І наша ваенная проза выканала сваю ахоўную ролю. Насуперак няўхільнай дэнацыяналізацыі яна з патрыярхальнай упартасцю аднаўляла светаадчуванне, мысленне, мараль і мову беларуса — найчасцей селяніна, гараджаніна ў першым пакаленні ці вясковага настаўніка, агранома, урача, які мусіў апрануць быкаўскі шынель або застацца самім сабою пад акупацыяй.

Трагедыя ж савецкага літаратурнага працэсу звязана з тым, што звычайныя «сярэднія» нашы пісьменнікі мусілі пераймаць, наследаваць, перапяваць зусім не тое, што ім, мажліва, хацелася б, а выключна афіцыйныя ўзоры. Прыкметнае паніжэнне ці павышэнне агульнага літаратурнага ўзроўню амаль не залежала ад з'яўлення выдатных талентаў, адкрыццяў у эстэтыцы. Вызначальнай была палітычная кан'юнктура. Калі ў дасавецкія часы, напрыклад, можна было гаварыць пра эпохі і школы рамантызму, рэалізму і інш., то агульнае аблічча савецкага мастацтва ўжо вызначалася «эпохамі» і «школамі» сталінскай бесканфліктнасці, хрушчоўскай адлігі і г. д. Адсюль— афіцыёз, заўважны і ў беларускай ваеннай прозе, прычым афіцыёзнасць яе ці не ў першую чаргу зрабіла праблематычнай і яе праўдзівасць.

Увогуле дзяржаўны міф пра Вялікую Айчынную вайну 1941—1945 гг. ствараўся сінхронна з ваеннымі падзеямі, а лепш сказаць, ён быў запраграмаваны наперад. У савецкай рэчаіснасці 40—50-х гадоў не маглі не з'явіцца такія спрашчэнні вайны, як проза І. Гурскага і А. Стаховіча, што нагадвае афіцыйны лубок на мяжы мастацкай бездапаможнасці. У падобнай і больш сур'ёзнай прозе («Векапомныя дні» М. Лынькова, напрыклад) не магла не выпінацца празмерна роля партыйных структур ва ўсіх «станоўчых» падзеях на фронце і ў тыле. У тыя ж гады і крыху пазней нельга было абысціся ў мастацтве без рамантызацыі, часам дужа таннай, ГЕРОЯ гэтай вайны, — і творы М. Лынькова, К. Чорнага, І. Шамякіна— яшчэ лепшыя ўзоры жанру. Лепшыя, таму што ў апавяданнях М. Лынькова са зборніка «Астап», у «Вялікім сэрцы» К. Чорнага, «Глыбокай плыні» І. Шамякіна, і асабліва ў ваенных апавяданнях Я. Брыля быў і моцны бок: выразнае трагедыйнае гучанне, усведамленне вайны як найвялікшай трагедыі народа, што не перакрываецца рытуальным безумоўным «апраўданнем крыві».

Гэтаксама «натуральна» была часова забыта традыцыя псіхалагічнай культуры, такі твор, як «На імперыялістычнай вайне» М. Гарэцкага, напрыклад. Маладзейшыя беларускія празаікі выхоўваліся на афіцыйных догмах, на эстэтычнай дыеце, і кожны паасобку павінен быў прайсці свой шлях да ісціны.

Між тым пераважна пакаленне В. Быкава і крыху маладзейшых за яго пісьменнікаў, што пачыналі друкавацца ў знакамітыя 60-я, зрабіла нашу ваенную прозу агульнавядомай. Творы 60—80-х гадоў А. Адамовіча, Я. Брыля, В. Быкава, В. Казько, І. Навуменкі, Б. Сачанкі, М. Стральцова, І. Пташнікава, І. Чыгрынава, І. Шамякіна яшчэ і сёння ў вялікай ступені вызначаюць стэрэатып сучаснага беларуса як для саміх беларусаў, так і ў іншанацыянальнай свядомасці. Праўда і тое, што да сённяшняга дня ваенная тэма зрабілася класічнай таксама сярод нашых графаманаў. Апошняму нямала паспрыяла і пэўная стылёвая аднастайнасць беларускай прозы пра вайну. Відавочна, што тое адрозненне «эпікаў» і лірыкаў», якое можна прасачыць у ёй, малаактуальнае. Таму што і тыя, і другія аднолькава грунтоўныя, уважлівыя да падрабязнасцяў, прывязаныя да этнаграфічна-побытавага, да знаёмых з маленства краявідаў і да ўласнага радаводу. Вядуць рэй тут яркія таленты.

**Проза 60-х, 70-х і пач. 80-х гадоў яшчэ не магла быць зусім свабоднаю ад старых догмаў. Ёй часам не хапала праўдзівасці ў асвятленні гістарычных фактаў, а мажліва і дастатковай дасведчанасці ў іх. Яе пафас быў-такі манатонны: абмежаваны, па-першае, інтанацыямі рэквіему, «жураўлінага крыку» па здратаванай чалавечнасці з абавязковай сцвярджальнай, прасветлена-катарсічнай нотай напрыканцы; і, па-другое, пачуццёвай гамай гневу, абурэння, праклёнаў фашызму. Аднак важней падкрэсліць тое, што ў лепшых сваіх узорах гэтая проза была ўжо дастаткова гуманістычная. Інтэнсіўнасць яе пафасу перавышала і самы высокі болевы парог; яна дала ўзоры болевай этычнай рэфлексіі (згадайма «Суд у Слабадзе» В. Казько, 1978 г., напрыклад).**

**І якраз гэтая наша проза да апошняга часу была сапраўды папулярнай. У нас быў такі знакаміты раман, як «Сэрца на далоні» І. Шамякіна, дзякуючы якому ладная частка мясцовага насельніцтва і ўведала пра рэальнае, а не толькі падручнікавае існаванне беларускай літаратуры. Фенаменальная чуйнасць І. Шамякіна да павеваў часу, аператыўнасць выхаду ў свет новых твораў, а таксама аблегчанасць стылю (калі нецікавы, нявыйгрышны для інтрыгі змест падаецца скарагаворкай, публіцыстыкай, а псіхалагічна распрацоўваецца заваблівае для чытача), — усё гэта зрабіла І. Шамякіна адным з самых чытабельных, поруч з В. Быкавым, беларускіх ваенных пісьменнікаў. У нязмушанай папулярнасці сярод розных слаёў насельніцтва І. Шамякіну прайграюць і нашы запаветныя эпікі—І. Пташнікаў, І. Чыгрынаў, іншыя паслядоўнікі грунтоўнай ды няспешнай манеры пісьма — В. Карамазаў, В. Казько, напрыклад, а таксама больш лірычныя М. Стральцоў, ранні І. Навуменка, Б. Сачанка. А між тым усе яны вядомыя і глыбокім пранікненнем у сутнасць ваеннай рэчаіснасці, і несумненнай адпаведнасцю нацыянальнай стыхіі, і больш высокай, чым** у І. Шамякіна, культурай пісьма.

Безумоўна, выключная фігура ў нашай ваеннай прозе В. Быкаў — дзякуючы сваёй незвычайнай цэльнасці, аўтаномнасці. Ягоны боль такі вялікі, што шлях да ісціны ў яго самы ўпарты, цяжкі, аднастайны і — кароткі. Ужо сказанае, праз цэнзурны заціск прамоўленае В. Быкавым яшчэ 20—30 гадоў назад наша белетрыстыка толькі цяпер пачынае падрабязна распавядаць так званаму масаваму чытачу. Адзін з самых свежых прыкладаў — аповесць І. Шамякіна «Ахвяры» (1991 г.), у якой энкавэдзіст, што атабарыўся ў партызанскім атрадзе, губіць лепшых людзей, расстрэльвае падпольшчыка. Ці згадаем аповесць У. Дамашэвіча «Кожны чацвёрты» (1991 г., пісалася ў 1977—78 гг.), эмацыянальную дэкларацыю на прадмет наяўнасці абмежаваных і подлых людзей у партызанскіх атрадах.

В. Быкаў адметны і стылёва. Апошнім часам ягоная паэтыка ўсё больш настойліва звязваецца з традыцыяй еўрапейскага экзістэнцыялізму. Быкаўская проза сапраўды выбіваецца з агульнай плыні, да якой надзвычай стасуецца папулярная ў нас філасафема пра сувязь побыту і быцця (С. Андраюк). Апошняя выснова ў большасці выпадкаў вычарпальна вызначае агульнагуманітарную праблематыку беларускай ваеннай прозы.

З экзістэнцыялізмам, аднак, не варта перабольшваць, маючы на ўвазе канкрэтыку быкаўскага тэксту. У В. Быкава няма іншага героя, як той, някідкі, чыя сацыяльная псіхалогія кожны раз вядома вельмі дакладна. Няма іншай атмасферы, як тая, сталінская, што ўвайшла ў плоць і кроў пакалення, пра якое В. Быкаў піша. Няма іншага пафасу, чым гуманістычны боль за ахвяраванага вайне і несправядлівасці чалавека. І таму экзістэнцыя чытаецца хіба што ў аповесці «У тумане» (1989 г.), дзе ірацыяналізм, абсурднасць сітуацыі сапраўды актуальныя, нават ці не першасныя ў вобразнай структуры твора. А зусім не ў аповесці «Дажыць да світання» (1972 г.), напрыклад, з якой пачыналіся ўсе гаворкі пра быкаўскі экзістэнцыялізм, — справядлівыя на ўзроўні вобразных паралеляў, тыпалогіі.

Творчасць В. Быкава — цэласны, стабільны мастацкі арганізм, і таму ягоная проза — найпапулярная ў нас ніва для інтэрпрэтатараў розных вядомых тэорый, своеасаблівы палігон для нашых і замежных дысертантаў. В. Быкава - пісьменніка разглядаюць у кантэксце парабалічнай прозы, прозы эксперыменту, выбару, прыпавесці, экстрэмальнай сітуацыі, прозы сталых хранатопавых мадэляў і г. д. І нідзе В. Быкаў не хібіць! Ці не доказ гэта таго, што В. Быкаў у нейкім сэнсе і сам сабе філасофія, ён універсальны —дзякуючы, вядома, таленту, а яшчэ таму, што бліжэй за іншых да праўды.

Вяртаючыся да тэмы стылёвай інерцыйнасці беларускай ваеннай прозы, трэба сказаць, што ўжо ў 70—80-я гады прыкметнымі былі спробы многіх аўтараў выбіцца з агульнага рэчышча. Цікава, што часцей мэта дасягалася праз пошук у супрацьлеглых напрамках: як прыклад назавём індывідуальны стыль Віктара Казько, які апелюе да адцягненых катэгорый, ідэальных паняццяў, сімвалічных пабудоў; і з другога боку — адметны стыль Алеся Адамовіча з прамымі выхадамі на публіцыстыку, дакумент, рацыянальную канструкцыю.

Увогуле пра ролю дакумента ў лёсе беларускай ваеннай прозы трэба сказаць асобна. Наша дакументалістыка таксама пачыналася з кніг, якія былі больш аператыўнымі зводкамі, складзенымі адпаведна афіцыйнай ваеннай дактрыне, чым дакументальнай літаратурай; са шматлікіх мемуараў дзеячаў партызанскага руху на Беларусі, апрацаваных прафесійнымі літаратарамі. Прынамсі, гэты мемуарна-парадны жанр надзвычай трывалы (згадаць тыя ж сучасныя кнігі Славы, Гонару і да т. п.); і трываласць яго сведчыць перш за ўсё пра тое, як пакутліва мяняюцца ацэнкі гісторыі пры жыцці таго пакалення, якое было суб'ектам гэтай гісторыі. Жывыя людзі, ужо падзеленыя на герояў і негерояў, не могуць быць аднадумцамі і паводле перамен!

**У 70-я гады маленькую рэвалюцыю ў мастацкай інтэрпрэтацыі дакумента зрабіла кніга А. Адамовіча, Я. Брыля і У. Калесніка «Я з вогненнай вёскі...» (1975 г.). Просты мантаж дакументальных фрагментаў з мастацкім тэкстам тым часам зрабіўся ў нас ужо настолькі банальным прыёмам, што, напрыклад, А. Адамовіч пакінуў такі бязлітасны запіс пра сваю «Хатынскую аповесць» (хрэстаматыйную, адзначаную прэміяй, перакладзеную на многія замежныя мовы, папулярную ў савецкага і замежнага чытача): «літаратурная няўдача»; «...літаратурныя формы ў пар ператвараюцца ад судакранання з вогненнай памяццю Хатыняў».**

**У кнізе «Я з вогненнай вёскі...» дакумент (магнітафонныя запісы сведчанняў тых, хто ацалеў са спаленых вёсак) з нейтральнага факта ператварыўся ў мастацкі вобраз. Ніякая мастацкая прыўкраса не ўражвае чытача больш, чым нягладкія аповяды самога «голасу народнага» ў абліччах, лёсах, у тых натуральных адхіленнях і прыватнасцях, што вырастаюць у сімвалічныя, філасофскія дэталі. Кніга «Я з вогненнай вёскі...» дала пачатак новаму жанру ў нацыянальнай традыцыі, у прозе народа, праўдзівая гісторыя якога доўгі час змушана не расцінала вуснаў (творы А. Адамовіча, С. Алексіевіч, С. Панізніка).**

Імя А. Адамовіча ўвогуле звязана з радыкальнымі стылёвымі пошукамі ў ваеннай прозе: згадаем аповесць «Карнікі» (1981 г.), ці не першую ў сучаснай нашай літаратуры спробу «рэканструяванага» псіхалагізму, натхнёнага, па словах самога пісьменніка, манерою У. Фолкнера.

І самае галоўнае — праз дакумент у 80-я гады ваенная проза абнавілася не столькі знешне-фармальна, колькі змястоўна. У тых жа «Карніках» упершыню ў савецкай літаратуры адкрыта, усур'ёз былі пастаўлены тыя пытанні, якія мучылі таксама і В. Быкава ў аповесцях «Знак бяды» (1982 г.), «Кар'ер» (1986 г.), «У тумане» (1989 г.): чым была гэтая вайна для беларусаў? Адкуль узяліся паліцаі, карнікі, што палілі Хатынь? Чаму партызаны былі такія бязлітасныя — яны ж ведалі, што за кожны знак іхняга існавання будуць закатаваны сваякі, суайчыннікі, дзеці? Калабарацыянізм і патрэбы нацыі, здрадніцтва і трагізм тупіковай сітуацыі паміж гітлерызмам і сталінізмам...

Сёння, у гады 90-я, мы робімся сведкамі канчатковай смерці многіх былых стэрэатыпаў, сярод якіх ёсць і самыя дарагія, усталяваныя. Гэты скон немінучы пад лавінаю новай інфармацыі, легалізаванай цяпер для шырокай публікі. Зноў факт набывае моц мастацкага вобраза: матэрыялы пра зверствы польскіх і савецкіх партызанаў падчас акупацыі Беларусі змяшчаюць польская «Ніва» і беларускі «ЛіМ»; сведчанні саміх былых партызанаў пра жорсткасць да беларускага насельніцтва друкуе ў «Литературной газете» В. Кандрацьеў; звязаныя з гэтымі ж падзеямі фрагменты, раней выключаныя з кнігі «Я з вогненнай вёскі...», публікуе Я. Брыль; Б. Сачанка без таннай паліталогіі распавядае пра беларускую ваенную эміграцыю; выдаецца Л. Геніюш, друкуюцца яе дзённікі, «праграмны» верш «Партызаны»...

Новыя рубяжы трэба браць і мастацкай прозе. Тут выразна вылучаюцца дзве тэмы. Адна — атмасфера перадваенных гадоў: бальшавіцкі «маральны кодэкс» і рэпрэсіі ў сутыкненні з традыцыйнай этыкай і нацыянальным характарам. Ніводзін канфлікт той пары, прыватны ці гістарычны, немагчыма зразумець па-за гэтым сутыкненнем, што ўвесь час спараджала трагедыю. Гэтая тэма так ці інакш прысутнічае ў такіх творах 90-х гадоў, як раман В. Карамазава «Бежанцы» (пра першыя тыдні вайны); раман А. Марціновіча «Цень крумкачовага крыла» (пра будзёншчыну 1943—48 гадоў); у аповесцях і апавяданнях з кнігі В. Хомчанкі «Царзэк Сямён Івашкін» (пра сталінскае ваеннае «правасуддзе»).

Другая тэма нашай ваеннай прозы апошніх гадоў — гэта «партызанка», партызанскі рух і ўвогуле жыццё на акупіраванай тэрыторыі Беларусі. У 90-я гады выйшла з друку аповесць У. Дамашэвіча «Кожны чацвёрты», раман П. Місько «Хлопцы, чые вы будзеце...», аповесць І. Шамякіна «Ахвяры», раман В. Адамчыка «Голас крыві брата твайго». Надрукавана першая частка новага рамана І. Чыгрынава з вядомага цыкла пра верамейкаўцаў, выйшаў раман М. Аўрамчыка «Палон»; чакаем аповесці В. Быкава «Бліндаж».

Красамоўная сама назва рамана М. Аўрамчыка «Палон» (1991 г.). Тэма палону ў многім яшчэ зямля нязведаная. І як нейкі неадменны эпіграф да новага твора прыгадваюцца колішнія радкі М. Аўрамчыка-паэта:

**Не ведаць бы,**
**як юнаком**
**Глядзець на Еўропу балюча,**
**Праз краты вагонных акон,**
**Праз дрот заржавелы**
**калючы.**
**Я ведаю,**
**як без надзей,**
**Апошнюю страціўшы веру,**
**Дзічэў чалавек між людзей,**
**Завыўшы ад жудасці зверам.**
(1975 год.).

Аднак у рамане паэт, які ўмеў быць цалкам шчырым, ператварыўся ў зусім афіцыйнага празаіка. Апавядальнік выбачаецца за кожную псіхалагічную і падзейную драбніцу, што можа падацца чытачу недастаткова геройскай. Прысутнасць цэнзара (унутранага ці, можа быць, канкрэтнага, бо пісаўся раман, відаць, не адзін год), дужа адчувальная, і менавіта ў гэтым сэнсе «Палон» паказальны ў нашай сучаснай прозе.

**Яшчэ адзін раман 1991 года — аб'ёмны твор Аркадзя Марціновіча «Цень крумкачовага крыла». Па сутнасці гэта лірызаваная біяграфія героя, Івана Яворскага, які ў час вайны лячыўся пасля ранення ў душанбінскім шпіталі, а потым працаваў карэспандэнтам мінскай газеты. Нескладаныя асацыяцыі і сюжэтныя хады звязваюць у адну апавядальную плынь згадкі героя пра дзяцінства і юнацтва, жанчын і мужчын, сваякоў і сяброў; маюцца больш ці менш разгорнутыя занатоўкі пра вайну фінскую і Айчынную, а таксама пра членства Беларусі ў ААН; пра гісторыю ўжывання чалавецтвам гарэлкі; пра тое, што на вайне людзям бывае страшна, але «фактар усведамлення байцом свайго абавязку адыгрывае вялікую ролю»; пра дакладную канструкцыю і прызначэнне шлюзаў і аргану; пра знешні выгляд і звычку да варажбы ў цыган; пра тое, чым адрозніваюцца халяўкі чаравікаў і ботаў і чаму апошнія лацвей надзяваць у разводдзе; і да т. п. Пераважае ўсё ж у гэтай агульнай плыні апісанне журналісцкай працы. На кан-**

цэптуальную арганізацыю твора прэтэндуюць тыя факты, што герой замоўчваў арышт бацькі ў 30-я гады і баяўся быць выкрытым; паступова зразумеў, што ў калгасах жывецца не так добра, як ён пра тое піша ў сваіх карэспандэнцыях; што за мяжою таксама не ўсё дрэнна; што беларуская мова абмяжоўваецца ва ўжытку; што класавая пільнасць і шпіёнаманія ў савецкай дзяржаве часам перашкаджае працаваць. «Мяне так і падмывала ўстаць ды выказацца перад сходам, але я стрымаўся», — зазначае Яворскі на с. 301. Увогуле недзе пасля трэцяй сотні старонак у чытача ўзнікае такое ўражанне, што банальнасць героя ўрэшце стаміла і самога аўтара. Пасля чаго апошні палічыў за лепшае знакамітую мастацкую місію па вобразным спасціжэнні рэчаіснасці ўскласці ў сваім рамане на плечы двух сімвалаў, як то: (1) цень крумкача, што аднойчы падае на пешага героя і сімвалізуе згубную сталіншчыну; і (2) выпадковая гібель героя пад коламі машыны, што сімвалізуе тое самае.

Наступны раман, «Бежанцы» В. Карамазава (часопісны варыянт 1990 г.), твор класічны для беларускай савецкай літаратуры, калі мець на ўвазе тое лепшае, што ў гэтай традыцыі было. Са своеасаблівай, непаспешлівай, складаназлучанай і складаназалежнай грацыяй раскрываюцца ў рамане розныя бакі народнага жыцця ўслед за пачуццём і думкаю апавядальніка, што прысутнічае ў тэксце ўвесь, ажно да шкельцаў сваіх акуляраў, якія ён мусіць праціраць раз за разам у час касьбы.

В. Карамазаў асэнсоўвае бежанства як наканаванне, як злы лёс беларусаў, ці не заўсёдна ў XX стагоддзі гнаных шукаць ратунку ў чужых нераскавых краях. Сусветныя войны і лакальныя палітычныя кампаніі 20-х і 30-х гадоў, лютыя саракавыя, езуіцкія пасляваенныя, цяпер вось Чарнобыль...

Моц падобнай прозы, як ужо адзначалася, не толькі ў пластычнасці, з якой малюецца нацыянальная стыхія, не толькі ў гуманістычным пафасе, што вярэдзіць незагойныя раны. Не менш важная тут і творчая індывідуальнасць пісьменніка: толькі яна нараджае спецыфічную гармонію, мастацкі вобраз.

Самым прыкметным творам апошняга часу ў нашай ваеннай прозе стаў, відаць, раман В. Адамчыка «Голас крыві брата твайго» (1991 г.), фармальны працяг вядомай трохтомнай эпапеі з жыцця Заходняй Беларусі. Апавядальніцкі стыль В. Адамчыка тут таксама застаўся традыцыйным, добра знаёмым чытачу беларускіх раманаў. Аднак у «Голасе крыві брата твайго» падзеі часоў гітлераўскай акупацыі Беларусі паказваюцца прынцыпова па-новаму, з падрабязным улікам тых рэалій, якія ў сапраўднасці фарміравалі акупацыйны побыт. Персанажы В. Адамчыка жывуць навідавоку ў акупантаў, у поўнай залежнасці ад разmaітых мясцовых уладаў, цывільных і вайсковых, добраахвотных і «добраахвотных». «Жалеть здеся некого», — гаворыць Корсакавай Алесі казак, што асталяваўся ў яе хаце, данскога атамана Паўлава вояка. Дарагія В. Адамчыку героі кругом вінаватыя — і карніку, і партызану, і Сталіну, — бо жывуць на акупіраванай тэрыторыі, кінутыя разбітым у першыя ж дні вайны войскам. Таму іх рабуюць і паляць, ганьбуюць ды вучаць, што маральна, а што не.

Са з'яўленнем «Карнікаў» А. Адамовіча, апошніх твораў В. Быкава і рамана «Голас крыві брата твайго» В. Адамчыка ў нашай літаратуры назаўсёды мінуліся тыя часы, калі можна было пісаць пра вайну, пра акупацыю падцэнзурна.

І сёння як ніколі неабходна, каб новыя кнігі пра вайну не выдавалі на састарэлыя нарыхтоўкі, больш-менш прыхарошаныя і «ціснутыя» ў друк пад галоснасць; каб у іх было прынцыпова новае асэнсаванне рэчаіснасці, з улікам таго, што для савецкай масавай свядомасці сёння кардынальна змянілася карціна свету. Хто мае вочы, мусіць бачыць.

ВІНШУЕМ!



## Пятру ВАСІЛЕЎСКАМУ—70

**15 мая спаўняецца 70 гадоў пісьменніку Пятру Васілеўскаму. Ад усяго сэрца віншуем Пятра Савельевіча з юбілеем і жадаем яму новых творчых поспехаў!**

**Сталася так, што якраз напярэдадні юбілею Пятро Савельевіч прапанаваў «ЛіМу» свой «сумны роздум пра ненапісаную кнігу...»**

# Вузельчыкі на нітцы жыцця

### Сумны роздум пра ненапісаную кнігу...

Вельмі ж красамоўны грэчаскі міф пра трох багінь Мойраў, якія трымаюць жыццё чалавека ў сваіх руках: Клота тчэ нітку чалавечага жыцця, Лахесне выдае жэрабя, які выпадае чалавеку, а Антропас абразае нітку жыцця. Дык што застаецца чалавеку? На ўсякі выпадак адзначаць вузельчыкамі на той нітцы нешта галоўнае, што адбылося ў тваім жыцці?

Гэта можна. З невясёлай нагоды рэвізую вузельчыкі: дзяцінства і юнацтва, трыццаць сёмы год і вайна, пасляваенная калгатня і, нарэшце, гэта самая перабудова...

Самы балючы і незабыўны вузельчык — вайна. Калі вярнуўся з вайны, вельмі ж хацелася пісаць пра яе, і не ўвогуле, а менавіта пра сваю вайну! Але кніга так і не напісана...

Думаў пра гэта: пісьменніка прываблівае тэма вайны сваёй магчымасцю з асаблівай яскравасцю выявіць у мастацкім творы чалавечую натуру, якая менавіта ў абставінах вайны праяўляе сябе і ў лепшых і ў самых кепскіх рысах — вайна фіксуе галоўнае ў чалавеку. І прытым, вайна — справа бесчалавечная, агідная. Але чалавецтва пакуль што не мае ніякіх іншых сродкаў вырашаць свае гістарычныя праблемы, апроч войнаў, рэвалюцый ды іншых катаклізмаў — вось такая недасканалая прырода чалавечага грамадства.

Чатыры з паловай гады ўзяла вайна з майго ўласнага жыццёвага рахунку. Як жа яна ўспрымалася мною? На вайне людзі рэзка падзяляюцца на тых, хто знайшоў у сабе сілы і гатоўнасць да выканання свайго патрыятычнага абавязку, і на тых, каго пры сутыкненні з ворагам ахоплівае жах, а ён прыводзіў да здрады. Прытым, непазбежныя спадарожнікі вайны — знявага чалавека, здзекі над ім, усё агіднае і жывёльнае на вайне лезе з чалавека, як цеста з дзяжы, бо загад жа трэба было выконваць! Хоць ён, напрыклад, такі: «Ні кроку назад!» І хлапчукі, былыя школьнікі, толькі што атрымаўшыя трохлінейку, ці нават адну гранату, бо ў першыя дні вайны не хапала тых трохлінеек, кідаліся ў атаку, часцей за ўсё бязглуздую... Колькі палягло ў тых атаках нас, васемнаццацігадовых, што проста са школьнай парты трапілі ў пекла бязлітаснай вайны! Загад: «Стаяць насмерць!» — гэта страшэннае закляцце ўспрымалася як непазбежная неабходнасць, бо ў бяздарных камандзіраў не было іншых спосабаў вядзення бою, як толькі ахвяраваннем салдацкага жыцця. Самі ж, між тым, як правіла заставаліся ў тыле, хаваліся ў штабных бліндажах. Смерць іх калі і накрывала сваім чорным крылом, дык толькі выпадкова. Многія з іх жывуць і сёння, дзеляцца з моладдзю «баявымі ўспамінамі», пішуць кнігі, чытаць якія прыкра, бо яны хлуслівыя.

Зайздрошчу Васілю Быкаву: ён сказаў пра «сваю вайну» тую праўду, якую другія, у іх ліку і я, не пасмелі сказаць. І ў чым толькі не абвінавачвалі Быкава тыя ж самыя гора-камандзіры, генералы і палкоўнікі. Крытыкі ж, якіх трапна ахрысціў Л. Лявонаў «вертадоксамі», абвінавачвалі сумленнага летагісца вайны нават у буржуазным суб'ектывізме: не было такіх камандзіраў у нашай геройчнай арміі, як быкаўскі капітан Сахно, і тым самым аўтар скажае рэчаіснасць, бо атручаны буржуазным суб'ектывізмам. А між тым, у той рэчаіснасці, якую, на думку «вертадоксаў», скажае Быкаў, кожны пяты, калі не чацвёрты быў... Сахно! Але вось якая прыкрая парадаксальнасць: можа, мы таму і перамаглі, што «паганятымі» на той праклятай вайне былі вось такія Сахно. Бо наўрад ці перамог бы замардаваны бесчалавечнай сталінскай сістэмай прымусу народ, мільёны вязняў ГУЛАГаў — некаторым з іх было «даравана» права ўласнай крывёю змыць з сябе кляймо «ворагаў народа» — гэтых людзей можна было гнаць на смерць толькі метадамі шматлікіх Сахно. На пачатку вайны прыйшлося мне камандаваць узводам. Прыкладна за два тыдні ад майго ўзвода засталося тры чалавекі: я, санінструктар і сувязны радавы Лёня Сабчак. Прыйшло папаўненне з так званых «дзікіх дывізій» — гэта ацалелыя пасля першай атакі былыя вязні паўночных ГУЛАГаў. Неяк у больш-менш зацішную хвіліну папаўненне гэтае падлічыла, колькі яны разам «не дасядзелі». Атрымалася каля трох соцень год! Якраз столькі, колькі панавала раманаўская дынастыя.

Усё гэта было. І якой бы справядлівай ні была вайна, яна — самае мярзотнае і бязглуздае ў жыцці грамадства, таму і гаварыць, тым больш пісаць пра яе трэба толькі праўду. Што і робіць Васіль Быкаў. Ён найбольш праўдзівы сведка пра людзей на вайне. Генералы і «вертадоксы» патрабуюць ад пісьменніка нейкага «сацыяльнага аптымізму». Але падобнае патрабаванне ў наш бурлівы і шалёны XX век — амаральнае і нават цынічнае.

Ці ж можа лічыцца гераічным учынкам, калі гэты ўчынак здзяйсняецца пад прыцэлам аўтаматаў і кулямётаў заградатрада?

Не ідуць з памяці тыя малайцы з ружовымі гладкімі тварамі, у шыкоўным камандзірскім абмундзіраванні, у добрых юхтавых ботах, з новенькімі аўтаматамі на шырокіх грудзях. Гвардзейцы-грэнадзёры дый годзе! Дарэчы, нашы айчынныя аўтаматы я ўпершыню і ўбачыў у руках заградатрадаўцаў, што ў крывавай бойцы пад Касценьгай перагарадзілі адзіны драўляны масток праз бурлівую вясновую паўночную рачулку. Праз гэты масток спрабавалі прасачыцца акружэнцы 242-га стралковага палка — па «стратэгічнай распрацоўцы» камандавання гэты полк павінен быў загінуць, але затрымаць на нейкі няпэўны час наступаючую эсэсаўскую дывізію.

О, незабыўны той драўляны масток!

Паперадзе мардатых малайцоў на растапыраных «кавалерыйскіх» нагах стаяў і начальнік. Гладкі такі, дагледжаны. Стаяў і памахваў бярозавай галінкай, адганяючы машкару, і нядобра, пагардліва глядзеў на падыходзячых да мастка вайскоўцаў. Стыхійна адыходзячыя з акружэння натыкаліся на заслону, і начальнік махаў на іх бярозавай галінкай, як на машкару.

— Кру-у-угом! — цадзіў ён скрозь пракураныя зубы. — Арш, маць вашу...

І адступаючыя пакорліва вярталіся ў тое смяртэльнае пекла, з якога толькі што вырваліся...

Я ўсё гэта бачыў на свае вочы — быў пасланы з данясеннем у штаб 21-й дывізіі, і мяне прапусцілі праз заслону, прыдзірліва агледзеўшы пакет. Я бачыў, як да мастка падышоў з чародкай байцоў маладзенькі бялявы лейтэнант. Галава ў лейтэнанта была забінтаваная. Метраў за дзесяць да мастка яны спыніліся. Лейтэнант не адразу, пачакаўшы, падышоў да начальніка, ускінуў да свайёй марлевай чалмы руку і ахрыплым голасам пачаў дакладваць:

— Лейтэнант Сімакоў! Вось вяду... вяду... Адбіліся ад сваіх...

Начальнік заградатрада глядзеў на лейтэнанта прыжмуранымі вачыма, потым злавесна загадаў:

— Ка мне, лейтэнант! Бя-ягом! Маць тваю...

Лейтэнант, нізка схіляючы галаву, пасунуўся да начальніка. Той рэзка ўзмахнуў рукою і сцягнуў з галавы лейтэнанта павязку — на льняных валасах крыві не было відаць...

Лейтэнант змяніўся ў твары, плечы яго ў бруднай, парванай гімнасцёрцы затрэсліся. Начальнік зрабіў павольны рух галавою, падышло двое мардатых з аўтаматамі, падхапілі лейтэнанта пад пахі і павялі з мастка ў альховыя кусты. Адтуль неўзабаве пачулася аўтаматная чарга...

— Кру-у-угом, здраднікі, маць вашу... Крывёю акупіце дэзерцірства з поля бою! Арш! Бяг-о-ом!

І па сённяшні дзень перад маімі вачыма застылыя твары байцоў, якім літасціва дазволілі памерці за бязглуздае вядзенне бою разгубленым і некампетэнтным камандаваннем.

А ў спіны асуджаных на смерць пагардліва глядзелі мардатыя малайцы. У іх была ўлада і сіла — усе астатнія павінны былі падпарадкоўвацца, баяцца іх. І баяліся. Быў адчай, страх, глухая злосць і бездапаможнасць...

Але, нягледзячы на жорсткую барацьбу таталітарнага сталінскага рэжыму з уласным народам, маё пакаленне, апаленае ваенным ліхалеццем, сваю грамадзянскую пазіцыю прыдбала з той ідэалагічнай поліўкі, якую гатавалі ўсялякія суславы і жданавы, і было ў палоне духоўнай інфантыльнасці: бацькоў катавалі і расстрэльвалі ў сотнях Курапатаў, а мы, піянеры і камсамольцы, кляймілі ворагаў народа...

Лёс майго пакалення трагічны да жудасці: яно амаль цалкам палегла касцьмі на крывавай дарозе вайны.

Выхваляючыся ў сваіх мемуарах, генералы і маршалы неахвотна гавораць пра гэтыя велізарныя страты, людзі для іх — алавяныя салдацікі ў іхніх аператыўных гульнях. Зразумела, вайна хутка ацверазіла нас, васемнаццацігадовых, але нас не пакінула вера ў неперспаможнасць народа. Праўда, верылі мы і Сталіну, нават хадзілі ў атакі «За Сталіна», мы верылі не вельмі ўцямнай балбатні дэмагогаў-палітрукоў і камісараў. Захаваўся фотаздымак, на якім невядомы камісар з пісталетам наўзлёце падымае байцоў у смяротэльную атаку. Дык, мабыць, мне не пашанцавала: я ўдзельнічаў у атаках, двойчы паранены, але ніколі не бачыў палітрукоў і камісараў паперадзе атакуючых...

Ды што палітрукі і камісары! Бяда не ў гэтым, а ў тым, што вайну пачалі і доўга вялі бяздарныя камандзіры. Сталінская банда знішчыла напярэдадні вайны таленавітую частку вайскоўцаў, пакінула армію на такіх ваяк, як Варашылаў, Будзённы, Цімашэнка ды іншыя прыхвасні Сталіна, якія арыентавалі біць ворага будзёнаўскай конніцай, а малаадукаваную армейскую грамаду нацэльвалі ваяваць на варожай тэрыторыі ды закідаць праціўніка шапкамі.

Такое бездапаможнае і бязглуздае камандаванне войскам на пачатку вайны нават напалохала нямецкіх стратэгаў. Яны рашылі, што гэты стыхійны развал фронту і адыход — хітрая стратэгія: уцягнуць нямецкае войска глыбей на савецкую зямлю ды там і знішчыць. Нешта такое і атрымалася, але без усялякай такой хітрай стратэгіі, на самай справе наша войска было пакінута без танкаў, самалётаў, артылерыі і сувязі...

Вялікі стратэг Сталін усе свае памылкі, як вялося, зваліў на генералаў, палач Лаўрэнцій катаваннем дамагаўся прызнання, што яны, генералы гэтыя, у змове з самім Гітлерам, і яны прызнаваліся...

Але бязлітасна адносіліся сталінскія сатрапы і да радавых байцоў. Гэта ж імі быў дадзены загад: «Ні кроку назад! Стаяць насмерць!» А каб было надзейней, за салдацкімі спінамі паставілі тых жа берыеўскіх мардатых малайцоў з аўтаматамі. Які ж гэта святы гераізм, што праяўлялі салдаты ў такіх абставінах! Але гэты гераізм не адзначаны, бо ён быў безыменны: менавіта косці гэтых герояў і па сённяшні дзень бялеюць на прасторах былой вайны, да гэтага часу не захаваныя...

У гэтым годзе дзень Арміі адзначаўся сціпла, нават быццам бы сарамліва. А чаго нам саромецца! Як бы там ні было — мы пераможцы. Перамаглі таму, што вайна, развязаная Гітлерам, стала народнай вайной. І народ перамог. А не маршалы і генералы.

Сучасная моладзь ужо не адносіцца да арміі з тым пачуццём павагі і нават захаплення, як гэта было ў гады маёй маладосці. Было і ў даваеннай арміі нямала кепскага, агіднага, але такой дзікай з'явы, як, напрыклад, «дзедаўшчына», характэрнай хутчэй для турэмных звычак, нешта не прыгадваю...

Мой уласны лёс звязаны з арміяй, таму нікуды не дзенешся ад успамінаў, бо муляе гэты балючы вузельчык на нітцы, што павінна абрэзаць багіня Антропас, не дае спакою. І калі сястрыцы лёсу Мойры дадуць яшчэ нейкі час, дык, можа, і будзе напісана кніга пра «маю вайну». Але яна патрэбна толькі ў тым разе, калі яна, гэтая кніга, стане яшчэ адным цвіком у труну вайны, з якой яна ўжо больш ніколі не зможа ўзняцца...

**Пятро ВАСІЛЕЎСКІ.**

**Наша крытыка, здаецца, па-ранейшаму не надта спяшаецца дзяліцца ўражаннямі аб новых творах. Прынамсі, пра раман Алеся Асіпенкі, апублікаваны ў дзесятым — дванаццатым нумарах часопіса «Полымя» за мінулы год, яна пакуль што маўчыць. А шкада, бо ў гэтым творы закранаюцца складаныя праблемы сучаснага жыцця, у ім праўдзіва паказана, як таталітарная сістэма няволіла чалавека, рабіла з яго раба, які вымушаны быў па сутнасці не жыць, а дзейнічаць. Нечаканы і матэрыял, пакладзены ў аснову твора. Ці не ўсе грамадскія, сацыяльныя беды ў той ці іншай ступені падаюцца праз вобраз галоўнага героя — знакамітага пісьменніка, кіраўніка творчай арганізацыі. Тут міжволі ўзнікаюць пытанні, адказаць на якія лепей за ўсіх зможа, вядома, сам аўтар рамана А. Асіпенка.**

# ПРАЗ ЛАБІРЫНТЫ СТРАХУ І ХЛУСНІ





**Раман «ЛАБІРЫНТЫ СТРАХУ» чытаюць... аўтар Алесь АСІПЕНКА і крытык Алесь МАРЦІНОВІЧ**

**— Пачнём, Алесь Харытонавіч, бадай, з пытання, якое ўзнікне ці не ў кожнага чытача, які больш-менш ведае пісьменніцкае асяроддзе. Галоўны герой вашага твора — старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Серафім Іванавіч Недасейка. Але ж усе ведаюць, хто займаў гэтую пасаду не так даўно. Вядома, перад намі мастацкі вобраз, характар збіральны, і ўсё ж. Чым растлумачыць, што вы не падабралі свайму знакамітаму літаратару іншую пасаду?**

— Па-першае, атаясамліваць літаратурнага героя з канкрэтным чалавекам толькі на той падставе, што ў іх аднолькавыя пасады, па крайняй меры, неправамоцна. Дырэктар аўтазавода з рамана Уладзіміра Карпава «Вясеннія ліўні» зусім не той канкрэтны дырэктар аўтазавода, якога ўсе добра ведалі, а Карнач з рамана Івана Шамякіна не адэкватны галоўнаму архітэктару горада, якога таксама добра ведалі.

Па-другое, рызыкну запярэчыць, што не ўсе ведаюць, хто «не так даўно» займаў гэтую пасаду. Вялікі Флабер казаў: «Эма Бавары — гэта я». І ніхто пакуль у гэтым не ўсумніўся. Дык чаму трэба сумнявацца, што я займаў гэтую пасаду?..

**— Згодзен, але ж... Заводаў тых у Мінску добры дзесятак, а пісьменніцкі саюз адзін-адзіны...**

— Чакайце, чакайце! Аўтазавод, як і Саюз пісьменнікаў, у Мінску адзін. Давайце не будзем гуляць у хованкі. У папярэднім маім рамане «Святыя грэшнікі» месцам дзеяння ўзята кінастудыя. Хто быў на той час галоўным рэдактарам кінастудыі не менш вядома, як тое, хто быў старшынёй саюза. Але ж ні ў кога не ўзнікла пытання, чаму я аддаў гэтую пасаду нейкай Накіпелавай, і чаму я ёй не даў другую пасаду. Выходзіць, не ўсе пасады выклікаюць сумненне, а толькі нашы, літаратурныя. Яны — табу. Дзіўны падыход!..

Для мяне праца над творам пачынаецца з біяграфіі героя, якую я прадумваю ўсебакова і грунтоўна, незалежна ад таго, ці ўся яна ўвойдзе ў тканіну твора. Выбіраючы занятак герою рамана «Лабірынты страху» Серафіму Недасейку, я меў на ўвазе не канкрэтны Саюз пісьменнікаў, а ўсе творчыя саюзы як спараджэнне пэўнай ідэалагічнай сістэмы. Калі хочаце, дык Саюз пісьменнікаў, можа, найменш тыповы ў асяродку іншых творчых саюзаў. Серафім Недасейка, па маёй задуме, павінен быў стаць абагульненым вобразам чыноўнай творчай эліты. А ў ёй — трагедыя і ўсёй нашай творчай інтэлігенцыі.

На жаль, у нашай рэальнасці не чалавек упрыгожвае месца, а наадварот. І так на ўсіх узроўнях грамадскага жыцця. Чалавек на пасадзе — і ён нешта, пазбавілі пасады — і ён нішто. І не толькі ў творчых саюзах. Прыгадваю, як нашы партыйныя мудрацы паставілі на пасаду генсека Чарненку, які і двух слоў не мог звязаць. А як яго ўзяліся цытаваць, як узносіць! Было такое ўражанне, што ён самы разумны ва ўсім свеце. Або прыпамінаю сустрэчу пісьменнікаў з нашым першым сакратаром цэка Малафеевым. Божа, якая нязграбнасць мовы, якія недарэчныя высновы, якія перлы абгрунтаванняў. Было сорамна і няёмка слухаць. І што? Асобныя нашы творцы кінуліся ўзахлёб хваліць выступленне. Хвалілі ж, вядома, не яго, а тое крэсла, у якое яго пасадзілі тыя ж партыйныя мудрацы. Для народа гэта канчаецца трагедыяй. Для творчай эліты — іх асабістай трагедыяй. Серафім Недасейка таму прыклад.

**— Сапраўды, наколькі высокім быў аўтарытэт пісьменніка «наверсе», у ЦК КПБ, настолькі паважна да яго і ставілася. Хутка арыентавала нос «па ветру» і крытыка. Пра гэта вы сказалі ў рамане. Пра крытыку «службовую»: «Серафім Іванавіч выдумваў жыццё, а літаратуразнаўцы — выдумвалі Серафіма Іванавіча. Але Серафім Іванавіч хлусіў з выдумкай, майстэрствам, таленавіта і ярка, а літаратуразнаўцы — прымітыўна, шэра, без належнай фантазіі. У Серафіма Іванавіча банальная хлусня выглядала праўдай, і толькі пільнае вока магло заўважыць падмену аднаго паняцця другім. Літаратуразнаўцы хлусілі наўмысна і свядома — Серафім Іванавіч быў для іх бясспрэчны, як прарок».**

— Усё было больш складана. Сярод наменклатурнай творчай эліты былі самыя розныя людзі, таленавітыя ў тым ліку. Але пасады непазбежна вымушалі іх прыстасоўваць свой талент да кан'юнктурных партыйных патрабаванняў.

Напісаць раман «Разгром» мог толькі выдатны талент — Аляксандр Фадзееў, а вось «Маладую гвардыю», «Чорную металургію» — партыйны функцыянер. Закончылася гэта трагічна — стрэлам у сэрца.

Станавым жа хрыбтом сістэмы была творчая эліта з непахісных фанатыкаў і штучна надзьмутых велічыняў.

Мне, напрыклад, некалі ўяўлялася, што паэма «Цені на сонцы» Андрэя Александровіча, так бы мовіць, вымушана кан'юнктурная. Многія ж пісалі і выступалі на сходах не па загадзе сэрца і сумлення, а па падказцы партыі. Ды згадваецца такі выпадак. У сярэдзіне пяцідзесятых гадоў Андрэй Іванавіч вярнуўся з высылкі ў Мінск і на першым жа пленуме Саюза пісьменнікаў Беларусі пачаў паўтараць выдумку аб палітычных памылках і злачынствах дзеячаў беларускай культуры і літаратуры. Значыць, быў цвёрда перакананы, што памылкі былі.

А зусім нядаўна я быў уражаны выказваннямі па тэлебачанні шаноўнага Заіра Ісакавіча Азгура. Сталіншчына бязлітасна праглынула многіх яго сяброў. Шаноўнаму мэтру даводзілася выносіць прысуд і іх партрэтам. Факт трагічны, хоць і памянуты мімаходзь. Але вось размова зайшла пра самога Сталіна і сталіншчыну. Я аж падзівіўся: як змяніліся жэсты і голас скульптара, з якой цеплынёй і ўдзячнасцю гаварыў ён пра Сталіна. І я верыў яму, паважаў яго погляды. У чалавека ёсць неад'емнае права выбіраць сабе бога. У адных гэта святы пакутнік, закатаваны па загадзе дэспата, у другіх дэспат, які, не задумваючыся, праліваў кроў святых.

Але, пры ўсім тым, найбольш шанаваліся аўтарытэты надзьмутыя, якія толькі і трымаліся на партыйных падпорках. Яны ведалі: партыя можа ўзносіць іх высока, але і кідаць у прорву. Таму трэба апраўдваць яе давер. А іх за верную службу абсыпалі дабротамі: узнагародамі, прэміямі, перавыданнямі. Іхнія творы можна было толькі хваліць. І хвалілі. Рабілі з нічога нешта. Ну, што такое ў вялікай рускай літаратуры Леанід Собалеў? Некалькі апавядаанняў з боцманскім гумарам, слабы раман «Капітальны рамонт», публіцыстычныя артыкулы. А ён жа кіраваў усімі нацыянальнымі літаратурамі, з якіх, калі і ведаў, дык крыху казахскую. Ды што там Собалеў! Агульнымі намаганнямі быў створаны класік рускай літаратуры Георгій Маркаў, двойчы Герой Сацыялістычнай Працы, першы сакратар Саюза пісьменнікаў СССР. А ягоны паплечнік і зямляк Сяргей Сартакоў?! Назавіце мне ягоныя творы...

**— Раман «Філасофскі камень». Праўда, я яго не чытаў...**

— Ды многія не чыталі. І не варта шкадаваць.

**— Пісьменнікі, пра якіх вы гаворыце, Алесь Харытонавіч, — а можна назваць яшчэ не адно прозвішча, — належалі і сапраўды да тых, хто заваёўваў прызнанне не якасцю сваіх твораў, а з дапамогаю адпаведных інстанцый. Недзе ў глыбіні душы такія літаратары разумелі, што мастакоўскі аўтарытэт іх штучны...**

— Ой, сумняваюся, што разумелі. Чым больш бяздарны пісьменнік і чым вышэй ён стаіць на службовай лесвіцы, тым больш упэўнены ў сваёй геніяльнасці. Серафім Недасейка — не бяздар і не надзьмуты аўтарытэт, як і не бяздумным фанатык. Гэта яшчэ адна катэгорыя наменклатурнай эліты, той, якая прыстасавалася да таталітарнай сістэмы з яе жорсткімі правіламі гульні. Ёй шляхам кампрамісаў і дыпламатыі ўдалося захаваць незаплямленым сваё сумленне, якое і не давала ёй канчаткова загубіць сябе. Таму рана ці позна, а павінны былі адбыцца і перамены ў іх свядомасці. Праўда, да канца змяніцца ім, бадай, не ўдалося.

**— Недасейка... Прозвішча, як на маю думку, невыпадковае. Нешта пасеянае ды недасеянае.**

— Не сказаў бы, што свядома шукаў для свайго героя менавіта такое прозвішча. Яно мне падабаецца. Хаця, пры жаданні, і сапраўды можна знайсці ў ім нейкі падтэкст.

**— Вы паказваеце Недасейку тыповым прадстаўніком свайго пакалення, выхаванага на страху, падмане. Таму так арганічна і ўваходзіць у раман усё тое, што звязана з мінулым Серафіма Іванавіча? Мінулае ж Недасейкі — яго маленства, юнацтва — гэта трыццатыя гады, якраз тыя самыя «лабірынты страху», што запоўнілі літаральна ўсю краіну...**

— Страх страху няроўны. Некалі пра сумленнага, прыстойнага чалавека казалі, што ён выхаваны ў страху божым.

Не бяруся казаць, ці арганічна ўваходзіць у раман мінулае Серафіма Недасейкі. Гэта справа крытыкаў. Зазначу толькі, што маленства паслухмяных, добрых дзяцей найчасцей суправаджаецца страхам. І гэта натуральна ў сілу іх безабароннасці. Безумоўна, гэта нейкім чынам адбіваецца на іхнім жыцці. Але я меў на ўвазе нешта іншае.

Згадзіцеся, што ўсе мы паходзім з дзяцінства. Менавіта тады фармуецца чалавек і ўсё чалавечае ў ім. Нечалавечае таксама. Цераз дзяцінства і юнацтва мне хацелася раскрыць вытокі творчасці Серафіма Недасейкі і яго падсвядомы імунітэт да варункаў жыцця. Ідыятызм вясковага жыцця, калі і паўплываў на яго, дык у станоўчым плане.

**— Лёгка можна ўхапіцца за падобнае ваша сцверджанне. Мы ж па-ранейшаму бачым панацэю менавіта ў вёсцы. Гаворым пра трываласць карэнняў, нацыянальных устояў, якія прысутнічаюць на сяле. А вы пра ідыятызм вясковага жыцця!**

— Сапраўды, я, бадай, няўдала выкарыстаў тэрміналогію даўніх часоў. Хоць чаго там! Руская літаратура пастаралася даволі ярка паказаць менавіта ідыятызм вясковага жыцця. Пэўна, ідыятызму хапала і на вёсцы і ў горадзе. Ды і здаровая вясковая мараль, пра карані якой вы кажаце, загартоўвалася ў барацьбе з ідыятызмам. Дыялектыка!..

І не адтуль, з вясковага жыцця, бярэ пачатак страх. Ды і не фізічны страх цікавіў мяне, хоць я і не абыходжу яго ў рамане. Я імкнуўся прааналізаваць страх, як вынік разгубленасці і згубы нармальнага чалавечага супраціўлення, часам згубы свядомай, якая суправаджалася стратай маральных каштоўнасцей. Лабірынты такога страху неабсяжныя. Спашлюся на цудоўнае апавяданне А. Яшына «Рычагі». У ім героі, сабраўшыся на партсход, разумна і шчыра гавораць пра жыццё, але вось пачынаецца афіцыйнае пасяджэнне і тыя ж людзі ўжо гавораць тое, што патрабуецца ад іх. Чаму? Ды таму, што ў кожным з іх сядзіць затоены, падсвядомы страх. Але такі страх пачынаецца з нечага большага.

**— З чаго, у такім разе?**

— Мяркую, з сацыяльных катастроф. Увасабленне іх — у вобразе Марка Удоева, не без удзелу якога быў расстраляны і бацька Серафіма Недасейкі.

**— Ідэолаг насілля, але адначасова і ідэолаг рэвалюцыі. Калі чытаеш разважы гэтага недалёкага чалавека (хаця ў параўнанні з наглядчыкам Кротавым ён стаіць усё ж значна вышэй), страшна становіцца ад таго, што менавіта ад падобных удоевых залежаў лёс тысяч і тысяч людзей, якіх так настырна штурхалі ў «светлую будучыню»...**

— Дазволю сабе з такой роллю Марка Удоева не пагадзіцца. Ніякі ён не ідэолаг насілля, а добрасумленны практык. Яго ўчынкі сёння могуць здавацца абсурднымі, але за імі заўсёды канкрэтная справа. Не трэба забываць, што Марк ловіць бандытаў. Што ж тут нядобрага? Наадварот, гэта ўзвышае Марка ў вачах пасынка Серафіма. Для яго Марк — герой.

**— Што ж, можна зразумець становішча Недасейкі. Самы ўзрост, калі шукаеш сабе ідэал. А тут палымяны «ленінец», рашучы, бескампрамісны. Недзе падсвядома спрацоўвала і гэтае, сказанае аднойчы айчымам хлапчуку: «...я вытрасу з цябе дробнабуржуазную стыхію і люмпен-пралетарскі анархізм. Я выкую з цябе чэкіста або, на горшы выпадак, класава карыснага інтэлігента, якім табе хочацца быць». Інтэлігентам Серафіму хацелася быць, таму «коўка» і адбывалася паспяхова. Праўда, спрацоўвалі і іншыя ўрокі. Напрыклад, галоўны герой хутка засвоіў: «Свет выглядаў таямніча, і кожны чалавек у ім нёс сваю тайну. Людзі таму гаварылі няпраўду». Інакш кажучы, бальшавізм Удоева трапляў на добрую глебу. Мне б хацелася яшчэ раз падкрэсліць бальшавізм. Бо, мне здаецца, бальшавізм праяўляецца не толькі ў самой прыналежнасці да камуністычнай партыі.**

— А ў чым?

**— Бальшавізм — з'ява больш шырокая. Бальшавіком, умоўна кажучы, можа быць і прадстаўнік іншай партыі, калі прытрымліваецца аднаго толькі прынцыпу — ламаць, да асноў, толькі пасля задумваючыся, дзеля чаго гэта неабходна і ўвогуле, ці была ў тым неабходнасць.**

— У аснове ўсіх рэвалюцый ляжыць разбурэнне. Стварэнне пачынаецца пазней. Рэвалюцыя разбурае не толькі эканамічны фундамент грамадства, сацыяльны лад, але і ўзвычаены парадак. Парадокс заключаецца ў тым, што людзі рэвалюцыі, якія толькі што разбурылі парадак, тут жа пачынаюць яго аднаўляць, прычым самымі жорсткімі метадамі. Што і робіць Марк Удоеў.

**— Вы ведалі чалавека, падобнага на Марка Удоева? Ці пісалі яго з некалькіх людзей?**

— Удоевымі наша зямля багатая. Зазірніце на мітынгі. Вось дзве ў гадах жанчыны абурана адказваюць на пытанне, што яны думаюць пра сталінскія рэпрэсіі. А іх, аказваецца, не было. Усё гэта выдумкі. Удоеўшчына — гэта безаглядная вера ў разумнасць і правільнасць рэвалюцыйнай бязлітаснасці — тэрору — калі ўжо ніякія аргументы не маюць сэнсу.

Адважуся сцвярджаць, што Марк Удоеў усё ж фігура больш складаная за памянёных мною дзвюх старых жанчын. Ды і жыў ён у другі час і пры другіх акалічнасцях. Тады быў пачатак шляху, які аказаўся дарогай назад. Марку, як і мностcovу людзей, здавалася, што варта зрабіць яшчэ адно намаганне і жаданая мэта будзе дасягнута. Варта толькі прыбраць з дарогі тое, што замінае руху наперад. Марк шчыра верыў у карыснасць усяго, што рабілася. І сам рабіў усё, што здавалася яму правільным і патрэбным рэвалюцыі.

**— Па сутнасці, Марк Удоеў — і ахвяра абставін, у якіх апынуўся. Ён не можа пайсці насуперак ім, ён ужо дзейнічае, як запраграмаваны. Толькі «вінцік» сістэмы. Да літаратуры Удоеў таксама ставіцца з пункту гледжання тых самых інтарэсаў, якім служыць. Вы добра перадаяце момант, калі Недасейка ўпершыню асмеліўся паказаць нешта напісанае айчыму. Той рашучы і бескампрамісны: «...Пакуль у галаве палітычны сумбур і прочая няспелая неразбярыха, няма ў цябе законнага права разбэшчваць народныя масы, а таму накладаю забаронную рэзалюцыю — не пішы! Ды для каго павінен пісаць? Для рэвалюцыйнага пралетарыяту. Рэ-ва-лю-цый-на-га! А прадукт няспелай тваёй галавы пакуль гоніць брак з буржуазным душком. Задумайся, Сеня, на чый млын ты льеш ваду? На млын міжнароднага імперыялізму. Але я вытрасу з цябе дробнабуржуазную стыхію і люмпен-пралетарскі анархізм. Я выкую з цябе чэкіста або, на горшы выпадак, класава карыснага інтэлігента, якім табе хочацца быць». Недасейка і трапіў у сілу Маркавай філасофіі. Бо вельмі ж хацеў быць «інтэлігентам», пісьменнікам, карысным народу.**

— Што значыць хацеў — не хацеў? Ён не мог не пісаць. Максімаў у рамане таксама піша творы...

**— Ён як антыпод Недасейку. Знакаміты вучоны-атамшчык і нікому невядомы пісьменнік. Але, пісьменнік, бо ўсё, што піша ён для сябе, пазначана сапраўднымі назіраннямі над жыццём, той праўдай, якой так не стае творам Недасейкі. Ды скуль ёй было ўзяцца, калі ён увесь час тварыў з аглядкай?**

— Параўноўваць творчасць двух літаратурных герояў — справа даволі рызыкоўная. Гэта можна было б зрабіць, прачытаўшы іхнія творы. А як гэта зрабіць? Даводзіцца давяраць густу аўтара. А што, калі аўтар памыляецца?

Хоць чакайце, здаецца, у вас ёсць такая магчымасць прачытаць што-нішто з рамана Серафіма Недасейкі? «Жніво пад чорным сонцам», а значыць і зрабіць сваю выснову яго літаратурнай вартасці.

**— Дзе прачытаць?**

— У рамане «Святыя грэшнікі» рэжысёр Лазар Богша ставіць апошні свой фільм па сцэнарыі Баравіка-Залеўскага. Уласна кажучы, вакол гэтага і разгортваецца ўсё раманнае дзеянне. Не памятаю ўжо, хто з пісьменнікаў сказаў мне, што было б цікава пачытаць сцэнарый, каб самому пераканацца, ці сапраўды па ім можна зрабіць геніяльны фільм, і як жа ён быў здзіўлены, калі я адказаў, што сцэнарый уключаны ў тканіну рамана ў выглядзе начных трызненняў Лазара Богшы. Сапраўды, што можа трызніцца рэжысёру, калі не яго

пакутны фільм. Сцэнарый складаны для пастаноўкі? Так! Але ён у чымсьці падобны на сцэнарыі фільмаў Андрэя Таркоўскага.

Раздзелы пра дзяцінства Недасейкі ў рамане «Лабірынты страху» і ёсць раздзелы з рамана самаго Недасейкі «Жніво пад чорным сонцам».

Што датычыць з'явы пісаць у стол, дык яна даволі распаўсюджаная. У рускай літаратуры яна набыла статус і пакутніцтва і гераізму. У нас не атрымала вялікага распаўсюджання. Ведаю, што ў стол пісаў Алесь Наўроцкі, Уладзімір Дамашэвіч, некалі быў рассыпаны набор рамана Караткевіча «Леаніды не вернуцца на зямлю». У Пімена Панчанкі ад кожнай кнігі заставаўся ладны стос вершаў, знятых па розных прычынах.

Забараняць маглі ўсе, адстойваць, друкаваць — нямногія. Працавала сістэма, а яна грунтавалася на прынцыпах ленінскага падыходу да літаратуры.

**— А ці не прасцей было б зрабіць Максімава не вучоным-атамшчыкам, а, скажам, літаратарам, які не знайшоў сябе?**

— Можа, і прасцей. Ды што з таго? І што значыць, прасцей ці не прасцей? Перад пісьменнікам такой праблемы не бывае. Вобраз Максімава — вучонага з раскулачаных, чалавека, адарванага ад радзімы, мовы, культуры, нарэшце ад народа — узнік у мяне раней за вобраз Недасейкі і запаланіў. Я проста пакутаваў ім і любіў яго. Мне нават хацелася зрабіць яго галоўным героем. Чаму? Па многіх абставінах. Уявіце сабе, чалавек загнаны ў сібірскую далячынь; адарваны ад каранёў і вытокаў народнай культуры, ізгой савецкай сістэмы, і ён знаходзіць у сабе сілы, каб назусім не страціць гэтыя карані і вытокі, пажывіцца сокамі роднай зямлі. Максімаў мог толькі з аркушам паперы размаўляць на сваёй мове, толькі ад бабулі чэрпаць народную мудрасць. І гэта ў той час, як наша навуковая і тэхнічная інтэлігенцыя, якая выйшла з-пад стрэх сялянскіх хат, па сутнасці, сама сябе загнала ў сібірскую ссылку, выракласся і сваёй мовы, і сваёй культуры, але і рускай мовы не засвоіла, і да рускай культуры не дацягнулася. Руская мова ў яе жахліва непісьменная, а культура павярхоўная, на ўзроўні сібірскага гарадка, дзе жыў Максімаў. Але ж ён жыў вымушана, а хто змусіў нашу навуковую і тэхнічную інтэлігенцыю апускацца да ўзроўню мятлеўскай пані Курдзюковай! Ад зямлі адарвалася і неба не дасягла. Саслаўшы лепшых людзей у Сібір, мы зрабіліся жабракамі і фізічнымі і духоўнымі.

Вось чаму мне дарагі Максімаў...

**— І Максімаў тут сапраўды прыемнае выключэнне і адначасова, так бы сказаць, той чорны бусел, птушка рэдкая...**

— Не сказаць, каб выключэнне, але з'ява не ардынарная. Нацыянальная самасвядомасць у рэспубліцы пакрысе набірае сілу. А гэта мацуе надзею на выжыванне беларускага народа як нацыі, бо народ, разумовы патэнцыял інтэлігенцыі якога аддадзены на абслугоўванне другога і больш магутнага народа, непазбежна асуджаны на марудную смерць. Ён загіне, як старажытныя обры.

Ну, ды гэта ўжо іншая тэма.

Што ж датычыць Максімава, дык ён, хутчэй за ўсё, не тыповая з'ява ў тыповых беларускіх абставінах. Вучоны-атамшчык яшчэ і пісьменнік, які піша на сваёй мове...

**— І без агляднi, так сказаць, без кан'юнктуры. Яму, канечне, прасцей. У тым сэнсе прасцей, што загадзя ведае — усё гэта не надрукуюць. Піша для сябе, таму і не баіцца. Недасейка ж пісаць для сябе няздатны. Яму хочацца, каб яго ведалі, яму хочацца ўвесь час быць «наплыву». Ён ужо ў палоне сістэмы. Як на маю думку, гэта добра бачна з таго моманту ў рамане, калі Максімаў аднойчы заўважыў Недасейку: «А табе ніколі не даводзілася задумвацца над тым, што мы ўвесь час адольваем вар'яцкі бег з бар'ерамі: то змагаліся з контррэвалюцыяй, якую ж самі і стварылі, то з трацкізмам, то з ваеннай апазіцыяй, то з ворагамі народа, кулакамі, двурушнікамі, шкоднікамі; то з культам Сталіна, то з валюнтарызмам, то з застоем — і ўсё пад дырыжорскую палачку, і ўсё з нязменным прыпевам: цяпер у нас адкрыліся бязмежныя перспектывы». Недасейка і пераадольваў усе гэтыя «бар'еры». Але ж ці нельга яму адмовіць у праве думаць так, як ён пісаў у сваіх творах? Прадукт сваёй эпохі — ён і жыў згодна з гэтай эпохай. Калі так падысці да Недасейкі, дык чалавек ён сумленны, толькі ахвяра абставін...**

— Гэта ўжо нешта са школьных методык па літаратуры: сумленны — несумленны, станоўчы — адмоўны, варты для прыкладу ці не варты. Схема: белае-чорнае. Мы гэта ўжо некалі праходзілі...

**— Здаецца, мы гаворым аб розным. Я не пра станоўчасць ці нестаноўчасць Недасейкі. Я пра тое, што Недасейка, як творца, мог быць перакананы ў тым, чым жыў. Мы ж гатовы ці не адмовіць чалавеку ў праве думаць так, а не інакш. Памятаю, як нядаўна адзін з народных дэпутатаў Беларусі ў «Народнай газеце» жывога месца не пакінуў ад М. Шолахава, М. Шагінян і іншых пісьменнікаў. Бачыце, яны пісалі не так, як павінны былі пісаць!**

— Сапраўды, а ці не гаворым аб розным?

Для мяне Серафім Недасейка — галоўная дзейная асоба рамана, персанаж, які нясе пэўную маральную, сацыяльную, эстэтычную функцыю. Тыповая ён з'ява ці не тыповая — меркаваць не мне. Але і ставіцца да яго, як да аднаго з членаў Саюза пісьменнікаў Рэспублікі Беларусь, неправамерна. Недасейка — вынік майго ўяўлення, які ў рамане зажыў сваім жыццём. Часам я не ведаў, што ён зробіць у тых ці іншых абставінах і ён, бывала, рабіў насуперак майму жаданню. У яго ўжо была свая логіка. Ён і гаварыў тое, што хацеў, а не тое, што хацелася мне.

Калі мы гатовы адмовіць чалавеку ў праве думаць так, а не інакш, дык гэта, безумоўна, вельмі кепска. Але чаму тады мы павінны адмаўляць і народнаму дэпутату меркаваць пра творчасць Шолахава або Шагінян так, як яна яму ўяўляецца?

На жаль, не чытаў гэтага артыкула. Можа, і паспрачаўся б з шаноўным дэпутатам. Для мяне «Ціхі Дон» найталенавіцейшы твор савецкай літаратуры, па смеласці і па майстэрстве якому няма роўных. Кавалерыйскія наскокі на шэдэўры практыкаваліся ва ўсе часы і ва ўсіх літаратурах. У наскоках на Шолахава — асабліва на яго «Ціхі Дон» — я чую падтэксты барацьбы палітычных поглядаў розных груповак. Ці не гэта раздзірае сёння і наша грамадства, не даючы яму выбрацца з дрыгвы. Палітыка — брудная справа, а погляды ёю народжаныя, звычайна носяць адбітак нецярпімага суб'ектывізму, грубых фальсіфікацый і абсурдных абвінавачванняў.

Прызнаюся шчыра, я вельмі баяўся запалітызаванасці рамана. Таму я імкнуўся зразумець сваіх герояў, разгледзець іх з усіх бакоў. Ва ўсякім разе, я цярпліва выслухоўваў іх, старанна запісваў іх выказванні і патаемныя думкі.

Ці справіўся са сваёй задачай? Не ведаю...

**— Не ведаю, як іншыя чытачы, але я асабіста атрымаў задавальненне і ад таго, што вы, выкрываючы, бічуючы ў рамане ўсё тое нездаровае, што нёс з сабой, я б сказаў — «ілжэсацыялізм» (ды і цяпер, яшчэ, відаць, гэта адчуваецца), не апускаецеся да выразаў тыпу «ў гэтай краіне», «савок». Гэта ж проста не паважаць сябе! А хіба сапраўдны амерыканец (японец, кітаец, немец і г. д.) скажа пра сваю радзіму: «у гэтай краіне»? Як бы яму цяжка ні было (а хіба за «бугром» усім аднолькава лёгка?), ён ведае — гэта яго радзіма, а радзіма — адна, яе не выбіраюць...**

— Сусветная — у тым ліку і руская — літаратура тым і важкая, тым і цікавая, што аб'яднала пад сваім дахам безліч розных, палярных поглядаў на жыццё, на прызначэнне чалавека на зямлі, і ў сусвеце, самых розных філасофскіх, маральных, этычных, прававых падыходаў да з'яў рэчаіснасці. Яна не баялася браць усё тое, што ўласціва чалавеку, спрабавала асэнсаваць любыя яго ўчынкі мастацкімі сродкамі. Затое якая палітра фарбаў!

Аднапартыйная ідэалогія і параджаны ёю метад сацыялістычнага рэалізму прывялі погляды да адной ідэі, філасофіі, аднаго ўспрымання рэчаіснасці — нязменна бадзёрага, рамантычнага, узнёслага. У выніку такой стрыжкі пад бокс і творы пісьменнікаў у абсалютнай сваёй большасці зрабіліся падобнымі, як салдаты ў страі. У літаратуры запанавала некалькі схемаў, па якіх і пісаліся творы.

На вялікі жаль, гэтая схематычная, адпрасаваная наглядам літаратура выхавала і бяздумнага, звыклага да штампаў чытача. Горш, яна спарадзіла сваіх тэарэтыкаў, якія прапагандавалі — ды і цяпер прапагандуюць — шэрасць, мастацкую бездапаможнасць на адзін манер пашытых твораў, выдаючы іх за вельмі патрэбныя і мастацка дасканалыя.

Затое як дружна яны нападалі — ды і цяпер нападаюць — на творы сапраўды высокай мастацкасці і культуры, якія, аднак, па іх думцы, не кладуцца ў Пракрустава ложа іхняй абмежаванасці.

А што зробіш, калі графаманы і невукі ў нас заўсёды былі ў пашане?

**— Пяройдзем зноў да рамана... І ўсё ж «Жніво пад чорным сонцам», над якім працуе Недасейка ў апошнія свае дні, дае падставы сцвярджаць, што ён адначасова і нейкі іншы, чым усе ведалі яго дагэтуль. Па-мойму, штуршком для напісання гэтага твора стала чарнобыльская катастрофа?**

— Чарнобыльская катастрофа, як і сустрэча з паэтэсай Кацярынай Цудняй, бадай, усяго толькі штуршок да пераацэнкі сваёй творчасці. Глыбінныя працэсы прасвятлення ляжаць недзе ў мінулым. Зрэшты, не мне іх шукаць.

**— Памятаю эпізод, паэтэса працуе буфетчыцай, і як быццам задаволена сваёй працай, хоць, канечне, і перажывае, што адышла ад літаратуры. Хаця, можа, і добра, што адышла, змагла зрабіць гэты цяжкі крок, на які асмеліцца, рашыцца далёка не кожны з тых, хто піша.**

— За дваццаць гадоў працы ў часопісе «Маладосць» мне давялося чытаць і кансультаваць творы дзесяткаў пачынаючых празаікаў. Былі сярод іх, на мой погляд, людзі таленавітыя, перспектыўныя. Але, пахадзіўшы ў маладых ды пачынаючых, яны чамусьці кідалі літаратурны занятак. Затое тыя, на каго асабліва не было спадзявання, засталіся ў літаратуры. Не ведаю, што лепей...

**— Пасля раптоўнай смерці Недасейкі жонка спальвае яго рукапіс. Яна баіцца, што раман можа пашкодзіць аўтарытэту пісьменніка?**

— Створаныя міфы ахоўвае не адна Недасейкава жонка. Яны патрэбны многім. У тым ліку і самому грамадству.

**— Раман «Лабірынты страху», Алесь Харытонавіч, чарговы крок у вашай творчасці. Тым больш, ён завяршае свайго роду трылогію аб інтэлігенцыі — «Непрыкаяны маладзік», «Святыя грэшнікі» і гэтыя «Лабірынты страху».**

— Спачатку адна істотная заўвага.

Нашу беларускую літаратуру лічаць традыцыйна вясковай, сялянскай. Такое вызначэнне, пры ўсёй яго ўмоўнасці, цягне за сабой цараванне ў літаратуры вясковага героя з яго адмысловай лексікай і пэўным інтэлектуальным узроўнем. Сапраўды, шэраг таленавітых майстроў слова (Кузьма Чорны, Іван Мележ, Аляксей Кулакоўскі, Аркадзь Чарнышэвіч, Мікола Лупсякоў, Іван Пташнікаў, Іван Чыгрынаў, Алесь Жук і іншыя) стварылі запамінальныя вобразы вяскоўцаў.

Трымаючыся вось такой вызначальнай адзнакі літаратуры — вясковая, гарадская, ваенная,— хацелася б назваць нашу пасляваенную літаратуру інтэлігенцкай, г. зн. літаратурай, дзе галоўнымі героямі літаратурных твораў выступаюць інтэлігенты. Пералік такіх герояў можна было б пачаць Лабановічам і Сцёпкам Барутам з хрэстаматыйна вядомых твораў Якуба Коласа. Але не стану заглыбляцца ў далёкае мінулае. Глянем на літаратуру пасляваенных гадоў. Прыгадаем раманы, аповесці, апавяданні такіх пісьменнікаў, як Янка Брыль, Іван Шамякін, Ян Скрыган, Уладзімір Караткевіч, Іван Навуменка, Міхась Стральцоў, Уладзімір Карпаў, Уладзімір Дамашэвіч, Віктар Карамазаў, Барыс Сачанка, Аркадзь Марціновіч, Лідзія Арабей, Генрых Далідовіч, Васіль Гігевіч, Таіса Бондар і адкрыем для сябе, што героі іх кніг — творчая, навуковая, тэхнічная (гарадская) і шматлікая вясковая інтэлігенцыя з яе праблемамі, надзеямі, спадзяваннямі, з яе адметнай мовай, псіхалогіяй, духоўнасцю.

Дазволю сабе адступіцца ад уяўнай сціпласці, якой мы так ганарымся.

Ад першага апавядання «Лёд растае» і да рамана «Лабірынты страху», пра які сёння гаворым, усе сацыяльныя, маральна-этычныя, духоўныя праблемы нашага зачмуранага грамадства я спрабаваў рашаць з дапамогай вобразаў з асяродка беларускай інтэлігенцыі. Вядома ж, не заўсёды ўдала. Хапала горкіх паражэнняў, але я заставаўся верны сваёй тэме, свайму матыву. У мяне склалася пэўнае стаўленне да лёсу той часткі грамадства, якой павінны былі б ганарыцца і якой папіхаюць, як чорнаработчай служанкай, што нават не заслужыла прыстойнага заробку. Нагадаю гэтыя мае творы і іх галоўных герояў. Раманы: «Вогненны азімут» (Тышкевіч, Баталаў, Ланкевіч), «Непрыкаяны маладзік» (Вера Паўлаўна, Жарнасек, Кацярына Кірылаўна, Шанкель), «Святыя грэшнікі» (Лазар Богша, Кірыла Лыкавязаў), аповесці: «Паплавы» (Вера Алексіч, Леў Раманавіч Баравы), «Рэха даўніх надзей» (Хрысціціны дзеці). Бадай, спынімся... Было нямала рэцэнзій, станоўчых, разносных, цікавых, глыбокіх, павярхоўных — усякіх. За іх я шчыра ўдзячны аўтарам. Але як бы хацелася, каб нехта глянуў на маіх герояў, як носьбітаў інтэлігенцыі. І не толькі на мае творы. Тэма інтэлігенцыі ў беларускай літаратуры — гэта, на мой погляд, тэма дачынення той жа інтэлігенцыі да нацыянальнага Адраджэння.

А цяпер пра трылогію.

Яе няма. У задуме, якая блізкая да завяршэння,— тры раманы пра творчую інтэлігенцыю. Своеасаблівы трыпціх, у сярэдзіне якога раман «Святыя грэшнікі», а па баках «Лабірынты страху» і «Адпушчэнне грахоў...»

**— Новы твор? Раман?..**

— Так, раман. Галоўны яго герой — мастак Мацей Ухвала.

Справа ў тым, што праца над раманамі запатрабавала нейкай сэнсавай і мастацкай завершанасці трыпціха ў выглядзе трох аповесцяў. Я назваў гэтыя тры аповесці малым трыпціхам. У сярэдзіне яго «Сатанінскі суд», аповесць даўно напісана, але яна патрабуе некаторай шліфоўкі, абапал яе — «Цыркачка і маёр», па звестках запланавана на другое паўгоддзе сёлетняга года ў часопісе «Маладосць», і «Клетка для берасцянак», аповяд пра агрэсіўнасць палітызаванай інтэлігенцыі.

**— Цяжка сёння выдацца...**

— Можа, і давядзецца пісаць у стол. Не дай Божа паспытаць такога шчасця! Хацелася б спадзявацца, што ў рэшце рэшт будзе знойдзена выйсце і з паперай і з выдавецкімі магутнасцямі. Якое ж гэта нацыянальнае Адраджэнне на дэтэктыўных раманах, парнасексуальных дапаможніках з Анжэлікай у прыдачу? Ды ўсё да таго ж выдадзенае для рускага чытача.

**— Будзем спадзявацца, мы ж ужо прайшлі праз лабірынты страху і хлусні.**

Змітрок МАРОЗАЎ

# НАША ЖЫТА НЯМА КАМУ ЖАЦЬ...

## Салавецкая балада

Пралятаў селянін над палыннай зямлёй,
Невядома адкуль ён ляцеў,
Апусціўся ля хаткі трухлявай сваёй,
Бы ў дзяцінстве, на прызбе прысеў.

Разгарнуў хатулёк ён і бохан дастаў,
Сала скрыль з часнаком, агуркі.
Чарку поўную «горкай» наліў, пагукаў:
«Я вярнуўся! Выходзьце, бацькі!»

«На пагосце яны,— прашаптала трава,—
Голад быў — пакасіў паўсяла».
«Ну а дзеці? А жонка? Яна ці жыва?»
«Жонка з дзецьмі кудысьці сышла».
«Ну а ўнукі? А ўнукі?»
«Вяртаўся адзін...
Ды яго адштурхнула зямля...»
Памінальную чарку дапіў селянін
За свой род і за долю сялян.

## Вечныя пытанні

Дакляруюць пра зямлю і волю...
Дык чаму ж бяднее наша поле?

Кажуць, што сяло падыме фермер...
А каму кароў даіць на ферме?

Пішуць пра багатыя ўраджаі...
Дык чаму ж нам ежы не хапае?

Быльнягом падворкі зарастаюць...
Мо таму, што ўсё без нас рашаюць?

●

Абяцалі мне зямлю —
Паказалі дулю...
На каго ж я век раблю?
Падманулі!
Абяцалі волю даць —
Прастачка абулі!
Колькі ж мне яшчэ чакаць?
Падманулі!
Абяцалі камунізм —
Ледзь не распранулі,
Голы я, як плюралізм...
Зноўку падманулі!

●

Распрыгоньвалі нас, раскулачвалі,
Заганялі ў магілы жыўцом...
А цяпер час ліхі перайначылі,
Апраўдалі ўсіх заднім чыслом.

Нашы суддзі і каты на пенсіі.
Наша жыта няма каму жаць...
І гудуць дэпутаты на сесіі —
Як сялянам зямлю не аддаць.

●

Адскакала бязроднае панства
Па магілах дзядоў і бацькоў...
Падымаецца з долу сялянства,
З рук атросшы бразготкі акоў.

Не аблытаць яго фарысеям
Павуціннем «арэндных свабод»,
Толькі вольны ўзарэ і пасее,
Хлеб збярэ і накорміць народ.

●

На святыні свяшчэнныя нашы
Разявае паганец свой рот...
Перапоўнена горкая чаша
Слёз тваіх, мой пакутны народ.

Хопіць слухаць кляцьбу і папрокі,
Хопіць кпіны і здзекі трываць,
Размахніся як — і гора-прарокі
З рук тваіх, як брыдота, зляцяць.

●

Прыкмеціў я міжволі
У пастылай мітусні:
Чым менш мы маем волі,
Тым болей балбатні.

Хвілінныя прарокі
З усіх шасткоў крычаць:
«Настаўнікаў» урокі
Забылі мы, відаць!»

Што будзе — не гадаю,
Ды хтосьці сапраўды
Ужо ў душы жадае:
«Іосіфа б сюды!»

●

Хрыста распялі на крыжы,
Спазналі пекла мы, здаецца,
Ды сувязь слова і душы
Для нас загадкай застаецца.

Ці ж не таму шумім штодня.
Нам на зямлі ўжо мала месца.
Усюды вэрхал, мітусня,
І кроў нявінная ліецца.

У нашых душах немата,
Грахоў сваіх не адчуваем...
І зноў, як некалі Хрыста,
Павадыроў мы распінаем.

●

Сумненні, вечныя сумненні —
Бацькі бяссонніц і пакут,
На вас адточваю натхненне,
Нібыта нож на асялку.

Ці так сказаў? Ці тое слова
Я ўратаваў ад нематы?
А мо пачаць усё нанова?..
Я сумняваюся...
А ты?



Сяргей ЦІМОХАЎ.



«Пісанкі».



«Дрэва - стод».

# СОН, МРОЯ, РАЗМОВА...

Калісьці прароцтвы апошняга генсека КПСС пра тое, што ад суверэнных рэспублік дойдзе справа і да суверэнных мікрараёнаў, я лічыў не болей чым аратарскай гіпербалай. Але вось даведаўся, што прамысловы раён Полацка — Наваполацк мае ўласны, суверэнны гарвыканкам. Праўда, меў ён яго яшчэ тады, як пра «суверэнізацыю» рэспублік СССР можна было толькі марыць, ды і пра Гарбачова ніхто не чуў. «Каралі» беларускай нафтахіміі не пажадалі падпарадкоўвацца полацкім уладам і даваць частку прыбыткаў у гарадскі бюджэт — вось і стварылі ўласнае ўдзельнае княства— Наваполацкае пры прамысловым комплексе. Так яны і існуюць, Полацк і Наваполацк, як адзіны арганізм і нібыта кожны асобна. Старажытны горад Рагвалода і сёння пасля разбурэння і перабудоў захоўвае подых высакароднай даўніны і велічы, якая ўражвае нават у руінах. Але і Рым жыве не толькі са сваіх мастацкіх славутасцей, і Парыж не абыходзіцца без сваіх прамысловых прадмесцяў.

Калі-небудзь Полацк, калыска нашай дзяржаўнасці, верне сабе статус буйнейшага культурнага цэнтра славяна-балцкага памежжа. А пакуль тут, як паўсюль на Беларусі, не хапае сродкаў на рамонт музеяў і будаўніцтва тэатра. Але, дзякуй Богу, ёсць культурны асяродак. Ёсць людзі, якія хоць і вымушаны падпарадкоўвацца законам рынку, застаюцца пры гэтым мастакамі. У нумары за 13 сакавіка мы гаварылі аб тым, як полацкія мастакі рашаюць свае творчыя і эканамічныя праблемы. Так, аб'яднаўшыся ў малое прадпрыемства «Рыса», яны навучыліся абыходзіцца без пасрэднікаў у кантактах з гледачамі і пакупнікамі. Прычым у Полацку ёсць аматары мастацтва, пра якое яшчэ нядаўна гаварылі, што «народ яго не разумее». Ёсць людзі, якія плацяць за нерэалістычныя карціны немалыя па нашых разуменнях грошы. У музеі кнігадрукавання адкрыты мастацкі салон, а ў выставачным зале аддзела культуры гарвыканкома Наваполацка «Рыса» штомесячна ладзіць выставы.

Мне давялося пабачыць у гэтай зале творы двух «рысаўцаў»— Алеся Канавалава і Сяргея Цімохава.

Першае ўражанне: адсутнасць у мастакоў так званага правінцыйнага комплексу. Алесь і Сяргей робяць у Полацку тое, што яны рабілі б і ў Мінску, і ў Берліне, і ў Парыжы, калі б лёс завёў іх у гэтыя гарады. Ніякіх скідак на «непадрыхтаванасць гледача», маўляў, «тут нас не зразумеюць». Ведаюць: у кожным асяродку ёсць людзі, здольныя адгукнуцца на сапраўднае мастацтва.

У творах Цімохава і Канавалава ёсць подых часу, і гэта менавіта наш час і наша зямля — Беларусь, Полаччына. Для параўнання скажу, што, як шэраг твораў жывапісца Алеся Пушкіна з Віцебска адназначна атаясамліваецца ў маёй свядомасці менавіта з гэтым горадам, у творах «рысаўцаў» праз каларыт і пластычны лад паўстае Полацк. І не толькі сваім сённяшнім абліччам, але і вядомым па старажытных гравюрах і старых фотаздымках.

Экспазіцыя зроблена так, што мастакі ўзаемна дапаўняюць адзін аднаго, з дзвюх частак ствараецца цэльны вобраз. Як міфы мінуўшчыны — у люстэрку сённяшняга дня. Мастак можа зрабіць міф рэальнасцю і трансфармаваць рэальнасць у міф.

У шматпланавасці палотнаў Сяргея Цімохава выразна вылучаецца «паганская» плынь. Паганства, язычаства, для яго мае не столькі рэлігійны, колькі агульнагуманістычны сэнс. Мастак слушна лічыць, што пазнейшая культурная традыцыя амаль знішчыла ў нашай свядомасці повязь, якая існавала паміж чалавекам і Сусветам, повязь, адлюстраваная ў язычніцкіх вераваннях. Хрысціяне парупіліся, каб самі словы «паганства», «язычніцтва» набылі зневажальны сэнс. Тое ж датычыць і слова «ідал». Таму Сяргей скарыстоўвае ў назовах сваіх палотнаў менш зацяганае — «стод» («Кветка-стод», «Дрэва-стод»). Я і сам часам думаю, як можна спавядацца святару, такому ж чалавеку як ты сам (толькі што з тэалагічнай адукацыяй). Іншая справа — гаварыць пра патаемнае з камянямі, дрэвамі, паветрам. «Дажбог», «Човен», «Птушыны цар»... Гледзячы на гэтыя і іншыя творы Сяргея Цімохава, прыходзіш да высновы, што, абагаўляючы прыроду, чалавек ніякім чынам не прыніжае сябе, а якраз наадварот.

Для Алеся Канавалава назва палатна, як мне падалося, рэч амаль што выпадковая. Даніна традыцыі, згодна якой станковая карціна павінна мець назоў. Гэтаксама, як мае раму. У ягоных палотнах меней філасофіі, болей эмоцый. Відаць, толькі ў жывапісе ён і раскрываецца, выяўляе тое, што не хоча гаварыць словамі. Такі характар. Яму блізкае светаўспрыманне імпрэсіяністаў. Але гэта ўжо урбаністычны імпрэсіянізм. Алесь Канавалаў (можа, у большай ступені, чым ягоны сябар) імкнецца захаваць у сваіх карцінах пачатковы імпульс, эмацыянальны лад, які лёгка прачытваецца на стадыі эцюда, эскіза, але амаль цалкам знікае ў закончаным творы. «Прастора дня», «Развітанне», «Здзіўленне прахожага»— такія назвы ягоных твораў. Гэта ўмоўныя знакі эмацыянальнага стану, пазбаўленыя канкрэтыкі.

«Ці мае мастацтва мэту?» — запытаў я пасля агляду выставы ў Сяргея і Алеся. «У вялікім сэнсе—мае,—быў адказ.— Такую ж мэту, як сон, мроя, размова, ды і праца...»

Сапраўды, у гэтых спалучэннях фарбаў, адносна рэалістычных і цалкам абстрактных выявах ёсць нешта і ад сну, і ад мроі, і ад сяброўскай размовы. Але ж і праца — вялікая!

**В. БОГУШ.**



Алесь КАНАВАЛАЎ.



«Горад».



«Аблава».

# ЗА КОЖНЫМ ДУШЭЎНЫМ ЗРУХАМ

Да знакамітага майстра купалаўскай сцэны Здзіслава Францавіча Стомы ў мяне сваё — асаблівае стаўленне. Яно склалася пад уражаннем шматлікіх назіранняў за славутым артыстам на спектаклях, рэпетыцыях, падчас яго выступленняў на мастацкіх саветах, з сумесных паездак на гастролі і творчыя сустрэчы. У жыцці сабраны, калючы, праўдзівы, можа быць рэзкім і недыпламатычным у сваіх ацэнках... Таму з вялікай цікавасцю ўзяўся за

---

КВЕТКІ ёсць кветкі. Лясныя, мурожныя, аранжарэйныя, нават у гербарыі яны захоўваюць сваю непаўторнасць і таямніцу. Бяруся сцвярджаць, што сёлетняя «Мінская вясна» ўразіла публіку гэткім хвалююча дзіўным кветнікам, у якім бутоны новых красак суседнічалі з неўвядальнымі імартэлямі, някідкія экземпляры з «Чырвонай кнігі» сціпла хаваліся за трывушчымі сцяблінамі той пароды раслін, што прабіваюцца і з-пад асфальту...

Пахадзіўшы па тым кветніку, кожны мог бы скласці букет або на свой сталы густ, або пад свой мімалётны настрой, або згодна са сваімі невытлумачальнымі сімпатыямі. І без прэтэнзій на аб'ектыўнасць выбару, вядома. Бо колькі кветак — столькі ж можа быць пра іх і розных меркаванняў. Што ні пялёстка — то і ўражанне.

А цікава: сімфанічны канцэрт, якім адкрываўся фестываль, сабраў на рэдкасць многа, па цяперашнім часе, публікі, й пераважна маладой. Вось што значыць прыцягальнасць непадуладнага гадам артыстызму маэстра В. Дуброўскага! Ці мо гэта прыйшлі ў філармонію прыхільнікі маладога піяніста А. Сікорскага, які граў з нашым аркестрам пад кіраўніцтвам галоўнага дырыжора Рэ мінорны канцэрт С. Рахманінава? Але ж былі ў зале і слухачы, якіх цікавіў выключна рэпертуар: прынамсі, прэм'ера сімфанічнай паэмы У. Будніка «Сказ пра Палессе». Або трактоўка 6-й сімфоніі П. Чайкоўскага.

Шчодрыя апладысменты выдавалі на аднадушнасць публікі. Праўда, з тымі, хто крычаў «брава!» даравітаму беларускаму піяністу, маўкліва не пагаджаліся самыя прыдзірлівыя. Маўляў, рахманінаўскі фартэпіянны канцэрт стаўся выпрабаваннем і для саліста, і для аркестра, аддача сіл, самых шчырых і яркіх эмоцый відавочная, мы пабачылі рашучы, упэўнены «іспыт крылаў», але яго пакуль цяжка назваць нязмушаным і роўным рамантычным палётам.

Зычлівая прыдзірлівасць — гэта амаль камплімент, праўда? Зрэшты, прыдзірлівасць было лёгка страціць падчас фестывалю, бо вядома ж, не конкурс музыкантаў, а іхняе свята прапаноўвалі арганізатары «Мінскай вясны», расквеціўшы афішы імёнамі маладой германскай піяністкі Ю. Мош, яе цяперашняга суайчынніка скрыпача Д. Нодэля (колішні вучань Музычнага ліцэя пры БДК, сын вядомага мінскага музыканта), які выказаў жаданне паўдзельнічаць у фестывалі на сваёй радзіме, «чарадзея фартэпіяна» А. Штаркмана, салістаў беларускай оперы...

Ну, а самыя юныя таленты ўвогуле заставаліся па-за крытыкай, ператвараючы прыдзіраў у звычайных сентыментальных слухачоў. Ці не так было падчас новай сустрэчы мінскай публікі з ужо су-

## НАШ КАЛЯНДАР

●

70 год Георгію ГЛУШЧАНКУ, музыказнаўцу, прафесару Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, доктару мастацтвазнаўства.

●

110 гадоў з дня нараджэння пісьменніка, рэжысёра, акцёра, тэатральнага дзеяча Уладзіслава ГАЛУБКА спаўняецца 15 мая (памёр 7 сакавіка 1942 года). Першы народны артыст Беларусі. Напісаў каля сарака драм і камедый, стваральнік ў 1920 годзе трупы, якая пазней стала Беларускім трэцім дзяржаўным тэатрам.

●

85 гадоў з дня нараджэння выдатнага беларускага музыканта-выканаўцы, дырыжора, педагога Іосіфа ЖЫНОВІЧА, імя якога носіць Акадэмічны народны аркестр Беларусі, выпеставаны гэтым таленавітым дзеячам нашага мастацтва.

●

85 гадоў з дня нараджэння пісьменніка Уладзіміра МЯЖЭВІЧА спаўняецца 23 мая (памёр 1 чэрвеня 1982 года). Аўтар некалькіх кніг прозы і нарысаў, зборнікаў для дзяцей.

## Віншуем!



## Святлане МАРЧАНЦЫ—50

**Так, сёння Святлане Марчанцы спаўняецца 50 гадоў. Калі падумаць, не так і шмат, усяго 50... Віншуем Святлану Міхайлаўну — нашага даўняга аўтара — з днём нараджэння і жадаем і надалей ёй заставацца не толькі «палымянкай», дзе яна працуе, а і «лімаўкай», дзе працавала і друкуецца.**

# Сэрца крытыкі—сумленнасць

Лёгка юбілейнае слова пісаць пра паэта: знайшоў больш-менш удалы верш, «адштурхнуўся» ад яго і... Крыху цяжэй — з празаікамі, асабліва, калі яны па складзе свайго мастакоўскага характару далёкія ад лірыкі. А пра крытыка — ужо і зусім цяжка. Тут, як кажуць, лірыкі той самай не падсыплеш, тут факты падавай.

Дык вось. Гадоў пятнаццаць назад С. Марчанка на старонках «ЛіМа» выступіла з вострым артыкулам, у якім асмелілася пакрытыкаваць аўтараў, каго іншыя крытыкі вельмі ж захвальвалі. Магчыма, і сышло б ёй гэта з рук, калі б сярод пакрытыкаваных не былі, так сказаць, духоўныя спонсары з боку некаторых знакамітасцяў. Умяшаўся адпаведны аддзел тагачаснага Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі, знакамітыя аўтары — некалькі чалавек — напісалі артыкулводпаведзь, змясцілі яго ў «Звяздзе». Натуральна, што праз некалькі дзён, як і трэба было чакаць, «ЛіМ» у прымусовым парадку зрабіў перадрук.

Як бачыце, можна было б пачаць з гэтага моманту, бо ён сведчыць, што С. Марчанка — крытык прынцыповы і смелы. На той час трапіць у няміласць самога ЦК — ого! Але, паверце, я ўсё ж не вельмі хачу акцэнтаваць увагу на гэтым эпізодзе: сярод тых паэтаў, хто даваў С. Марчанцы адлуп, былі вельмі аўтарытэтныя людзі, з асобнымі з імі ў мяне прыязныя адносіны. Зразумейце, адным словам, спадары...

Зрэшты, а чаму б не прыгадаць, як яшчэ раней, таксама ў «ЛіМе», С. Марчанка змясціла некалькі эпіграм на пісьменнікаў, таксама вядомых (даліся ёй гэтыя знакамітасці!)? Тады «ЛіМ» надрукаваў і шаржы-малюнкі С. Марчанкі. Але, але: крытык, а да ўсяго яшчэ — і мастак! Ды толькі аднаму з тых «прашаржыраваных» малюнак не спадабаўся: «дадумалася» яго выяву з калючага дроту вымаляваць. На што намякае? Як быццам і ні на што, а калі падумаць —фантазія далёка завесці можа...

Ну, а з таго факта, што С. Марчанка два гады, пасля заканчэння ў 1964 годзе Магілёўскага педагагічнага інстытута, працавала ў Касцюковіцкім райкоме камсамола? З гэтага факта не толькі што пачынаць нельга, а нават і згадваць яго сёння недарэчы. Вось калі б яна падчас гэтай працы вымову якую атрымала, тады справа іншая...

Сядзеў я над чыстым аркушам паперы, разв650жаў... І раптам успомніў, што С. Марчанка, як і вельмі-вельмі многія пісьменнікі, пачынала з вершаў. Дык гэта ж якраз тое, што трэба! Вясной нарадзілася С. Марчанка, і паэтам нарадзілася. Свядома не называю дату нараджэння. Не таму, што хачу на колькі дзён падмаладзіць Святлану. Проста ў свой час дакладна не запомнілі, калі з'явілася яна на гэты свет. Пасля ўжо ў метрыцы адвольна паставілі — 15 мая. Але вясна ёсць вясна. Магчыма, штосьці ўсё ж у генах загадзя закладваецца, бо праз гады чалавек праносіць асаблівую любоў да гэтай пары, застаецца назаўсёды ў душы паэтам.

І не толькі тады, калі друкуецца (з першымі вершамі С. Марчанка выступіла ў 1962 годзе), а і калі піша для сябе. Паэзія працягвае жыць у яе душы, як духоўная патрэба, як той асаблівы стан, які цалкам зразумець могуць толькі людзі гэткія ж уражлівыя, захопленыя, па-сапраўднаму паэтычныя. І тое, што С. Марчанка, як крытык, даследчык, найчасцей звяртаецца менавіта да паэтычных твораў, пацвярджае правільнасць гэтай думкі. Нават разглядаючы кнігі для дзяцей, яна таксама аддае прыярытэт паэзіі.

Найбольш поўна талент С. Марчанкі раскрыўся ў кнізе «Васіль Вітка. Нарыс жыцця і творчасці», якая выйшла ў 1985 годзе. Ужо тое, што блаславіла яе ў свет сама В. Палтаран, пра многае гаворыць. Вера Сямёнаўна ўмела своечасова заўважыць талент і падтрымаць. І ў асобе С. Марчанкі яна ўбачыла аўтара, здатнага зразумець усю шматграннасць мастакоўскай асобы Васіля Віткі, не проста прачытаць — уважліва, улюбёна, патрабавальна — яго шматлікія творы, кнігі, а і глянуць на здзейсненае ім у кантэксце ўсёй беларускай літаратуры. Кніга «Васіль Вітка» атрымалася, яна прагучала. (А тое, што пасля выхаду яе ў С. Марчанкі і В. Віткі пачалося высвятленне асобных «творчых» момантаў, дык літаратура без палемікі не літаратура, а крытыка — тым больш.) Канечне, калі гэта — не крытыка «кішэнная».

С. Марчанка выступала якраз супраць такой крытыкі — «пасаднай», «сакратарскай», калі на першы план ставіцца не тое, што зроблена пісьменнікам для літаратуры, а здзейсненае ім ацэньваецца згодна таму, якую пасаду ён займае. Прынцыповых людзей ніколі не любілі і не любяць. Такім людзям цяжка працаваць у літаратуры, ды і, бадай, не лягчэй у самім жыцці. Але якраз падобныя крытыкі і працуюць у імя літаратуры, любяць яе, дбаюць пра яе і з'яўляюцца даследчыкамі па прызванні. Перафразіраваўшы назву аднаго з артыкулаў С. Марчанкі («Сэрца паэзіі — лірыка»), можна з поўным на тое правам сказаць: сэрца крытыкі — сумленнасць.

Не так і шмат напісана С. Марчанкай, ды напісана затое ўсё сумленна, годна, з ашчадным стаўленнем да слова, са святым схіленнем перад ім.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

## Віншуем!

## Анатолю ІВЕРСУ—80



Сёння аднаму са старэйшых беларускіх пісьменнікаў Анатолю Іверсу спаўняецца 80 гадоў. Моцнага здароўя вам, Іван Дарафеевіч, далейшых творчых поспехаў!

# ПАЭТ І ЯГО ВЕРШЫ

## Трыпціх

Анатолю ІВЕРСУ прысвячаецца.

I

Спакойна тут зашыфраваны
У нашым лесе ўсе паляны.

Заштыхаваны вельмі строга
У наш працяг усе дарогі.

Закаванае пачуццё
Сцвярджае нашае быццё.

Тут верш трымаецца на грані
Невыяўлення адчуванняў.

Трапляў не раз у дэфензіву,
А жыць застаўся. Жыў ён.
Жывы!

Трапляў у лапы да гестапа,
Але і з тых выходзіў лапаў.

II

Зайздрошчу. Чуеце,
зайздрошчу.
Не кожнаму адолець плошчу
З узнятай горда галавою
І стрэцца з славаю сваёю.
На плошчы ўсякае бывала.
Найменш дык песняй
сустракала.
Найменш праходзілі парады.
Найбольш ірваліся снарады.
Найбольш пражэктары свяцілі,
І кулямёты прагна білі.
Хто там па хвалях пугай
хвошча!
Зайздрошчу Вам, паэт,
зайздрошчу.
Вы перасеклі Вашу плошчу —
Насуперак усім абстрэлам
Рабілі тое, што хацелі.
Паэтам трэба нарадзіцца,
Але важней, бадай, адбыцца.

III

Мне псеўданім Ваш так
чытаецца:
Што трэба верыць у сябе,
Што той свабоды дамагаецца,
Хто смак спазнае ў барацьбе.

Шматзначныя высновы
зроблены
Яшчэ на золаку жыцця.
Вы тых высноваў неаздобленых
Былі і ёсць жывы працяг.

**Іван ЧЫГРЫН.**

**Алег ЛОЙКА**



## Ёсць толькі новы час...

Ёсць толькі новы час
З кожнай першай пралескай,
З першым праменем над
Росным пералескам.

Ёсць толькі новы час
З кожным першым каханнем,
З першаю зоркай над
Першым горкім расстаннем.

Ёсць толькі новы час
З кожным коласам першым,
Як і з вянком славы над
Кожным жывым і памершым.

Ёсць толькі новы час:
Былы — яго аснова,—
Часу старога няма,
Спрадвеку ён — толькі новы,

Як згодзен таксама я з тым,
З чым кожны, напэўна, згодны:
Ёсць толькі новы час,
Які заўжды пераходны.

## Чаму я не прарок?..

Крыўда непазбыўная,
Быццам нож у бок,
Мучыць, агрэсіўная:
«Чаму я — не прарок!!»

Ні ладам, ні складам я
Ўздоўж і папярок:
Хоць пры іх з Галанды!..
Чаму ж я — не прарок!!

Або ў тую ж Афрыку,
Быццам драч, сучы
Самым дробным гаўрыкам,
Толькі б уцячы!..

Божа ж ты мой, Божачка,
Твой цяжэзны ўрок,—
Зладзь, каб хоць нямножачка
Быў бы я прарок!

З пустога ў парожняе
Прамоваў не дуў, —
Накарміў бы кожнага,
Кожнага абуў;

Даходы з расходамі
Звёў бы, нібы бос,
З вольнымі народамі
Вольны ладзіў лёс;

Гандаль суматошлівы
Запыніў, скруціў,—
Мішавыя пошліны
Ніхто б не плаціў!

Божа ж ты наш, Божачка,
Ў беларускай старане,
Хоць бы хоць нямножачка,
Перарадзі мяне!

Крыўда ж непазбыўная,
Быццам нож у бок,
Мучыць, агрэсіўная:
«Чаму ж я — не прарок!!».

Божа ж, Божа, Божачка
Ў беларускай старане,
Ну хоць бы на нямножачка
Апрароч мяне!

## Путч

Што за рух, што за шмон —
Рукі нерухомелі:
Мёў падлогі АМОН
І ў Брэсце і ў Гомелі;

А ў Смаргоні гуло:
Па ВПШ падручніках
Змоўе ткала-куло
Не рушнікі,— наручнікі;

Трактарнага філіял!..
Так мы і паверылі!..
Апантаньваў іх шал
Лаўрэнція Берыі!..

Дол цаментавы драў
Венік пашчарбачаны,
Як упыр, прагны спраў
З трыццатых нябачаных.

«Развялося вас тут:
Нар не хопіць Коласа,
Салаўкоў і Варкут,
Магаданаў, Котласаў!..»

Каб без лішніх высноў
Вывозіць мары марныя,
Кратавала ізноў
Вагоны Таварная.

«Па́даль!.. Ў бога душу маць!..
Бу́шавы падручнікі!..»
. . . . . . . . . . . . . . .
Мне каму руку падаць
За рукі без наручнікаў!..

Дзякуй, венік, што прыбраць
Не змог духу бунтарскага!..
Пара ў музей пераўтвараць
Турму на Валадарскага.

## У святара

— Скажы мне, добры свята́ру,
Ці ёсць у мяне аура:
Я ж гэтулькі сніў і марыў,
Сумленным, здаецца, быў,
мудрым!

...Стаю перад ім, бы ў купелі,
Адкрыты душой і целам,
Мурашкі пабеглі па целе,
Душа свечкаю затрымцела.

А ён — не смяецца, не плача,
Як чорныя бухты, вочы:
Бачаць што, не бачаць,
Ці ўвогуле бачыць не хочуць!..

— Што!.. Дождж мо змыў
ауру,
Развеялі зімы-віхуры,
Што бушавалі панура,
Здымаўшы сем столак скуры!..

Ці, можа, дзіравая вельмі:
Душа вось-вось, быццам
з дому,
Выпырхне здрадніцай-шэльмай
Целу майму несвятому!..

...Маўчыць святар, хоць палае
Ў бухтах вачэй рагавіца, —
Ад іскры яе, адчуваю,
І я магу запрамяніцца.

Ды я адыходжу ціха,
Свячуся, не свячуся,
Ліху быць, не ліху,
Скрусе быць, не скрусе;

Іду, не вясёлы, не хмуры —
Па-за праступкам і карай...
Не мне, дык камусь хоць ауру
Вы́малі, святару!..

●

Які б я быў шчаслівы,
Каб дзесьці там, за рысай,
І тыя ж бачыць нівы,
І тых жа гор абрысы;
А найперш тых, каго тут
Любіў я шчыра, горача
За шчырасць, за пякноту —
Заўчора і надоечы;
За трапяткія рукі,
Іх поціскі гарачыя,
За сэрцаў перагукі,
За вусны, ім дарадчыя;
За разуменне братняе,
Спагаднасць, што, як матчына,
Адданасць да астатняга —
Без жалю, што патрачана!..
Каб ведаў жа, што гэткае
За рысай, не маршчыніўся б,
І верай самай рэдкаю
Праславіўся б у Гінеса.
Не з'іншыць гэтай меры
Ніхто ж, ніякай прызмаю: —
Жывым любові веру
І верыцьму — за рысаю!

ТЭАТР

## Нечаканы Мазынскі

Гэтым разам на сцэне Тэатра-лабараторыі нацыянальнай драматургіі дэбютаваў не толькі малады аўтар з Кобрына Ігар Сідарук, але і сам мастацкі кіраўнік «Вольнай сцэны» Валерый Мазынскі. Улічваючы досыць працяглы перапынак у творчасці рэжысёра («па вядомых прычынах»), наша тэатральная грамадскасць, думаецца, найперш будзе пільна ўглядацца не столькі ў п'есу драматурга-пачаткоўца, колькі ў тое, што зрабіў на яе падставе пастаноўшчык.

Сцісла занатоўваючы ўражанні ад прэм'еры фарса-абсурду «Галава», паведамім, што Мазынскі знаходзіцца ў неблагой творчай форме, можа дазволіць сабе раскошу не баяцца рызыкаваць, не чапляецца за ранейшыя здабыткі, а ў чымсьці выяўляе новыя, нечаканыя грані свайго таленту. Зрэшты, ідзіце і глядзіце.

У спектаклі, сэнс якога хутчэй за ўсё ў тым, што «ногі» ніяк не могуць уцячы ад сваёй «галавы» (папяровай, гумовай, жалезнай і г. д.), заняты Андрэй Кавальчук, Таццяна Мархель, Галіна Чарнабаева, Алена Забара, Мікалай Рабычын, Ігар Нікалаеў, Уладзімір Корпусь. Сцэнаграфія Віктара Цімафеева.

...А што ж абсурд? Адказваючы на пытанне, каго з абсурдыстаў-класікаў ён уважае за сваіх настаўнікаў, І. Сідарук назваў не Бекета з Мрожэкам, а наша сённяшняе жыццё. У такім разе малады аўтар проста асуджаны на пісанне новых і новых п'ес.

А. Г.

МУЗЫКА

## Памяці Ірыны Цвятаевай

Вечар памяці выдатнага педагога, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі прафесара Ірыны Аляксандраўны Цвятаевай адбыўся ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Цёплыя словы пра І. Цвятаеву, якой было б 75 год, сказалі вядомыя дзеячы беларускай музычнай культуры А. Багатыроў, М. Солапаў, вядучы вечарыны В. Яканюк. У вялікім канцэрце ўдзельнічалі заслужаны артыст Беларусі І. Алоўнікаў, піяністы С. Мікулік, А. Крымер, Ц. Сергяеня, А. Соніна, выкладчыкі, студэнты, юныя музыканты.

П. ГАРДЗІЕНКА.

ВЕЧАРЫ, СУСТРЭЧЫ

## Англія, Канада, Беларусь

Тры гэтыя краіны прадставілі свае рок-групы для ўдзелу ў дабрачынным канцэрце, які адбыўся ў Палацы культуры Белсаўпрофа 3 мая. Перапоўненая зала цёпла прымала выступленні гуртоў «Nitzer Ebb» і «Месса» з Англіі, «David Howard» з Канады і «Ulis» з нашай рэспублікі. Грашовы збор ад канцэрта будзе пералічаны ў фонд Беларускага гуманітарнага ліцэя. Спонсар паказанай праграмы — фірма «Дайнова».

П. ПЯТРЫШЧАНКА.

ЛІТКУР'ЕР

## І фізік, і лірык

Менавіта так можна сказаць пра Любоў Турбіну. Здавалася б, прафесія яе далёкая ад паэзіі — яна кандыдат біялагічных навук. Па прызванню ж Л. Турбіна — паэт. У гэтым пераканаліся ўсе, хто пабываў на творчай сустрэчы з ёй у камінной зале Дома літаратара. Пра творчасць Л. Турбіной гаварылі У. Някляеў, Г. Дубянецкая, Л. Дранько-Майсюк, А. Глобус, доктар філасофскіх навук В. Салееў, кампазітар З. Яўтуховіч, кандыдат фізіка-матэматычных навук У. Каранной і іншыя.

У выкананні ансамбля «Чабарок» ДМШ № 8 г. Мінска прагучалі песні З. Яўтуховіча на вершы Л. Турбіной. Яе творы чыталі Р. Маленчанка, Г. Кухальская, Р. Астрадзінава і іншыя. Выступіла і сама Л. Турбіна.

П. ГАРДЗІЕНКА.

## Вечар трох паэтаў



У мінскім Доме літаратара прайшоў творчы вечар маладых беларускіх паэтаў Ігара Сідарука (Кобрын), Юрыя Гуменюка (Гародня) ды Юрыя Пацюпы (Мінск). Імёны ўсіх трох паэтаў досыць знаёмыя аматарам літаратуры: у мінулым годзе выйшлі з друку зборнікі Ю. Пацюпы «Ноч» і І. Сідарука «Чарнабел».

У імпрэзе, якую вёў крытык Сяргей Кавалёў, узялі ўдзел паэты Славамір Адамовіч і Леанід Дранько-Майсюк. Запіс вечара вяла рэспубліканская тэлевізія.

У. ПАНАДА.

## Згадкі пра Коласа

Сёлета — 110-ыя ўгодкі з дня нараджэння народных песняроў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Гадавіне Коласа была прысвечана вечарына ў Мінскай гарадской бібліятэцы імя Цёткі. Сабраліся настаўнікі, навучэнцы педвучылішча, кнігалюбы Першамайскага раёна. Яны з цікавасцю слухалі сына песняра Д. Міцкевіча, загадчыка аддзела Літаратурнага музея Якуба Коласа І. Курбеку... Гучалі вершы Я. Коласа, народныя песні.

М. ПЯЧОНКА.

## У доме песняра

Чарговы літаратурны чацвер прайшоў у Літаратурным музеі Якуба Коласа. Ён быў прысвечаны памяці сына народнага песняра Юркі Міцкевіча, які загінуў на фронце ў першы ж дзень вайны. 1 мая яму споўнілася б семдзесят пяць...

На вечарыне выступілі людзі, якія добра ведалі Ю. Міцкевіча — старэйшы яго брат, заслужаны работнік культуры Беларусі Д. Міцкевіч, І. Смірнова, якая восем гадоў разам з бацькамі і старэйшым братам жыла ў Коласавай сям'і, аднакурснік па універсітэце, цяпер дацэнт В. Путан, К. Самахвал — яна ў дваццатыя гады кватаравала разам з сям'ёй Я. Коласа. Слова пра песняра і яго сям'ю сказала выкладчыца БДУ В. Казлова.

Творы ваеннай пары прачытала народная артыстка Беларусі М. Захарэвіч. Шэраг песень выканаў бард В. Пазнякевіч.

Вёў сустрэчу загадчык аддзела музея І. Курбека.

К. СЦЕПАНЮК.

## Пачатак «Магістралі»

Упершыню створана літаратурнае аб'яднанне пры Гомельскім абласным аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі. Па прапанове драматурга Васіля Ткачова яно атрымала назву «Магістраль». Менавіта «Магістраллю» называлася першая кніга паэта-земляка, які заўчасна пайшоў з жыцця. Тым самым увекавечана памяць А. Грачанікава.

Рыхтуецца да выпуску альманах «Магістраль», у якім будзе прадстаўлена творчасць паэтаў і празаікаў Гомельшчыны, плануецца стварэнне абласной літаратурнай газеты.

Старшынёй літаб'яднання выбраны паэт Віктар Кіеня.

І. ВІКТАРАЎ.

## Партрэт у люстры часу

«Праўда зерня» — так назваў сваю чарговую кнігу, выпушчаную выдавецтвам «Мастацкая літаратура», Уладзімір Гніламёдаў. Вядомы крытык і літаратуразнаўца гэтым разам даследуе творчасць Васіля Зуёнка, разглядаючы яе ў кантэксце ўсёй беларускай паэзіі, паказвае плённасць намаганняў аўтара ў асэнсаванні складанай рэчаіснасці. Асабліва запыняе ўвагу У. Гніламёдаў на эпічнасці таленту В. Зуёнка, адзначае важкія яго набыткі ў галіне паэмы.

## Купала і Маладая Беларусь

Навукова-творчая канферэнцыя «Па сонца, па долю» ў Брэсцкім педагагічным інстытуце прысвячалася 110-годдзю з дня нараджэння і 50-годдзю з дня смерці Янкі Купалы. Яна праходзіла ў межах Свята Незалежнасці, што праводзілася на філалагічным факультэце.

Уступнае слова сказаў У. Калеснік. На пленарным пасяджэнні выступілі А. Лойка, І. Шпакоўскі, А. Майсейчык. Пасля праца была прадоўжана ў секцыях беларускай і рускай літаратур, беларускай і рускай моў. Пра тэматычную разнапланавасць выступленняў можна меркаваць хоць бы па такім пераліку: «Янка Купала ва ўспрыманні Паўліны Мядзёлкі» (У. Калеснік), «Літаратура сярэднявечча і рамантычная канцэпцыя Маладой Беларусі ў паэзіі Купалы» (Г. Праневіч), «Публіцыстыка Янкі Купалы 20-х гадоў» (З. Мельнікава), «Патрыятычнае выхаванне падлеткаў пры вывучэнні лірыкі Купалы ў 10-ым класе» (В. Зарэцкая), «Афарыстычнае слова Янкі Купалы» (Г. Малажай) і іншыя.

На вячэрнім пасяджэнні пры падвядзенні вынікаў адбылася імпрэза «Свята Маладой Беларусі».

В. МАРОЗ.

ДРУК

## Чарговы нумар «Полацака»

З-за транспартных няўвязак сталася так, што з далёкага Кліўленда ўслед за першым сёлетнім нумарам адразу патрапіў трэці. Ды, як той казаў, не бяды. Галоўнае — пачытаць у нумары ёсць што. М. Белямук працягвае апавяд «Эмблема на шчыце герба «Пагоня». С. Белая пабывала ў гасцях у В. Тумаша і прапануе першую частку ягоных успамінаў «Беларуская віленская гімназія». «Да пытання этнічнай прыналежнасці старажытных ліцвіноў» — тэма выступлення П. Урбана. Пра тое, «Як апраналіся нашыя продкі», расказвае Л. Дучыц. Артыкулы гэтыя, дарэчы, багата ілюстраваны.

А калі ўжо зайшла гаворка аб афармленні, дык трэба сказаць, што на развароце змешчаны партрэт Кірылы Тураўскага, выкананы М. Басалыгам; на першай старонцы вокладкі — ікона Святой Багародзіцы з амафорам над Жыровіцкім манастыром, на апошняй — выява Маламажэйкаўскай царквы.

Пра слыннага нашага асветніка гаворыць у нарысе «Святы Кірыла Тураўскі» М. Дубок. Л. Шыман працягвае дзяліцца ўспамінамі «Мая няволя». «Палітычны партрэт Зміцера Жылуновіча» напісалі М. Сташкевіч і Ю. Смірноў. Пад рубрыкай «З архіваў КДБ» — сведчанне А. Цвікевіча «Ліквідацыя БНР не была манеўрам» (пачатак у другім нумары). Публікуюцца вершы В. Куртаніч, ёсць багатая інфармацыя.

## «Роднае слова», № 4

Літаратурны партрэт У. Жылкі «Паэзія характва і змагання» напісала І. Багдановіч. Друкуецца працяг агляду маладой беларускай прозы 80—пачатку 90 гг. «Да глыбіняў жыцця», зроблены А. Бельскім, заканчэнне артыкула Тамары Мушынскай «...А там гарэла ціхае сялянскае святло...» (асобныя старонкі творчасці М. Гарэцкага). У. Содаль запрашае прадоўжыць падарожжа «Пуцявінамі Купалы». Ёсць падборкі «Літаратурны ветразь», «І песню родную люблю я...».

## Раз «Пралеска», два «Пралеска»...

Вось ужо ёсць і другі нумар часопіса «Пралеска» за сёлетні год. Праблемы абароны маленства гучаць ва ўступным артыкуле галоўнага рэдактара А. Сачанкі «Люты. Рынак. Дзецям холадна...» У нумары расказваецца, як рэалізуецца канцэпцыя дашкольнага выхавання ў Рэспубліцы Беларусь, друкуецца чарговая падборка «Маладзічок - гадавічок», працягваецца «Азбукоўнік і лічылка».

«Шэры замак» Л. Забалоцкай і А. Карповіча — падарожжа ў даўніну. У «Гасцёўні «Пралескі» — паэт В. Лукша. Змешчана беларуская народная казка «Лёгкі хлеб», новая песня для дзетак, шэраг пазнаваўчых матэрыялаў.

Адным словам, нумар — цікавы. А засмучае тое, што часопіс па прычынах, якія не ад рэдакцыі залежаць, позніцца. Акрамя друкароў, у спазненні вінаваты і работнікі пошты. Робіцца проста нешта незразумелае. Другі нумар «Пралескі» падпісчыкі атрымалі толькі праз дзён дзесяць пасля таго, як ён з'явіўся ў кіёсках. Тое самае было і з першым нумарам. Ці не ў тым прычына, што кошт аднаго нумара па падпісцы —60 капеек, а ў розніцу — тры рублі?

А. М.

НОВЫЯ ВЫДАННІ

## А ў Лідзе — «Народная трыбуна»

Незалежная грамадска-палітычная газета «Народная трыбуна» з'явілася ў горадзе Лідзе. Аб накірунку новага выдання гаворыць своеасаблівы эпіграф — неўміручыя радкі Максіма Багдановіча са славутай «Пагоні»: «Біце ў сэрцы іх, біце мячамі, не давайце чужынцамі быць». А яшчэ лепей — матэрыялы першых трох нумароў, што ўжо прыйшлі да чытачоў. Сярод іх — справаздача Часовай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па ацэнцы дзеянняў у падтрымку ГКЧП на тэрыторыі нашай рэспублікі (без купюр, зробленых чамусьці ў рэспубліканскай прэсе), артыкул В. Супруна з газеты «Наша слова» «Патрыёты маўчаць не схацелі!», у якім, як вядома, гаворыцца пра тых, хто пасля вайны выступаў супраць таталітарызму.

«Народная трыбуна» распачынае гаворку на тэму «Шляхамі адраджэння: ці навучымся паважаць сябе?», змяшчае вершы, фальклорныя запісы і... анекдоты.

КОНКУРСЫ

## Талент — гэта лаканічнасць

Савецкі фонд міру, Цэнтр «Філантропія» і Гуманістычны фонд «Веды» імя С. І. Вавілава праводзяць у 1992 годзе ў рамках дабрачыннай праграмы «Маладыя таленты» літаратурны конкурс кароткага апавядання, якое раскрывае тэму «Чалавек у зменлівым свеце».

Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца маладыя пісьменнікі, узрост якіх на момант падачы заяўкі не болей за 30 гадоў. Апавяданні прымаюцца да 1 жніўня, аб'ёмам да 0,5 аўтарскага аркуша (не болей 12 старонак), надрукаваных на машынцы праз два інтэрвалы, не апублікаваныя дагэтуль у кнігах. Творы прымаюцца ў заклееным канверце. У яго ўкладваецца папера з указаннем прозвішча, імя і імя па бацьку, года нараджэння, кароткай інфармацыі аб месцы работы ці вучобы і адрас аўтара.

Падвядзенне вынікаў конкурсу адбудзецца 1 лістапада 1992 года. Пераможцам устаноўлены прэміі і дыпломы. Першая прэмія — 15 тысяч рублёў. Лепшыя апавяданні будуць апублікаваны. Дасланыя на конкурс рукапісы не вяртаюцца.

Творы накіроўваць па адрасе: 119889, г. Масква, Крапоткінская вул., д. 10. Цэнтр «Філантропія» пры Савецкім фондзе міру. На канверце дадаць: «На конкурс «Маладыя таленты». Даведкі па тэлефонах: 245-39-72, 202-42-36.

АНОНС

## «Машэка» ладзіць фэст

23—25 мая 1992 г. аддзел культуры Магілёўскага гарвыканкома, культурна-асветніцкая суполка беларусаў «Машэка» ладзяць фестываль беларускай музыкі. Запрашаем гурты фальклорнай накіраванасці, бардаў да ўдзелу ў фестывалі. Выдаткі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь за кошт прымаючага боку. Пра ўдзел у фестывалі з пазначэннем назвы гурта альбо прозвішча барда просім паведаміць па адрасе: 212001, г. Магілёў, вул. Першамайская, д. 8; тэлефоны 25-02-83, 25-02-20.

АДДЗЕЛ КУЛЬТУРЫ МАГІЛЁЎСКАГА ГАРВЫКАНКОМА.

## Запрашае Санкт-Пецярбург

Майстры і мастацкія фірмы Беларусі!

Санкт - Пецярбург запрашае вас прыняць удзел у міжнароднай выстаўцы «Мастацкія вырабы, народныя промыслы», прысвечанай 90-годдзю Першай Усерасійскай саматужнай выставы 1902 года.

Юбілейная міжнародная выстава — гэта магчымасць паказаць свой тавар і ўбачыць яго канкурэнтаздольнасць на ўнутраным і знешнім рынку!

Юбілейная міжнародная выстава — гэта заключэнне дагавора на аптовую і рознічную пастаўку тавара з гандлёвымі фірмамі, галерэямі і салонамі!

Заяўкі прымаюцца толькі да 31 мая па тэлефонах Аргкамітэта ў Санкт - Пецярбурзе (812) 355-58-11, (812) 355-19-42, (812) 311-07-71, факс (812) 312-40-46.

## Тры «Марыцы»

16 мая тэатр музычнай камедыі чакае мінчан на прэм'еры. Класічная аперэта «Марыца» І. Кальмана пастаўлена дырыжорам А. Лапуновым, рэжысёрам А. Барсегянам, і ажно тры салісткі — В. Мазур, І. Лінкевіч ды Л. Станевіч рыхтуюцца выступіць у ролі галоўнай гераіні. Хто з артыстак будзе іграць самы першы спектакль, якіх выканаўцаў пабачым мы на сцэне яшчэ, хто прыдумаў мастацкае афармленне і касцюмы для персанажаў,— пра ўсё гэта можна даведацца, прыйшоўшы заўтра на прэм'еру!

Н. К.

АДРАДЖЭННЕ

# БЕЛАРУСЫ: АДЗІН НАРОД І ТРЫ НАЦЫІ?

**У Беларусі ідзе працэс нацыянальнага і дзяржаўнага адраджэння. Гаворка пра тое, хто мы такія, як гістарычна фарміраваўся наш народ і нашы палітычныя структуры, досыць актуальная і своечасовая. Асабліва важна сёння высокая духоўная культура нашых суграмадзян, не лжывы, а сапраўдны беларускі патрыятызм, канструктыўная нацыянальная самасвядомасць. Складанасці культурнага, палітычнага і эканамічнага развіцця рэспублікі ў многім паходзяць з тэндэнцыйна скажаемага нашымі суседзямі мінулага і з адсутнасці агульнадаступнай праўдзівай інфармацыі. У гэтым кароткім нарысе нельга крок за крокам прааналізаваць усе этапы фарміравання славянскіх народнасцей. Наўрад ці патрэбен такі скрупулёзны навуковы падыход у рамках газетнай інфармацыі, паколькі ёсць ужо адпаведныя працы аўтарытэтных спецыялістаў, этнографаў, гісторыкаў і эканамістаў. Мэта гэтага паведамлення — даць прымальны падмурак для кансалідацыі беларусаў з тымі, хто каранямі свайго паходжання звязаны з нашым краем, але сёння адасоблена лічыць сябе палякам або рускім.**

*«Грамадзяне Беларускай ССР усіх нацыянальнасцей складаюць беларускі народ».*
*Арт. 2 Дэкларацыі аб суверэнітэце БССР.*

Лёс мой неаддзельны ад лёсу роднага краю. Цяжар і трывогі перажытага, вопыт бацькоў і блізкіх, знаёмства з людзьмі розных нацыянальнасцей, рознага ўзроўню культуры і ведаў даюць мне права на гэтую нацыянальную споведзь, якая пастулова фарміравалася этапамі жыццёвага шляху ў розных кутках Беларусі.

Пачну з таго, што бліжэй мне па прафесійнай падрыхтоўцы, — з генетыкі. Навука гэтая за апошнія дзесяцігоддзі дасягнула такога ўзроўню развіцця, што пачала вырашаць задачы, якія зусім нядаўна лічыліся амаль недасягальнымі на практыцы. Асновай генетыкі з'яўляецца ўяўленне аб матэрыяльным носьбіце спадчыннай інфармацыі, малекулах нуклеінавых кіслот, у якіх закадзіраваны ўсе галоўныя прыкметы любых біялагічных аб'ектаў, хай будуць гэта вірусы, бактэрыі, расліны, жывёлы або чалавек. Скампанаваныя ў канкрэтных утварэннях (гены, храмасомы), нуклеінавыя кіслоты пераносяць ад індывідуума да індывідуума план пабудовы новага арганізма, які нараджаецца. Ад бацькоў, у выглядзе канкрэтных малекул, у аплодненай яйцаклетцы фарміруецца па законах фізікі-хіміі новы зародак з прадвызначанымі прыкметамі. Яны, гэтыя прыкметы, могуць быць расавымі, нацыянальнымі і індывідуальнымі толькі ў той меры, у якой яны ўнаследаваны ад прабацькоў. З пакаленняў у пакаленні ў людзей фарміруецца камбінацыя прыкмет, па якіх мы лёгка (нават па знешнім выглядзе) адрознім негра ад эскімоса, жыхара Сярэдняй Азіі ад выхадца са Скандынавіі. Часам гэтыя групавыя прыкметы знешне менш адрозныя сярод родкасных народаў з блізкай па характары будовай нуклеінавых кіслот, але закладзеная ў апошніх інфармацыях канкрэтна і аб'ектыўна кантралююцца ажно да ўзроўню асобы. З апошняга пункту гледжання кожны чалавек абсалютна своеасаблівы і матэрыяльна неадлучны ад усіх сваіх продкаў. Даследуючы гены або іх спалучэнні, мы як у кнізе можам чытаць цяпер нашы асноватворныя (прыроджаныя) уласцівасці і нашы радаводныя. Не так даўно, напрыклад, не вырашалася адназначна пытанне бацькоўства ў спрэчных сітуацыях. Зараз такой праблемы няма, паколькі распрацаваны метады дакладнага аналізу («прачытання») бацькоўскай і дзіцячай нуклеінавых кіслот. Супадзенні ў будове гэтых малекул — прамы доказ роднасці індывідуумаў, якія параўноўваюцца.

Гэты досыць кароткі, магчыма, залішне спрошчаны аповяд пра магчымасці сучаснай генетыкі невыпадковы. Ён прыведзены толькі дзеля таго, каб аб'ектыўна падвесці чытача да правільнага ўспрымання таго, што можна прасачыць і навукова растлумачыць метадамі генетыкі ў такім складаным пытанні, як фарміраванне нацыі.

Паспрабуем спачатку сумясціць генетыку і гісторыю чалавецтва. Гены перадаюцца ад чалавека чалавеку пры размнажэнні. Відавочна, што адносная аднароднасць генетычнага фонду ў таго альбо іншага народа найцесным чынам звязана з тым, жыў гэты народ у абсалютнай (на востраве або ў джунглях) ці адноснай (качэўнікі, перасяленні народаў) ізаляцыі, папаўняючы ў апошнім выпадку свой генафонд ад іншых плямёнаў ці народаў. У сілу гэтых заканамернасцей на кантынентах склаліся расы, унутры кантынентаў — народнасці і нацыянальнасці. Вядома, на гэты біялагічны падмурак накладаліся ўплывы сацыяльных фактараў, якія канчаткова фарміравалі нацыю як этна-гістарычнае паняцце. У пераважнай большасці сучасных нацый ёсць свая агульная біялагічная і свая гістарычная аснова.

Возьмем, напрыклад, антрапалагічныя характарыстыкі (рост, формы цела і яго частак і інш.), прама звязаныя з генетычным праграмаваннем. Будова насаглоткі, форма рота, асаблівасці галасавых звязак адказныя за характар голасу і гаворкі чалавека. У Беларусі, напрыклад, гэтым у значнай ступені тлумачыцца вельмі высокая частата тэнараў сярод мужчын, характар прамаўлення некаторых галосных і зычных. Біялагічная аснова, такім чынам, далучана да фарміравання мовы народа, якая разам з іншымі праявамі культуры і знешняга выгляду аб'ектыўна даследуецца этнографамі як адна з важнейшых нацыянальных прыкмет.

Калі прыняць такі назукозы падыход за аснову, то адпаведна з этнаграфічнымі даследаваннямі акадэміка Я. Карскага (Беларусы, т. I. Варшава, 1903), беларусы насяляюць не толькі цяперашнюю тэрыторыю БССР, а і сумежныя вобласці Смаленскай, Бранскай і Вяліка-Лукскай абласцей, Віленшчыну, Беласточчыну і іншыя суседнія раёны. На шэрагу пералічаных тэрыторый (Смаленск, Беласток) нават афіцыйна аб'яўлялася або існавала нейкі час БССР, а ў некаторых раённых цэнтрах захаду Смаленскай вобласці працавалі адзін час і беларускія школы. Вільня займае асаблівае месца ў гісторыі беларускай культуры. Горад, які ўзнік у складзе Полацкага княства, і прылеглыя тэрыторыі былі пераважна славянскімі. Сама назва горада паходзіць ад ракі Віліі (па-літоўску рака Нярыс), ад гэтага другога ўласна літоўскага (аўкштайскага) імя ў азначэнне горада, як бачым, нічога не трапіла. Праваслаўе на Беласточчыне і Віленшчыне з'явілася, да слова сказаць, на два стагоддзі раней, чым каталіцызм, выключна характэрны ў той час толькі для польскага насельніцтва.

Аналіз гістарычных і археалагічных дадзеных аб распаўсюджванні той або іншай рэлігіі і яе помнікаў дагэтуль з'яўляецца адным з важнейшых крытэрыяў, па якіх праводзяцца міжнацыянальныя і дзяржаўныя межы. Знакамітая лінія Керзана, паводле якой пасля першай сусветнай вайны ўзгаднялася Антантай усходняя мяжа адроджанай Польшчы, у многім грунтуецца менавіта на такіх дадзеных. Не здзіўляе таму, што калі ў 30-я гады на замкавай гары ў Гародні былі знойдзены рэшткі старажытнага праваслаўнага храма, то польскія археолагі па сутнасці не засведчылі гэта афіцыйна, бо факт гэты прама супярэчыў аднабаковай польскай гістарыяграфіі, якая лічыла Гародню горадам **польскім.** Вайна перапыніла раскопкі, у 40-я пасляваенныя гады археалагічныя пошукі ўжо ў беларускай Гародні прадоўжыла экспедыцыя з Масквы: праваслаўе ж было асновай нараджэння расійскай дзяржаўнасці. Вынікі раскопак апублікаваны ў серыі гісторый рускіх гарадоў. (Воронин Н. Н. Древнее Гродно. Москва, 1954). Да гэтага часу рэлігійна-шавіністычныя настроі нашага ўсходняга суседа не зніклі цалкам, як і не знік пункт гледжання, што Беларусь гэта частка Расіі.

У аналізе біялагічнага грунту народаў нельга назваць якога-небудзь аднаго вызначальнага («нацыянальнага») гена, але камбінацыі многіх з іх, частата распаўсюджання асобных генаў у розных народаў досыць тыповая. Асабліва шматлікія нацыянальна-генетычныя даследаванні па лёгка кантралюемых прыкметах, за кожнай з якой стаіць толькі адзіны і ніякі іншы ген. Датычыць гэта, напрыклад, частаты пэўных груп і падгруп крыві, распаўсюджанасці рэзус-фактара. Суадносіны такіх прыкмет пры абследаванні вялікіх груп насельніцтва досыць дэманстратыўныя і па законах статыстыкі ацэньваюцца як высокапраўдзівыя крытэрыі аднароднасці насельніцтва. Генетычныя ацэнкі частаты распаўсюджання асобных груп крыві сярод беларусаў і палякаў Гродзенскай вобласці, беларусаў і палякаў Беластоцкага ваяводства параўноўваліся ў спецыяльных даследаваннях з аналагічнымі дадзенымі для карэннага насельніцтва Польшчы (у асоб, якія не мянялі ў чатырох пакаленнях сваёй нацыянальнасці).

Што ж выявілася пры такім аналізе? Аказалася, што беларусы і палякі Гродзенскай вобласці не адрозніваюцца адзін ад аднаго і ад беларусаў і палякаў Беласточчыны, але ўсе яны зусім не падобныя па частотах груп крыві на карэнных палякаў! Паходжанне тых, хто ў многіх пакаленнях нараджаўся на нашых землях, але лічыць цяпер сябе палякамі на Беларусі, генетыка вырашае, такім чынам, адназначна. Гэтыя «палякі» сваімі прабацькамі мелі толькі беларусаў і таму час паставіць пытанне, а як гэткая змена адбылася гістарычна?

Прыродныя ўмовы Беларусі (лясы, балоты) не спрыялі масавым перамяшчэнням розных народаў па яе тэрыторыі. Няма гістарычных дадзеных аб перасяленні ў нашы краі народаў Еўропы (палякаў, рускіх) або Азіі. Не закранула нас і татара-мангольскае іга, што, магчыма, лягло ў аснову самой назвы Белая (г. зн. свабодная) Русь. Тэрмін «белы» мог мець і толькі этнічныя знешнія прыкметы, паколькі на старажытных нямецкіх картах наш край фігурыраваў пад назвай Белая Рутэнія. Больш за тое, існуе нават тэорыя, што радзімай славян быў не басейн Дуная, а басейн Прыпяці і Дняпра. (Магчыма, адсюль разышліся нашы браты па генах у розныя бакі, на ўзаемадзеянні з германцамі (палякі), угора-фінамі (рускія), качэўнікамі паўднёвых стэпаў (украінцы) і г. д.) На поўначы Грэцыі, напрыклад, знайшлі выхадцаў з племені дрыгавічоў.

Беларуская нацыя сфарміравалася на аснове плямён крывічоў, радзімічаў, дрыгавічоў і балтаў. Падобна ўтварэнню Кіеўскай Русі, вырашальную ролю пры гэтым адыграла аб'яднанне пералічаных плямёнаў і княстваў, якія іх прадстаўлялі, на агульнай рэлігійнай аснове ў адзіную дзяржаву, якая з XIII ст. называлася Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае, а скарочана проста Літва. Вельмі важна нам, беларусам, ведаць, што словы Літва, ліцвін нічога агульнага не мелі з цяперашняй этнаграфічнай Літоўскай (правільна Летувіскай) рэспублікай, тэрыторыя якой у той далёкі час насіла іншае імя (Жэмайція, Аўкштайція, Жмудзь). Калі пісалі ці гаварылі ў сярэднія стагоддзі Літва, то мелі на ўвазе славян, якія жылі на нашай тэрыторыі і спавядалі праваслаўе, да якіх уцякалі «маскалі» ад тэрору Івана Грознага. Мы маем права і цяпер лічыць, што нашы літоўскія суседзі забралі наша гістарычнае імя сабе без усялякіх на тое падстаў...

З мінулым Вялікага княства добра знаёма і высокаадукаваная інтэлігенцыя сучаснай Літвы. Вядомы літоўскі празаік І. Авіжус у рамане «Потерянный кров» вуснамі свайго галоўнага героя нагадвае сваім суайчыннікам, што гісторыя Вялікага княства — гэта гісторыя беларускай культуры, а не літоўскай (у яе цяперашнім разуменні). Літоўскае пісьменства з'явілася на шмат стагоддзяў пазней за беларускую...

Але самая складаная рэч у нашай гісторыі — рэлігія. У барацьбе за незалежнасць Вялікага княства ад Кароны (Польшчы) рэлігія робіцца ідэалагічным водападзелам. Вялікія князі ў залежнасці ад палітычнай кан'юнктуры неаднаразова змянялі характар верасповядання і адпаведна арыентаваліся ў барацьбе за ўладу то на праваслаўную Маскву, то на каталіцкую Варшаву. Адпаведна з гэтымі рэлігійнымі накірункамі сталі ўсё часцей ужывацца прыметнікі «руская» або «польская» вера. Водгаласы такога падзелу захаваліся і да нашых дзён і ўсё часцей скарыстоўваюцца шавіністычнымі элементамі для штучнага падзелу нашага народа на «палякаў» і «рускіх». Абсурднасць сітуацыі відавочная хоць бы з таго, што ніхто беларуса-католіка не лічыць партугальцам толькі таму, што той католік, ці беларуса-праваслаўнага румынам, паколькі апошні таксама праваслаўны. Паўсюдна ў нас на Беларусі ў адной сям'і можна таму сустрэць сваякоў першага пакалення, але розных нацыянальнасцей. Падзел адной і той жа сям'і па рэлігійнай прыкмеце можна праілюстраваць на прыкладзе віцебскага роду Княжніных. Праваслаўны Я. Княжнін (1742—1791) рускі паэт, а католік Ф. Князьмін (1750—1807) паэт польскі. Нават прозвішчы іх у напісанні крыху відазмяніліся.

Першыя беспасляховыя спробы каталіцтва пранікнуць да ўсходніх славян былі зроблены ў XI ст., але яны абмежаваліся толькі двума храмамі (Гнезна каля Ваўкавыска, Тураў). Усё насельніцтва Вялікага княства ад X да XIII ст. заставалася праваслаўным. Актыўна пачалося будаўніцтва каталіцкіх храмаў толькі ў XIV—XV стст. У сямейным саюзе Польшчы і Вялікага княства (Ягайла-Ядвіга) на працягу двух стагоддзяў пачалося ўжо актыўнае, часта прымусовае акаталічванне насельніцтва Беларусі. У 1569 г. Люблінскай уніяй утвараецца федэратыўная Польска-беларуска-украінская дзяржава Рэч Паспалітая, узмацняецца рэлігійная паланізацыя насельніцтва Вялікага княства. Вельмі важна ў гэтай сувязі ўспомніць пра тое, што ніякага перасялення палякаў на землі Вялікага княства не было: па законе і па ўмовах саюза грамадзяне Польшчы (Кароны) не мелі права набываць нерухомасць у Беларусі ці займаць дзяржаўныя пасады. Гэты толькі палітыка-эканамічны факт яшчэ раз пацвярджае, што «палякі», якія з'яўляліся на нашых землях, маглі быць па паходжанні толькі беларусамі. З праваслаўных беларускіх магнатаў, у пагоні за каралеўскімі прывілеямі, католікамі сталі Радзівілы, Сапегі, Хадкевічы, Пацы, Шышкевічы і іншыя. Сярод апошніх аказаліся і прабацькі Агінскіх, Манюшкі, Міцкевіча, Ажэшкі, Сыракомлі, Касцюшкі, Дамейкі і многія з тых, хто сваёй творчасцю і палітычнай актыўнасцю пайшлі ў польскую культуру. Дваістасць этна-палітычнай сітуацыі абвастралася тым, што ўся прававая і дзяржаўная дзейнасць княства заставалася і па мове і па змесце традыцыйна беларускай. Радзівіл-католік і Сапега-католік выдавалі і рэдагавалі беларускі Статут Вялікага княства Літоўскага, а наследніца Радзівілаў у сваіх мемуарах, выдадзеных у наш час у Францыі, пісала: «я знаю, что по рождению мы были белорусами...»

Дваране (шляхта) Вялікага княства, якія прынялі каталіцтва, сілком робяць католікамі ўсіх сваіх сялян, ксяндзы часцей за ўсё засылаюцца на землі княства з Польшчы і вядуць актыўную рэлігійна-нацыянальную палітыку асіміляцыі беларусаў. Найбольш прагрэсіўныя элементы каталіцкага духавенства ўжо тады разумелі неэфектыўнасць гвалтоўнай паланізацыі раней праваслаўнага насельніцтва і таму каралеўская прывілея ў 1567 годзе Віленскай каталіцкай капітуле была напісана па-беларуску. У 1645 г. у пісьме езуітаў з Віленскай семінарыі Папе Рымскаму паведамляецца, што навучанне і малітвы праводзяцца па-беларуску, а Віленскі кардынал Станіслаў Пац у 1682 г. загадаў чытаць таксама па-беларуску пропаведзі ў касцёлах. Амаль усе католікі Вільні лічыліся ў той час ліцвінамі (беларусамі), а не палякамі. (Разуменне падзеленасці рэлігіі і нацыянальнасці даўно ёсць і ў апостальскай сталіцы: Ватыканскае радыё ўжо шмат гадоў вядзе рэгулярныя перадачы па-беларуску).

Якія цяперашнія «палякі» Гродзенскай вобласці, я меў магчымасць убачыць сам у пачатку 60-х гадоў у Адэльску. (Тым самым Адэльску, у якім нарадзіўся каталіцкі епіскап для Беларусі Т. Кандрусевіч). У тыя гады там ажыццяўляў сваю пастырскую дзейнасць вельмі актыўны ксёндз. Глыбока разумеючы важнасць адухоўлення жыцця сваіх прыхаджан, важнасць адцягнення моладзі ад ляноты, п'янства і іншых заганаў, пастар арганізуе пры касцёле ў Адэльску нават спартыўныя секцыі. Устрывожаныя аўтарытэтам касцёла, які хутка рос, каб адцягнуць прыхаджан ад рэлігіі, партыйныя органы вырашылі адчыніць у Адэльску сельскі універсітэт здароўя. Натуральна, адказваў за мерапрыемства

Гродзенскі медінстытут, а мне, выкладчыку інстытута, давялося два гады быць рэктарам гэтага універсітэта. 2—3 разы на месяц разам з прафесарамі і дацэнтамі медінстытута я ездзіў у Адэльск для арганізацыі лекцый. Людзі, якія прыходзілі на лекцыі, гаварылі па-беларуску, гэтак жа задавалі пытанні. Па-за універсітэтам жыццё ў Адэльску таксама ішло не па-польску, а «па-простаму», г. зн. па-беларуску. Даводзілася мне назіраць і прыхаджан-католікаў перад касцёлам Пятра і Паўла на Антокалі ў Вільні. Там летам і восенню 1945 г. у манастырскіх карпусах праходзіла мая служба ў Савецкай Арміі. Перад касцёлам па нядзелях і асабліва ў дні рэлігійных святаў заўсёды было людна і шумна, але «шум» гэты на 80—90 працэнтаў быў беларускім. Толькі зрэдку чуліся асобныя польскія словы ці кароткія абароты мовы. Такія яны, вільнякі. Існуюць на гэты конт сведчанні сучаснікаў другога вільняка, маладога Пілсудскага. Ён добра ведаў беларускую мову, а ў яго арміі да заключэння Рыжскага дагавору 1921 г. існаваў і асобны Беларускі полк.

Неабходна прызнаць, што актыўная палітыка Рыма на землях Беларусі мела і станоўчыя асветніцкія вынікі: у розных манастырах і пад іх апякунствам рэлігійныя арганізацыі (асабліва ордэн езуітаў) адкрылі шмат школ. Даступнасць утварэння ставілася ў залежнасць ад прыняцця каталіцтва, а навучанне вялося пераважна па-польску. Вынік такой палітыкі ўжо праз два стагоддзі фармальна павялічыў праслойку «палякаў». Ёсць і яшчэ адзін бок гэтага працэсу, які заслугоўвае ўвагі: адукацыя сама па сабе, як і навука ўвогуле вучыць аб'ектыўнасці. Сярод адукаваных католікаў нараджаецца нацыянальна-каталіцкі рух. Першымі прыхільнікамі беларускай культуры і беларускай дзяржаўнасці невыпадкова сталі беларусы-католікі: Дунін-Марцінкевіч, Сыракомля пішуць па-беларуску, Э. Ажэшка ў сваіх раманах па-беларуску вядзе дыялогі сваіх герояў, Манюшка ў Мінску ставіць першую беларускую оперу «Ідылія». У гэтай оперы толькі памешчыкі размаўлялі па-польску, а ўвесь народ па-беларуску. З каталіцкіх сем'яў выраслі нашы вялікія паэты М. Багдановіч, Я. Купала.

Ужо ў XIX ст. для адукаванага католіка рэлігія перастала лічыцца прыкметай нацыянальнасці. Менш адукаваныя пласты насельніцтва, якія не ведалі ўласнай вялікай гісторыі, падпарадкоўваючыся «святым айцам», як авечкі ў статку, пацягнуліся ў «польскасць». Больш таго, адчуваючы сваю, як бы гэта далікатней назваць, нежыццяздольнасць як палякаў (слабае валоданне мовай, няведанне польскай культуры, родзічы, якія гавораць «па-простаму» і г. д.), гэтыя беларуса-палякі паводзяць сябе як ашалелыя шавіністы. Яны большыя католікі, чым Папа Рымскі, і лепшыя палякі, чым варшавякі. Зразумець іх можна: у цяжкіх умовах ім увесь час трэба даказваць сваю «польскасць».

Стварэнне уніяцкай царквы (1695 г.), якая захоўвала праваслаўныя абрады, але падпарадкоўвалася Рыму, з'яўлялася нейкім кампрамісам для беларусаў, але ў рамках Рэчы Паспалітай гэты кампраміс насіў выяўлены прапольскі характар. Паланізацыя стала падобнай на каланізацыю, калі спецыяльным указам караля ў 1695 г. было забаронена карыстацца беларускай мовай для справаводства.

Недальнабачная нацыянальна-рэлігійная палітыка ў Рэчы Паспалітай польскай знаці падрывала асновы шматнацыянальнай дзяржавы, стварала аграмадную ўнутраную апазіцыю, якая арыентавалася на Маскву. Паводле вобразнага выказвання аднаго з гісторыкаў, Польшча «падавілася Украінай і Беларуссю». Суд гісторыі не прымусіў сябе чакаць —шматнацыянальная (не польская!) Рэч Паспалітая развалілася, а ўсе беларускія землі трапілі пад уладу Расіі. Пачаўся новы, на жаль, не больш лёгкі перыяд у жыцці нашага народа. Калі ў папярэдніх стагоддзях беларусаў гвалтоўна спрабавалі зрабіць палякамі, то цяпер штосьці аналагічнае пачало твexamples ў палітыцы гвалтоўнай русіфікацыі насельніцтва. І зноў частка пануючых класаў з духавенства і дваранства адкалолася ад свайго народа. Свяшчэннікі-уніяты, што ўвасаблялі саюз каталіцтва і праваслаўя, амаль усе перайшлі ў апошняе. Царква пачала праводзіць вялікадзяржаўную палітыку рускай дзяржавы. Некаторыя магнаты (напрыклад, граф Патоцкі) пачалі лічыць сябе рускімі. Беларускае дваранства, атрымліваючы адукацыю ў Расіі, лайшло ў рускую культуру і навуку (Дастаеўскі, Рымскі-Корсакаў, Пржэвальскі і інш.)...

На заканчэнне прывяду яшчэ адзін сямейны прыклад, які ў самай яркай форме апавядае пра рэлігійна-нацыянальныя непаразуменні на землях Беларусі. Гаворка пойдзе пра сям'ю маёй маці. Усе яны сялянамі вякамі пражывалі на Палессі паміж Брэстам і Пінскам. У 1916 г., як бежанцы, апынуліся далёка ад фронту ў Расіі. Там на пытанне пра нацыянальнасць яны не маглі нічога адказаць, акрамя як назвацца «тутэйшымі». Па геаграфічнай прыкмеце іх паходжання, па роднай мове іх упершыню ў дакументах запісалі як беларусаў. Грамадзянская вайна падзяліла сям'ю, мая маці апынулася ў Мінску, дзе потым нарадзіўся і я сам. Астатняя сям'я маці вярнулася ў родныя мясціны і апынулася такім чынам на тэрыторыі Польшчы. Недзе ў 20-я гады пры перапісе насельніцтва польскімі ўладамі бацькі і два браты маёй маці былі запісаны ў гміне як «рускія» на той падставе, што яны былі праваслаўныя. Вырас малодшы брат маёй маці, закахаўся ў дачку польскага легіянера, які пасяліўся ў Драгічыне, і для ўступлення ў шлюб выбраў вянчанне з нявестай-каталічкай па «дзяржаўнай рэлігіі» ў касцёле. Ператварыўшыся праз жаніцьбу ў католіка, ён тут жа па ўсіх дакументах пачаў лічыцца палякам. Пазней ён з жонкай паехаў у Лодзь, дзе жыве і цяпер. Абсурднасць гэтай гісторыі відавочная: у адных і тых жа бацькоў усе трое дзяцей сталі людзьмі рознай нацыянальнасці — мая маці беларуска, адзін мой дзядзька рускі, другі мой дзядзька — паляк!

Расказаўшы аднойчы гэтую гісторыю ў Гародні на сходзе, я закончыў яе жартам: «Я гэткі ж турак, як некаторыя з прысутных у зале палякі»... У перапынку да мяне падышоў адзін з актывістаў польскага таварыства імя А. Міцкевіча з прэтэнзіяй, што я беларускі нацыяналіст, шавініст і да т. п. Гэты чалавек лічыў рэзонным паведаміць мне, што ў адпаведнасці з рэкамендацыямі ААН нацыянальнасць вызначаецца тым, што і як дадзены чалавек «адчувае». На маё пытанне, ці можа негр-нігерыец «адчуць» сябе палякам, апанент толькі ад нечаканасці разявіў рот, але не даў яснага адказу. Відаць, не прачытаўшы ўважліва дакументы ААН, гэты зусім шчыры польскі патрыёт меў на ўвазе выпадкі вызначэння нацыянальнасці ў змешаных шлюбах. Так, пытанне гэтае ў розных краінах вырашаецца па-рознаму: у Ізраілі перавага аддаецца нацыянальнасці маці, у Германіі адназначна бацьку, у колішнім СССР і многіх іншых краінах па-дэмакратычнаму, як і рэкамендуецца ААН, шляхам выбару, арыентуючыся на аднаго з бацькоў, у дадзеным выпадку па «адчуванні».

Не магу не расказаць анекдатычны выпадак, які імпануе майму прыгаданаму апаненту. У школе ў 5-м ці ў 6-м класе ў майго сына настаўніца спытала пра яго нацыянальнасць. Той адразу ж адказаў, што ён «украінец». На здзіўленае пытанне настаўніцы: «Як жа гэта, калі ніводны з бацькоў не ўкраінец?», ён растумачыў: «Я «хварэю» за ўкраінскую футбольную каманду з Кіева!» Логіка майго сына нагадвала логіку майго апанента. Да месца тады толькі спытаць, як часта можна мяняць на падставе «адчування» сваю нацыянальную прыналежнасць? Што сказаў бы мой апанент-паляк у той дзень, калі сотні тысяч памяран раптам «адчулі» б сябе немцамі?

Неабгрунтаваны суб'ектывізм у гэтым немалаважным пытанні відавочны. Цяпер, пасля аб'яўлення суверэнітэту Беларусі, нам не адысці і ад вырашэння генеалагічных пытанняў у вызначэнні нацыянальнасці. Самы рацыянальны для нашых умоў прынцып — калі ты ці твае продкі заўсёды жылі на канкрэтнай этнаграфічнай тэрыторыі і новых генаў не прынеслі табе звонку, ты — сын або дачка асноўнага народа.

За мінулыя часы, калі простыя людзі маўчалі, а іх лёсам распараджаліся вялікія князі, каралі, імператары, правадыры ці прывілеяваныя шляхецкія, дваранскія або партыйныя іх памагатыя, мы не маем права прад'яўляць прэтэнзіі якому-небудзь народу. Народы, у прынцыпе, ніколі не былі ворагамі адзін аднаму. Іх сутыкалі толькі антынародныя рэжымы. Гэтыя ж рэжымы праследавалі тых, хто аддана любіў Беларусь і верна служыў ёй. Лёс гэтых людзей дэманстратыўны і павучальны. Яны жылі ў народзе, іх сем'і былі па-сапраўднаму інтэрнацыянальныя, але іх сумленная беларускасць заўсёды перашкаджала ўладам незалежна ад іх дзяржаўнасці. Таму, напрыклад, адзін з выдаўцоў «Нашай Нівы» А. Уласаў сядзеў у турме ў царскай Расіі, у Польшчы і ў СССР, той жа турэмны шлях (Расія, Польшча, СССР) прайшоў А. Луцкевіч і іншыя. Дзесяткі дзеячаў беларускага нацыянальна - рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі (Б. Тарашкевіч і інш.), адсядзеўшы ў турмах буржуазнай Польшчы, пазней аказваліся ў турмах НКУС, дзе амаль усе і загінулі. Беларускі паэт С. Пяюн (Новік), які цяпер жыве ў Мінску, толькі за свой беларускі патрыятызм пасля польскай турмы апынуўся ў нямецкім, а потым у савецкім канцлагеры. Прыклады такога роду сведчаць толькі пра адно: вялікадзяржаўныя інтарэсы ўрадаў нашых суседзяў вельмі часта былі несумяшчальныя з прынцыпамі дэмакратычнай нацыянальнай палітыкі, несумяшчальныя з інтарэсамі беларускага народа.

Так, нас знарок і сілай дзялілі на «палякаў» і «рускіх», нас не лічылі народам, здольным да самастойнага дзяржаўнага існавання, але мы выжылі, не пасягаючы на чужое дабро, не прыніжаючы нашых суседзяў. Добрая слава беларусаў як працавітага, цярплівага і пазбаўленага пачварнага шавінізму народа — зарука нашай будучыні ў абноўленай Еўропе, у абноўленым негвалтоўным свеце. Дэкларацыя аб суверэнітэце, у якой гаворыцца аб беларускім народзе, касуе навязаны нам пры дапамозе рэлігіі і «інтэрнацыяналістаў» штучны падзел на тры нацыі. Нам няма чаго дзяліць. У нашым агульным беларускім доме без аглядак на Маскву ці Варшаву ёсць што рабіць аднай дружнай сям'ёй ва ўмовах ужо аб'яўленага дзяржаўнага суверэнітэту.

**Ю. АСТРОЎСКІ,**
**акадэмік АН Беларусі.**

г. Гародня.

**Ад рэдакцыі.**
Публікацыя Ю. Астроўскага, на жаль, пасмяротная: у мінулым годзе яго не стала. Рукапіс у рэдакцыю перадала жонка аўтара І. Астроўская.

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# НЕ ТРЭБА І ЦАРКВУ ІДЭАЛІЗАВАЦЬ

Вось ужо дажылі мы да часу, што і хлеба надзённага няма, а словы «Не хлебом единым жив человек» не страчваюць свайго сэнсу. Душы патрэбна нешта большае, чым спадзяванне на заўтрашнюю сытасць — ёй патрэбна жыццё, а значыць — вера ў вышэйшае дабро, справядлівасць, сэнс існавання, у тое, што стаіць над нікчэмнай будзённасцю таго свету, у які мы кінуты. Разбіты ідэалы сямі дзесяцігоддзяў, і, выдзіраючыся з ланцугоў сумненняў, мноства душ зараз пацягнулася да царквы...

Мушу згадзіцца з Ю. Залоскам, які пісаў у «ЛіМе»: «У вёсцы, правінцыйных гарадках (ды і ў сталіцы) цэрквы, касцёлы і маленькія дамы з'яўляюцца практычна адзінымі ачагамі духоўнасці». Усё, бадай, так, хаця ёсць бібліятэкі, музеі, цудоўная музыка, жывапіс. Прыгажосць выратуе свет!.. Толькі каб успрымаць яе, пачуцці і розум патрэбна рыхтаваць з маленства, бо талент успрымання, як і талент творчасці, даецца адзінкам...

Здаецца, царква прапануе тое, што зразумела ўсім. Але ж і тут не так усё проста. Мы цягнемся да царквы, ды там мы таксама — якія ёсць. Раз-пораз у розных цэрквах узнёслы настрой, з якім я ўваходзіла ў Храм, змяняўся смуткам расчаравання: то чула гучныя галасы бабуль, занятых плёткай, то нехта, не пажадаўшы прыдбаць свечку, бесцырымонна пераносіў маю да «свайго» святога. А калі прысутнічала на памінальных абрадах, дзе панаваў, як бы мякчэй сказаць, занадта «мірскі» настрой, жаданне прыходзіць у царкву доўга потым не з'яўлялася.

**Усё дрэннае, што адбывалася навокал нас, не магло не закрануць і царкву. З сумнай усмешкай нагадваю той нядаўні час, калі мы шчыра верылі, што царква можа ўсё. Ну, напрыклад, выратаваць помнікі дойлідства, якія гінуць пад шыльдамі «захоўваецца дзяржавай». Маўляў, дастаткова перадаць такі помнік царкве, а ўжо яна... І вось у мясцовым друку Гомельшчыны з'явіліся патрабаванні аддаць духавенству цудоўны сабор Пятра і Паўла; краязнаўчая група «Вытокі» сабрала тады больш за тысячу подпісаў гамяльчан... Затым у цэнтральных газетах з'явіліся патрабаванні аб перадачы сабора за подпісамі старшыні Савецкага фонду культуры Д. Ліхачова, Беларускага фонду культуры — І. Чыгрынава, а з імі — ледзь не ўсе знакамітыя імёны дзеячаў культуры былога Саюза. Здзейснілася — агульныя намаганні закончыліся перамогай, ды толькі... не агульнай радасцю. Там, высока, не бачна тых праблем, якія выявіліся ў спробах адраджэння сабора. Вось тут сёй-той былы аптыміст з абласнога музея ці фонду культуры пачаў чухаць патыліцу ды бегаць разам з абласной «аховай помнікаў» да сабора глядзець, ці не збіваюць старыя роспісы, ці не выводзяць прыступкі на магілу заснавальніка сабора М. Румянцава... Не! Падышлі да магілы сантыметр у сантыметр. Трэба было ўгаворваць, што не след дах класічнага сабора рабіць «у адным стылі» з эклектычнай капліцай...**

Шкада, што былы Савецкі фонд культуры не давёў добрую справу да канца, адмовіўшыся ў той час стварыць прафесійны нагляд за рэстаўрацыяй сабора. Цяпер мы з сумам глядзім, як не стасуецца з воблікам сабора крыж, званіца, як каля ўваходу ў помнік дойлідства, што ўвасабляў гармонію і чысціню класіцызму, з'явіліся кірмашнага выгляду ліхтары — апошні шык кааператыўнага густу. Епіскап Арыстарх выказаў папрокі ў адрас існуючага архітэктурнага нагляду. Наогул, размова з ім адбылася цяжкая...

У гомельскіх газетах можна прачытаць: «Сабор пакрысе набывае выгляд, адпавядаючы яго статусу, але галоўнае ўсё ж тое, што цэнтрам духоўнага жыцця ён стаў з першых дзён свайго адраджэння»! Куды там «адпавядае»! Бедны сабор, ці такіх убогіх роспісаў варта твая высакародная архітэктура?! Лепш бы сціпла прамаўчаць з нагоды такога аздаблення інтэр'ера, бо, мабыць, ніхто сёння не вінаваты ў яго «мастацкіх якасцях»—дзе возьмеш тыя магчымасці, што былі ў М. Румянцава!

Што датычыць «духоўнасці» з першых дзён. Так, пра гэта можна казаць шмат і сцвярджальна, але... не трэба было б гаварыць менавіта цяпер, калі ледзь-ледзь сціхла абурэнне, што, прабачце, нужнік для веруючых спрабавалі паставіць побач з саборам, на касцях ранейшых нямецкіх могілак. На маё пытанне, ці можна так рабіць, епіскап Арыстарх адказаў: «А каго лепей пашкадаваць — могілкі ці жывую бабульку?..»

Карацей, як быць з духоўнасцю, за якой мы ідзём у царкву з працягнутай рукой? Не трэба і тут эйфарыі, не трэба ідэалізацыі.

**В. ЛЯМЦАВА-КАНАСЕВІЧ.**
**намеснік старшыні праўлення Гомельскага абласнога аддзялення Беларускага фонду культуры.**

# ПІШУ НЕ ДЗЕЛЯ ЗАРОБКУ

Надоечы атрымаў я паштовы перавод на 9 руб. 10 кап. ад рэдакцыі «ЛіМа». Я прашу мне не высылаць больш грошы, бо я пішу ў газету не для заробку. А газета і так у цяжкім стане. Калі б я жыў у нармальнай, цывілізаванай краіне, то я абавязкова дапамог бы «ЛіМу» сваімі грашамі, бо я 30 гадоў адпрацаваў на Крайняй Поўначы і 16—17 гадоў таму меў заробак 630—640 рублёў. Але цяпер адзін год работы на Поўначы прыроўнены да года работы ў Брэсце ці Мінску, так што стаж маёй работы лічыцца зараз 30 гадоў (у Расіі ён лічыўся б 45 гадоў) і пенсію налічваюць з заробку шаснаццацігадовай даўнасці.

Я вельмі ўдзячны вам за тое, што вы выносіце на старонкі вашай газеты мае думкі, на якія я пасля атрымліваю водгукі. Так што я, нядаўні яшчэ ўдавец, не адчуваю адзіноты.

І я лічу сваім абавязкам падтрымаць такую газету, як «ЛіМ», сваімі сродкамі пры магчымасці, а не атрымліваць узнагароду ад вас. Ды за што ўзнагароду? Не за аповесць, не за верш, а за свой роздум, частка з якога надрукавана ў газеце.

Я яшчэ раз хачу сказаць рэдакцыі «ЛіМа» шчырае дзякуй за тое, што вы апублікавалі хоць частку майго роздуму па тых ці іншых пытаннях, а яшчэ ёсць пытанні, якімі я хацеў бы падзяліцца з вамі, і брыдка за гэта яшчэ і грошы атрымліваць у той час, як друк у вельмі цяжкім становішчы.

**Аляксандр БАХАНЧЫК.**

г. Гарадзея.

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Алесю АДАМОВІЧУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці брата Яўгена.**

# ТУГА ПА НАДНЁМАНСКІХ ВАКОЛІЦАХ

Ёсць у родных мясцінах патаемная сіла, якая магічна дзейнічае скрозь адлегласці, якая неадольна ўзрастае з кожным пражытым годам. І нарэшце чалавек мусіць кінуць усё, каб імчацца за сваім дзяцінствам і маладосцю — няхай на канец свету. Пра гэта думалася мне, калі ў цягніку Варшава — Масква, пасля пералёту з Лондана, чытаў зборнік польскіх вершаў Зофіі Ільінскай «Віхуры ў збожжы», выдадзены за Ла-Маншам у 1970 годзе і перасланы аўтаркай у «беларускую вёску» ў Фінчлі, у бібліятэку імя Францішка Скарыны. А да гэтага былі два лісты, быў кароткі званок з графства Карнуэл і гучалі ў жаночым голасе туга і надзея. Гэтымі ж тугой і надзеяй прасякнуты ледзь не ўсе вершы зборніка. І нават калі б чытач не ведаў, што аўтарка нарадзілася ў Наднямонні, у маёнтку Морынь, што каля Іўя, усё роўна пазнаў бы: гэта беларускія краявіды. Бо так шчымліва і светла можна пісаць толькі пра Беларусь.

Дзявочае прозвішча Зофіі Ільінскай — Брахоцкая — добра знанае на Лідчыне і Навагрудчыне. Яе бацька, Аляксандр Брахоцкі, быў суддзёй у Іўі. Яго браты Станіслаў і Андрэй гаспадарылі ў Вераскове і Мажэйкаве. Дзядзька па маці, Кароль О'Рурк (ірландзец па паходжанні), жыў ва Уселюбе, а яго брат Эдуард у 1917—1918 гг. быў біскупам у Мінску. У васемнаццаць гадоў Зофія Брахоцкая трапіла ў Англію, выйшаўшы замуж, стала Ільінскай, пад гэтым прозвішчам выдала некалькі польскіх зборнікаў вершаў. Цяпер перайшла ўжо на англійскую мову.

І вось спадарыня Зофія, нягледзячы на свой немалады ўзрост, рашыла «злавіць маладосць». «Здаецца, — піша яна, — што Беларусь стаіць на парозе незвычайных гістарычных падзей. Можа, дзякуючы майму візіту змагу (для сябе ва ўсякім выпадку) высветліць нешта з нашага супольнага мінулага?!»

Значыць — пасвятлее туга і здзейсняцца надзеі.

**Адам МАЛЬДЗІС.**

**Зофія ІЛЬІНСКАЯ**

## Лістапад над Нёмнам

Там — як тут — холад — госць нечаканы.
Лістапад, восенню зрабаваны,
грузне ў травах, варонамі крача,
лісце рэдкае з дрэваў зрывае:
хай ведае смутак выгнанца бядачы,
хай забудзе на барвы і шаны,
хай плача...

Асыпаецца лісце слухмяна,
змокшы, страціўшы полыск яскравы, —
падаюць непрытомныя плаксы
і, як бронзава-ржавыя кляксы,
валяцца ў травы.

Цемрай ноч там таксама заслана,
лістапад б'ецца ў шыбы дажджыста.
Ранак пойдзе над Нёмнам рана,
дзе грыбы гніюць чарвячыста
на пасцелях макрутkіх з іглiцы...
Дождж імкліва сплывае з іх, быццам
смутная,
змучаная пяшчота...

Валачэцца фурманка гасцінцам.
Конь брыдзе па слядах каляіны,
згубленых у калюжах балота,
шлях як не захлынецца ад гліны,
часам вецер то сціхне стамлёны,
то зноў скардзіцца. Хлюпае слота.
Неба валіцца цяжка. Цёмна.
Божа, дзе ты! — крычаць вароны.

Лістапад валачэцца над Нёмнам.

## Дух лорда Керзона

Шлях за вечнасць даўжэй. Ад месячка бела.
Зоркі свецяць карой, як бярозы ў алеі,
— указальнікі хмарнай паляны —
кіну сонную ракаўку млявага цела
і за Нёман падамся шукаць у завеі
белы дом мураваны.

Учалую лістоўніцу. (Можа, не спілавалі).
Ветру студзеньскага пачую споведзь:
прытулю снег да твару ў гуле.

Гэта люба! Не памятаю ад жалю.
Потым рушу шукаць у алеі ліповай
і там, дзе стаялі вуллі.

Сніла, што патапілі калісь нашыя вуллі,
сніла, што патапілі ўсіх пчолак. Божа,
нават сном не шкадуеш іх ты.
Ведаю, ўсё таму, што наша Уршуля
«Рыбкі ўсе спяць» спявала прыгожа
песню ў заценю піхты.

Тут жа клікала Вольга: куууу-куркі, недарэчкі,
сыплючы грачаную кашку й зярняты;
тут яшчэ важаць сена ўспамінаў шалі.
Тут Алёша калісь расс<sup></sup>паў мех сечкі,
тут з Генькаю цалаваўся — як чулыя
птушаняты, —
калі дажынкі гулялі.

Тут калісь Міхал — гожы быў ён у
маладосці,
жонку шукаў, каб добра кароў даіла.
— Як ён скакаў апантана. —
Не хацеў ад жонкі ні маладосці, ні
прыгажосці,
аж знайшлася на гаспадарку сіла:
ендза ў хадаках драўляных.

Сцены змерзлыя дома палашчу рукою,
гляну ў вокны пустыя. Сцішу рухі.
Трохі страшна, ніякавата...
Па-беларуску хтось шэпча ў дрэвах спакою,
штось рыпіць. Даўней тут хадзілі духі.
Нават чую, як бояззю сцята.

Засцерагалі мяне. Былі гэта сон ці ява:
улічы, дух лорда Керзона там страшыць,
адыйдзіся, як надарыцца певень п'яны.
Ды ведаю, жыць не дазволіць духу ласкава
у шчаслівым, але чужым паддашшы
белы дом мураваны.

## Над рэчкай

Часам ясна нябёсам, з іх смуга аж шугае,
Выліваецца ў Нёман круглым шляхам
вясёлкі.
Павучыныя ніці сонца ў вір скоцяць золкі,
Неба топіцца ў рэчцы, ў небе рэчка другая.

І да двух берагоў лугавіны збягаюць
нястомна
Праць уборы свае, тканыя з зёлак і кветак.
І, прысеўшы на кукішкі, ўсміхаюцца лету,
Какетуючы з рэчкай. І расце сэрца Нёмна.

Ах, туды пойдзем. Чуеш: шэпты крылаў
зраселі!
Гэта сінія шклінкі ноч пазначыла сконам...
Бачыш! Два буцяны захацелі пасланць
пасцелю.

Мякка спаць на хлуддзі. Клякочуць нешта
загонам...
Буцянам гэтак добра... Сябра, мы звечарэлі,
І таксама б за Нёман... Ды калі! І чаго нам!

## Ты ці помніш?

Ты ці помніш той шэпт чаратовы!
І назойлівы енк камаровы,
віліся зграі!
Выраз той, дзе трывае трывога,
выраз гэткі ў бусла маладога,
як жаб шукае!

І пяшчоту кашачых мелодый,
рэха слала іх з асалодай
гоням, бору!
Крык пакрыўджаны пастушковы,
што ў хлявы заганяе каровы,
як сваю змору!

Ціхі дом, што пад ліпай густою
спаміж кветак і дрэў і павоі
дзікага вінаграду!
І шпакоўню, што ўпарахнела,
ды прыбраць яе ў ягады смела
арабініца рада!

Ты ці помніш той час вечаровы,
калі птушак заспаных размовы
чуліся меней...
Калі ног мы не адчувалі,
бульбу спечаную запівалі
сырапеняй!

«Ты ці помніш!» Гучыць неяк дзіўна,
гэтак проста і гэтак наіўна —
без прычыны.
Не пытай, не пачуеш адказу,
пустку шэрую ўстурыш адразу,
дзе спяць успаміны.

Пераклад Р. БАРАДУЛІНА.

**Марцін КОЎЗКІ**

## ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Казка. У адным садку дзеці гулялі ў правадыроў і заблудзілі. «Гэта ты вінаваты», — павярнуліся ўсе да куртаценькага. «Я толькі клікаў ісці за сонцам, — апраўдаўся той, — вёў картавенькі». Картавы ўпёр пальцы ў проймы камізэлькі: «Так, я вас натхніў, але вёў нядоўга, мяне змяніў сухаручка». Сухарукі апраўдвацца не стаў: «Пакуль на чале канвою быў я, усе ішлі як належыць быць, блуканне пачалося з косназыкага».

Тут на ўчастку з'явілася выхавальніца: «Карлуша, Вовачка, Ёся, Ленчык, усе астатнія, дзе вы там? Бяда з гэтымі сляпенькімі»...

●

Жлукта жлукту пытае: «Ты мяне паважаеш?» Не ад віна і брагі гэтая прага павагі. Цяжка жывой істоце без пашаноты. Зорка з неба міргае: «Я цябе паважаю».

●

— Як я стаў «Заслужаным», Пятро? Хіба я не ўзначальваў партбюро? Таленту няма? А ліха з ім, усё адно праславіць БелЭЛІМ. Лічыш, там адзін такі, як я? Нас, Пятро, вялікая сям'я.

●

«Мяняю хатнія рэчы на дзіцячае харчаванне»... Паклонімся сягонняшнім мацяркам, грамадзяне!

●

Прыстроіўся нябога: атэістам у Бога.

●

Як скрыгат танкавых трэкаў: «Ахер-бай-джан». У арабскую вязь ужо плюшчыць славянскія літары. Быццам іх прымушалі чытаць каран, не выгаворвалі гэтае слова савецкія лідэры: «Арзебайджан»... «Арзейбаджан»... «Айзербаджан»... Ай, джан!

●

Папулярны за мяжой і не вельмі дома — у мастацтве гэткі збой добра нам знаёмы. Ёсць, як кажуць, прэцэдэнты. Але каб з прэзідэнтам?

●

Абстаноўка вымагае гарнізоны разбудоўваць для абароны? Колькі ж будзе пры той абстаноўцы на аднаго беларуса вайскоўцаў? І колькі выпадзе ў асадку, як да іншых дойдзе парадкаў? Ці не час ужо нашай парафіі ўласную мець дэмаграфію?

●

У адным парламенце ішлі дэбаты аб прэміраванні дэпутатаў. Прынялі рашэнне прэміяваць за кожнае выступленне. Вельмі хутка колькасць прамоў перавысіла лік слухачоў. Тады прынялі рашэнне прэміяваць за ўдзел у пасяджэннях «А зарплата?» — паступіў запрос дэпутата. «Усё заваяванае свята», — запэўнілі дэпутата. Зноў узнялася буза: як прэміяваць, дык за кожнае «за»... Яшчэ тыдзень спрачалася палата аб мерах па заахвочванні дэпутатаў.

●

Выдаём дрэннае за нятленнае і людзям раім. Можа, добра, што ёсць яшчэ непісьменныя, а пісьменныя не ўсё чытаюць? Можа, час ужо ўзровень культуры вызначаць па выдадзенай макулатуры? Ці па здадзенай макулатуры?

●

Чалавек мусіць думаць. Хай сабе ні аб чым.

●

Зноў прагноз няпраўдзівы, дакладнасці ані каліва. Што хлусіць Масква — не дзіва, прыкра, што некаму жаліцца.

«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

# ДЫК ЦІ ПРАВІНЦЫЯ ЛЕПЕЛЬ?

У канцы дваццатых — пачатку трыццатых гадоў паўсюдна ў рэспубліцы выходзілі альманахі, нават часопісы. Пасля гэта было спынена, а цяпер, у сувязі з адраджэнскімі працэсамі, колішняя практыка набывае працяг, зноў у раённых цэнтрах з'яўляюцца свае літаратурна-мастацкія выданні. Лепель — не выключэнне. Нядаўна члены мясцовага літаратурнага аб'яднання «Выток» (яно два гады працуе пры рэдакцыі раённай газеты «Лепельскі край») выпусцілі паэтычны альманах «Запалі імгненне». Грашовыя сродкі на выданне знайшлі спонсары, а паліграфічную базу прапанавала полацкая ўзбуйненая друкарня імя Францішка Скарыны.

У альманаху прадстаўлены творы трынаццаці аўтараў — людзей рознага ўзросту, розных прафесій, але аднолькава ўлюблёных у паэзію. Як піша ў прадмове адзін з аўтараў Святлана Пліско, «развучыліся людзі радавацца, нават усміхацца развучыліся. І хочацца верыць, што гэтыя вершы — маленькія імгненні жыцця — хоць камусьці прынясуць радасць. Няхай жа і ў вашай душы загарыцца імгненне».

Адкрываецца кніга творамі Людмілы Барадзейкі. Яна працуе ў рэдакцыі раённай газеты, завочна вучыцца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Для вершаў Л. Барадзейкі характэрна назіральнасць: «За вясковай дарогай, якая трымае небасхіл за руку — пабяжы і пабачыш...», «Сумуюць асінні ў кароткіх спаднічках. Цыбатыя ногі ў вадзе па калені», «У заснежаны лес, як у новую веру, перайду ад пакутлівых, стомленых вуліц».

Аматары паэзіі ведаюць імя Веры Бародзіч. Культработнік, завочна вучыцца ў Мінскім інстытуце культуры, а па прызванні — паэт: «Кажуць, птушка ў клетцы не пяе, сэрца птушкі, кажуць, зацугляна... Проста мы не чуем спеў яе, нам глухімі быць накавана, а яна пяе, усё ж пяе шчыра і бездапаможна глуха... Многіх нам пачуццяў не стае, каб птушыны голас сэрцам слухаць».

А гэта ўжо голас педагога Веры Буланды: «А я — дзяўчына з Беларусі, з калыскі мятава-духмянай, адтуль, дзе кола круціць бусел, дзе кожны — госць даўно чаканы. З лугоў я, з каласкоў пшанічных, з азёраў сініх, ільняных, я — з песень. да душы лірычных, дзядоў і прадзедаў маіх».

Выхавацелька Святлана Якубоўская — таксама адна з самых маладых аўтараў альманаха. Адсюль, пэўна, асабліва ўсхваляваныя радкі: «Паэзія бурлівая рака.. Шукаю я ў віры тваім прыстання. Між хваляў не стамляюся блукаць, калі душа ва ўладзе шчыравання Паэзіі гаючая рака... Сунімеш боль душэўны і суцешыш. З матывам вершаванага радка сплываю спакваля ў тваё бязмежжа».

Тут жа — вершы медыка Раісы Гольдзінай, інжынера-механіка Аляксандра Макарава. педагогаў Святланы Пліско, Васіля Халадзіліна, Генадзя Астроўскага (ён, на жаль, заўчасна пайшоў з жыцця), афіцэра Станіслава Свірковіча, выкладчыка тэхнікума Уладзіміра Седзіна, спецыяліста сельскай гаспадаркі Людмілы Тухты, майстра Аляксандра Штэйнберга.

Адны з іх пішуць лепш, другія — горш, але без сумнення, жывуць паэзіяй. І як тут не пагадзіцца з Уладзімірам Арловым, які сказаў пранікнёнае слова пра творчасць лепельскіх паэтаў?! «Той. хто называе Лепель правінцыяй, проста не разумее, што сталіцы і правінцыі мы заўсёды носім у саміх сабе. Гэта пацвярджае і творчасць маладых лепельскіх паэтаў, голас якіх гучыць не толькі над іх казачна прыгожай зямлёй, але чуваць на ўсёй Беларусі. Няхай жа свецяць ім. люструючыся ў чыстых лепельскіх азёрах, зоркі ўдачы і натхнення!»

Цяпер лепельцы чакаюць выхаду ў свет другога свайго альманаха — «Наступіць дзень». Ахвотнікі набыць кніжкі хай звяртаюцца ў рэдакцыю раённай газеты «Лепельскі край».

**А. АН-ЕВІЧ.**





Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Выходзіць раз на ыдзень па пятніцах
Друкарня «Беларускі Дом друку».

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19.85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

Нумар падпісаны ў друк 14.05.92 у 18.10.





Індэкс 63856
Тыраж 18068

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12